Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

А.А БРУСЕВІЧ

# ФАКТАРЫ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ТВОРЧАСЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Дапаможнік па аднаіменнаму спецкурсу для студэнтаў спецыяльнасці 1-21 05 04 – Славянская філалогія

Гродна 2007

УДК 821.162.1
ББК 83.3.(4 Пол) 5
Б 89

Навуковы рэдактар: доктар філалагічных навук *С.П. Мусіенка*;

Рэцэнзенты: кандыдат філалагічных навук *І.Э. Багдановіч*;
доктар філалагічных навук *І.В. Жук*.

Рэкамендавана Саветам філалагічнага факультэта ГрДУ ім. Я.Купалы

**Брусевіч, А.А.**

Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча :
Б89 дапам./А.А.Брусевіч. – Гродна : ГрДУ, 2007. – 135 с.

ISBN 978-935-417-

У дапаможніку паказаны асноўныя вектары вывучэння творчасці вялікага польскага рамантыка Адама Міцкевіча ў кантэксце ўплыву на яго розных беларускіх фактараў (фальклору, мовы, гісторыі і інш.), разглядаюцца тыя мастацкія тэксты паэта, якія нясуць у сабе так званы беларускі субстрат, што праяўляецца на самых розных узроўнях – вобразным, ідэйным, тэматычным. Дапаможнік адрасаваны студэнтам спецыяльнасці «Славянская філалогія». Ён можа быць таксама карысным для выкладчыкаў ВНУ, якія чытаюць курсы і спецкурсы па славянскіх літаратурах, для настаўнікаў сярэдніх школаў і для ўсіх аматараў паэзіі Адама Міцкевіча.

**УДК 821.162.1**
**ББК 83.3.(4 Пол) 5**


**ISBN 978-985-417**

# УВОДЗІНЫ

Вывучэнне асаблівасцей і заканамернасцей уплыву беларускай культуры і літаратуры на творчасць замежных пісьменнікаў з'яўляецца адным з найбольш складаных і актуальных пытанняў у айчынным літаратуразнаўстве. Дапаможнік па спецкурсу «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» прысвечаны менавіта гэтаму пытанню: у ім разглядаецца адметнасць ўзаемадачынення польскай і беларускай літаратурнай традыцыі на матэрыяле творчай спадчыны нашага земляка, польскага паэта А.Міцкевіча, які ўзрос на беларускай этнакультурнай глебе. Зразумела, вырашэнне падобнай праблемы патрабуе ўсебаковага асвятлення беларуска-польскіх гісторыка-літаратурных і культурных сувязей, абумоўленых працяглым перыядам супольнай дзяржаўнасці і феноменам беларуска-польскага сумежжа, які грунтуецца на духоўнай роднасці двух славянскіх народаў.

Фактары беларускай культуры, асабліва народнай, па-рознаму праявіліся ў розныя перыяды творчасці А.Міцкевіча. На першым этапе (час стварэння «Баладаў і рамансаў») паэт пераважна выкарыстоўваў народныя легенды, паданні, прымхі і забабоны як своеасаблівы фон для агульнай рамантычнай карціны свету, якую імкнуўся супрацьпаставіць класіцыстычнаму светаўспрыманню. Чарговы этап (час напісання «Гражыны», II, IV і фрагментаў I часткі «Дзядоў») азнаменаваны пераўтварэннем так званага «народнага фону» у «народную ідэю». Беларуская культура ў гэтым выпадку становіцца асновай, на якой грунтуецца светапогляд А.Міцкевіча, філасофіяй ягонай паэзіі. Наступны этап у творчасці першага польскага рамантыка звязаны з трагічнымі падзеямі як у асабістым лёсе паэта, так і з трагедыяй радзімы (паражэнне паўстання 1830 – 1831 гг.). Найбольш значны тэкст гэтага этапу – трэцяя частка драматычнай паэмы «Дзяды» і яе адступленні. Час дрэзданскіх «Дзядоў» – час пераломны для А.Міцкевіча: вялікі рамантык пачынае паступова адкрываць для сябе новыя паэтычныя далягляды, звязаныя з рэалістычным мастацтвам. На нашу думку, дрэзданскую частку драматычнай паэмы нельга аддзяляць ад «Дзядоў» віленска-ковенскіх, таму што іх аб'ядноўвае не толькі агульная назва, агульная канцэпцыя герояў, але і адна ідэя – ідэя неўміручасці радзімы, якая атаясамліваецца з неўміручасцю народа.

Безумоўна, геній А.Міцкевіча належыць усяму свету, аднак і сёння ў літаратуразнаўстве існуюць погляды на асобу і творчасць паэта, вартыя перагляду. Так, многія даследчыкі традыцыйна лічаць

аўтара «Балад і рамансаў», «Дзядоў» і «Пана Тадэвуша» выключна польскім паэтам. Менавіта таму трэба правесці сістэмны аналіз сукупнасці фактараў беларускай культуры, якія паўплывалі на творчую і эстэтычную свядомасць А.Міцкевіча. Гэта паспрыяе вырашэнню важных тэарэтычных пытанняў, звязаных з беларуска-польскім літаратурным сумежжам: які статус будзе мець пісьменнік, народжаны некалькімі нацыянальнымі традыцыямі і пры якіх умовах мастацкі тэкст, створаны на адной мове, можа лічыцца фактам іншай нацыянальнай літаратуры.

Такім чынам, мэта нашага дапаможніка – выявіць і прааналізаваць мастацкія адметнасці паэтычнай спадчыны А.Міцкевіча у рэчышчы ўплыву на пісьменніка фактараў беларускай культуры, а таксама ў кантэксце гісторыка-літаратурных і этнакультурных беларуска-польскіх сувязей. Для дасягнення гэтай мэты ставяцца наступныя задачы:

- вызначыць ролю А.Міцкевіча ў развіцці польскай і беларускай рамантычнай літаратуры ў аспекце іх узаемных уплываў;
- на падставе даследаваных і выяўленых гісторыка-літаратурных і бібліяграфічных матэрыялаў вызначыць, якую ролю адводзіў А.Міцкевіч Беларусі, яе народу і культурна-гістарычнай спадчыне гэтага краю;
- супаставіўшы фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы з арыгінальнымі тэкстамі А.Міцкевіча, выявіць тэндэнцыю да творчага выкарыстання паэтам фальклору, абрадаў, побыту і звычаяў беларусаў;
- прасачыць эвалюцыю творчай і эстэтычнай свядомасці А.Міцкевіча на прыкладзе найбольш паказальных мастацкіх тэкстаў;
- абгрунтаваць прыналежнасць творчай спадчыны А.Міцкевіча дзвюм нацыянальным культурам – польскай і беларускай.

Галоўным прадметам вывучэння на лекцыйных і практычных занятках спецкурса «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» з'яўляецца паэтычная творчасць паэта віленска-ковенскага перыяду (1815 – 1823 гг.), пад час якога фактары беларускай культуры адыгралі найбольш значную ролю ў фармаванні і станаўленні мастацка-эстэтычнай свядомасці самага яскравага славянскага рамантыка. У дадзены перыяд узніклі «Балады і рамансы», паэма «Гражына», II і IV часткі драматычнай паэмы «Дзяды». Акрамя таго мы звернем увагу на III частку «Дзядоў», створаную ўжо на эміграцыі, аднак непарыўна звязаную з віленска-ковенскім перыядам. Прадмет даследавання – ідэйна-мастацкія асаблівасці творчых пошукаў паэта, звязаныя з уплывам на яго фактараў беларускай народнай культуры.

Безумоўна, гэта далёка не першая кніга, прысвечаная А.Міцкевічу і яго паэтычнай спадчыне. Затое гэта адна з першых спробаў вывучэння твораў вялікага рамантыка, іх ідэйна-мастацкіх адметнасцей у кантэксце беларускай культурнай традыцыі. Упершыню паказаны ўвесь комплекс уздзеяння на «Балады і рамансы», «Гражыну» і «Дзяды» фальклору, абрадаў, міфалогіі, мовы, гісторыі. У дадзеным выпадку ўсе гэтыя фактары разглядаюцца не толькі ў часавай, але і ў праблемна-мастацкай эвалюцыі, а таксама ў аспекце новай для Беларусі навукі – іміджалогіі.

## ГЛАВА 1
## АДАМ МІЦКЕВІЧ У АЦЭНКАХ БЕЛАРУСКАГА І ЗАМЕЖНАГА ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

Творчую спадчыну Адама Міцкевіча сёння па праву можна лічыць здабыткам сусветнай культуры. Але паколькі сусветная культура складаецца з асобных нацыянальных культур, само сабой узнікае пытанне: кім быў паводле нацыянальнай прыналежнасці стваральнік такой багатай спадчыны? Адназначнага адказу на гэта пытанне між тым няма, таму што сам А.Міцкевіч называў сябе то палякам, то ліцвінам, то беларусам, а радзімай сваёй лічыў Вялікае Княства Літоўскае, разам з тым ён быў і патрыётам Рэчы Паспалітай, дзяржавы, агульнай для многіх народаў і нацыянальных культур. Па гэтай прычыне больш мэтазгодным будзе гаварыць пра ўплыў той ці іншай нацыянальнай культуры на А.Міцкевіча, а не пра яго нацыянальную прыналежнасць.

Пытанне аб уплыве фактараў беларускай культуры на творчасць А.Міцкевіча падымалася ў розныя часы рознымі даследчыкамі. Аднак усе міцкевічазнаўцы як дамінанту вылучалі і даследавалі толькі фальклорны фактар, часткова або цалкам пакідаючы па-за ўвагай гістарычны, этычны, сацыяльны і іншыя фактары беларускай культуры, якія ўвесь час уплывалі на творчую свядомасць паэта.

Адным з першых даследчыкаў, які, даказваючы фальклорную аснову творчасці А.Міцкевіча, спасылаўся не толькі на польскі фальклор, але і на беларускія народныя крыніцы, быў польскі вучоны С.Здзярскі, аўтар кнігі «Народныя элементы ў польскай паэзіі XIX стагоддзя»[1] Так, напрыклад, характарызуючы вобразы і

[1] Zdzjarski, S. Pierwiastek Ludowy w poezji polskej XIX wieku / S. Zdzjarski. – Warszawa, 1901. – 308 s.

матывы балады А.Міцкевіча «Свіцязь», даследчык катэгарычна сцвярджаў, што паэт добра ведае паданні аб гэтым возеры, якія хадзілі і ходзяць сярод мясцовага насельніцтва. Гэтым самым С.Здзярскі прызнаваў, што А.Міцкевіч быў знаёмы з беларускім фальклорам і выкарыстоўваў яго ў сваёй творчасці. Аднак, як прызнаваўся сам вучоны, у яго не хапала ведаў беларускага фальклору. Няпоўнае знаёмства з матэрыяламі вуснай народнай творчасці беларусаў вельмі збядняла назіранні і высновы С.Здзярскага і іншых даследчыкаў: аналіз народнай першаасновы ў творчасці пісьменніка часцей за ўсё зводзіўся імі толькі да супастаўлення пэўных вобразаў і матываў у паэзіі А.Міцкевіча з адпаведнымі вобразамі і матывамі ў фальклоры розных народаў.

Побач з працамі вучоных-літаратуразнаўцаў ужо з другой паловы XIX ст. на старонках друкаваных выданняў з’яўляюцца артыкулы іншага кшталту, але таксама прысвечаныя А.Міцкевічу і яго сувязям з Беларуссю: у іх распавядалася пра мясціны, дзе жыў і тварыў пясняр, пра яго сяброў і паплечнікаў, пра малавядомыя моманты з біяграфіі паэта. Асобай А.Міцкевіча цікавіліся і прысвячалі яму свае артыкулы такія пісьменнікі і фалькларысты, як А.Плуг, В.Каратынскі, Е.Любоўскі, Э.Паўловіч А.Ельскі, С.Бэлза, Н.Роўба і некаторыя іншыя цікавыя постаці.

Найбольшы росквіт міцкевічазнаўства прыпадае на 20-я – 30-я гады XX ст., з прыходам у навуку такіх выдатных даследчыкаў, як В.Баровы, Л.Падгурскі-Аколаў, С.Пігань, К.Гурскі, Ю.Кляйнар, С.Станкевіч і некаторых іншых. Сярод прац В.Баровага, у якіх даследаванне творчасці А.Міцкевіча судакранаецца з «беларускай» праблемай, трэба назваць перад усім «Міцкевічаўскую Навагрудчыну»[2] і кнігу «Пра паэзію Міцкевіча»[3] . Аўтар неаднаразова сцвярджае, што сюжэты, вобразы, тэмы і ідэі для большасці сваіх твораў А.Міцкевіч чэрпаў з мясцовай рэчаіснасці, з жыцця, якім жылі навакольныя вёскі і засценкі. Як суадносяцца ў творах А.Міцкевіча рэальнасць (уласны досвед паэта, акаляючая рэчаіснасць і г.д.) з светам фантазіі – галоўная праблема, даследаванню якой прысвечана кніга Л.Падгурскага-Аколава «Міцкевічавыя рэаліі»[4]. На падставе супастаўлення розных фактаў з жыцця паэта і мастацкіх

---

[2] Borowy, W. Nowogrydczyzna Mickiewiczowska / W. Borowy // Ziarno. – 1925. – № 10/12. – S. 165–195.

[3] Borowy, W. O poezji Mickiewicza: w 2т / W. Borowy. – Lublin: Towarzystwo Naukowe Katolickiego Uniwersitetu Lubelskiego, 1958. – T.1.

[4] Podhorski-Okoiyw, L. Realia Mickiewiczowskie / L. Podhorski-Okoiyw. – Warszawa: Oficyna wydawnicza RYTM, 1999. – 478 s.

адметнасцяў яго твораў, вучоны даказвае, што ў вытокаў польскага рамантызму знаходзяцца ліцвінскія (беларускія) рэаліі, якія натхнялі вешчуна. Праблему фармавання творчай свядомасці А.Міцкевіча ўздымаў у сваіх працах С.Пігань. Так, напрыклад, у кнізе «Пан Тадэвуш» – рост, веліч і слава»,[5] ён звярнуў увагу на той факт, што паэт, увёўшы ў творы шматлікія народныя элементы, кіраваўся пачуццём правінцыйнага рэгіяналізму, які свядома падкрэсліваў і нават культываваў, таму што лічыў сябе ліцвінам і ніколі не чуўся заадно з палякамі Кароны. Узаемаадносіны А.Міцкевіча з беларускай народнай культурай, а таксама сувязь паэта з Беларуссю адзначаў К.Гурскі. Напрыклад, у працы «Адам Міцкевіч»[6] гаворыцца пра «беларускасць» драматычнай паэмы «Дзяды», а ў кнізе «Міцкевіч. Мастацкасць і мова»,[7] у раздзеле «Як Міцкевіч называў сваю малую айчыну?», даследуецца, якое значэнне паэт надаваў паняццям «Беларусь» і «беларускі». Каштоўны ўклад у міцкевічазнаўства ўнёс Ю.Кляйнар. У яго манаграфіі «Міцкевіч»[8] таксама закранаецца «беларуская» праблема: вучоны адзначае ўплыў на творчасць А.Міцкевіча мясцовага, навагрудскага фальклору, звычаяў і абрадаў народу, сярод якога вырас паэт.

Першым польскім літаратуразнаўцам, які не проста адзначыў, але і навукова абгрунтаваў прысутнасць беларускага субстрату ў творчасці А.Міцкевіча і іншых польскіх паэтаў-рамантыкаў, стаў С.Станкевіч, аўтар знакамітай працы «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі».[9] Аднак, што тычыцца А.Міцкевіча, то ў сваёй працы даследчык, як і яго папярэднікі, абмежаваўся толькі адзіным фактарам беларускай культуры – фальклорным, які ён вылучыў у «Баладах і рамансах» і часткова ў «Дзядах», спасылаючыся на запісы такіх фалькларыстаў як П.Шэйн, Е.Раманаў, М.Федароўскі, А.Сержпутоўскі, а таксама на ўласныя фалькларыстычныя дазнанні. Між тым заслуга С.Станкевіча перад міцкевічазнаўствам, асабліва беларускім, непараўнальна вялікая: ён упершыню робіць спробу ўсебаковага даследавання беларускай фальклорнай асновы творчасці А.Міцкевіча, якое «з’яўляецца не-

---

[5] Pigoc, S. Pan Tadeusz – wzrost,wielkoњж i slawa / S. Pigoc. – Warszawa: Wydawnictwo naukowe PWN, 2001. – 466 s.

[6] Gyrski, K. Adam Mickiewicz / K. Gyrski. – Warszawa: Pacstwowe Wydawnictwo Naukowe, 1989. – 252 s.

[7] Gyrski, K. Mickiewicz. Artyzm i jкzyk / K. Gyrski. – Warszawa: Pacstwowe Wydawnictwo Naukowe, 1977. – 548 s.

[8] Kleiner, J. Mickiewicz: w 2 т. / J. Kleiner. – Lwyw, 1934. – т. 1.

[9] Stankiewicz, S. Pierwiastki biaioruskie w polskiejpoezji romantycznej / S. Stankiewicz. – Wilno, 1936.

абходным як дзеля разумення творчасці паэта цалкам, так і вытлумачэння шматлікіх невядомых і прынцыповых яе дэталяў».[10]

Асаблівая цікавасць да А.Міцкевіча і яго сувязяў з Беларуссю выяўляецца, дарэчы, у тых польскіх даследчыкаў, якія самі паходзяць з Беларусі. Гэтай тэматыцы прысвечаны шэраг публікацый у польскім друку нашай краіны. Яшчэ ў канцы 30-х – пачатку 40-х гадоў XX стагоддзя такія перыядычныя выданні як «Наша зямля» («Ziemia Nasza»), «Сцяг свабоды» («Sztandar Wolnoњsci») і некаторыя іншыя польскамоўныя газеты і часопісы змяшчалі на сваіх старонках артыкулы, звязаныя з «беларускай» праблемай у міцкевічазнаўстве. Сярод іх трэба адзначыць такіх аўтараў, як В.Абрамовіч, К.Ансельм, Ю.Барэйша, Ю.Бранеўска, С.Бубень, Б.Друждж, Т.Гладоўскі, Т.Главацкі, З.Яблоньска-Эрдман, А.Кірыловіч, А.Ігнатовіч, Ю.Кавальскі, М.Крыньскі, Б.Марк, А.Снежка, Г.Волпэ.

Артыкулы згаданых аўтараў носяць характар больш папулярны, чым навуковы, між тым яны каштоўныя не толькі сваім зместам, але і тым, што здольны адлюстраваць, наколькі ў дадзены гістарычны адрэзак часу сярод беларускага (польскамоўнага) чытача з'яўляецца папулярнай асоба А.Міцкевіча як творцы і творчасць паэта як аб'ект даследавання. Што тычыцца сучаснага польскага друку Беларусі, то і ён нярэдка змяшчае публікацыі, увага якіх скіравана на А.Міцкевіча, прычым большасць артыкулаў прысвечана яго сувязям з Беларуссю і беларускай культурай. Нягледзячы на тое, што апублікаваныя матэрыялы носяць пераважна навуковапапулярны характар, без іх губляецца цэласнасць усведамлення велічнай шматграннасці культуралагічнага пласту, звязанага з асобай паэта. Па гэтай прычыне нельга не назваць такіх аўтараў, як М.Анішчанка, М.Арановіч, М.Гайба, Р.Грышко, Р.Дзевонскі, Ю.Дзюрбейка, М.Зданоўска, Р.Карачун, І.Лісоўскі, В.Пацэвіч, В.Працкайла, Ф.Растварроўскі, Ц.Роўска, Л.Ратайчак, А.Садоўска, А.Такарчык, З.Траяновіч, Б.Тронскі, П.Хмелёўскі, А.Шоцкі, М.Шымелевіч, Т.Ясевіч.

Акрамя навукова-папулярных і публіцыстычных матэрыялаў, на старонках сучасных польскамоўных перыядычных выданняў Беларусі змяшчаюцца і навуковыя працы, напрыклад, артыкул С.Дразда «Міцкевіч і Купала – духоўны дыялог пад небам айчыны»,[11] прысвечаны беларуска-польскім літаратурным узаемасувязям XIX – пач. XX ст. (адзначым, што С.Дрозд выдаў і на беларус-

[10] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 166.

[11] Drozd, S. Mickiewicz i Kupaia – w duchowym dialogu pod niebem ojczystym / S. Drozd // Gios znad Niemna. – 1996. – 4 listop. – S.4.

кай мове кнігу «Адам Міцкевіч і Янка Купала: духоўнае пабрацімства»,[12] у якой закранае аналагічную праблему, аналізуючы вобразна-тэматычныя і стылёвыя асаблівасці паэзіі, драматургіі і прозы польскіх пісьменнікаў, творчасць якіх была звязана з беларускай рэчаіснасцю).

Рознабаковае ўспрыманне А.Міцкевіча і ў першую чаргу ўспрыманне яго «беларускасці» спатрэбілася таксама і навукоўцам з Польшчы для пераасэнсавання ўласнага шляху ў гісторыі і сучаснасці. Канешне, у параўнанні з сённяшнім днём, калі ўплыў на А.Міцкевіча беларускай культуры лічыцца важным фактарам фарміравання яго творчай свядомасці, польскае літаратуразнаўства часоў Польскай Народнай Рэспублікі не так часта звярталася да пытанняў, звязаных з вывучэннем беларускага субстрату ў творчасці паэта. Доўгі час «беларускасць» А.Міцкевіча атаясамлівалася толькі з паэтызацыяй ім краявідаў роднай Навагрудчыны, што асабліва відавочна ў артыкулах, якія выходзілі ў ПНР у 50-я – 60-я гады. Аднак іх нельга пакідаць без увагі, бо інакш будзе цяжка ўявіць той прынцып паслядоўнасці, паводле якога ў замежным міцкевічазнаўстве развіваецца тэндэнцыя да ўспрыняцця спадчыны паэта па-за польскім нацыянальным кантэкстам. Сярод польскіх аўтараў, якія ў гэты адрэзак часу закраналі праблему сувязі А.Міцкевіча з Беларуссю, варта вылучыць П.Красько, Э.Шатрова, А.Хацкевіча, М.Варненску, Ф.Германа. Акрамя згаданых даследчыкаў, артыкулы якіх носяць характар больш навукова-папулярны, нельга не назваць такіх вучоных, як Ф.Левандоўскі («Адам Міцкевіч у беларускай літаратуры»[13]) альбо С.Свірка («Балады Чачота, іх сувязь з фальклорам і з народнасцю Міцкевіча»[14]), працы якіх прысвечаны беларуска-польскаму літаратурна-культурнаму ўзаемадачыненню.

У 70-я – 80-я гады таксама выходзіць даволі значная колькасць навукова-папулярных артыкулаў пра А.Міцкевіча, аўтары якіх закранаюць «беларускую» тэму. Назавём некаторых: Е.Аўсяны, М.Зіновец, М.Кондэй, А.Мазыра, Ю.Ракоўскі, Ф.Станішэўскі. Праблеме беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязяў прысвечаны працы такіх міцкевічазнаўцаў, як В.Свяневіч («Інтэрпрэтацыя Міцке-

---

[12] Дрозд, С. Адам Міцкевіч і Янка Купала: духоўнае пабрацімства (беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі XIX – пачатку XX стагоддзяў) / С. Дрозд. – Гродна: Рызограф фірмы «АВС», 1998. – 142 с.

[13] Lewandowski, F. Adam Mickiewicz w literaturze biaioruskiej / F. Lewandowski // Wiedza i Ïycie. – 1955. – № 11. – S. 774.

[14] Њwirko, S. Ballady Czeczota, ich zwi№zek z folklorem i z ludowoњci№ Mickiewicza / S. Њwirko // Literatura Ludowa. – 1958. – № 1. – S. 20–39.

вічавых «Дзядоў» на падставе фальклору»[15] ), А.Мацеек («Польскія даследаванні беларускай народнай дэманалогіі ў 1815-1831 гадах»[16] ), В.Стохэль («Адам Міцкевіч, Аляксандр Пушкін і Тарас Шаўчэнка ў беларускай літаратуры 1863-1917 гадоў»[17] ), В.Манах («Ізноў закранем праблему: Міцкевіч і беларускі фальклор»[18] ).

Вялікай зацікаўленасцю польскага літаратуразнаўства сувязямі А.Міцкевіча з Беларуссю пазначаны 90-я гады мінулага стагоддзя. Гэтай праблеме прысвяцілі артыкулы З.Стэфаноўска, Д.Завадска, А.Кэмпфі, Ю.М.Рымкевіч, С.Бранеўскі, А.Вярцінскі, Ф.Селіцкі.

Асобна трэба назваць тых польскіх навукоўцаў, якія звярнулі ўвагу на «беларускасць» твораў А.Міцкевіча ў моўным плане, а таксама прысвяцілі свае працы праблеме перакладу спадчыны паэта на беларускую мову. Гэта такія даследчыкі, як А.Багроўска («Беларускія выразы тыпу «пайсці ў грыбы»[19] ), З.Скібіньска-Харыла («Аб перакладах «Пана Тадэвуша» на беларускую мову»[20] ), А.Абрэмбска-Яблоньска («Аб тэкставай падставе перакладу «Пана Тадэвуша» на беларускую мову Браніславам Тарашкевічам»[21] ), В.Мазур («Пан Тадэвуш» па-беларуску»[22] ), Л.Беднарчук («Матачнік»[23] ), Ч.Сэнюх («Пан Тадэвуш» па-беларуску»[24] ).

Трэба адразу абмовіцца, што для палякаў А.Міцкевіч заўсёды меў амаль культавае значэнне, як, напрыклад, для рускіх –

[15] Њwianiewiczowa, O. Interpretacja «Dziadyw» Mickiewiczowskich na podstawie folkloru / O. Њwianiewiczowa // Rocznik Polskiego Towarzystwa Naukowego na Obczyџnie. – 1972. – T. XXI. – S. 1–12.

[16] Maciejek, A. Polskie badania nad ludow№ demonologi№ biaiorusk№ w latach 1815 – 1831 / A. Maciejek // Euhemer. – 1976. – № 4. – S. 63–73.

[17] Stochel, W. Adam Mickiewicz, Aleksander Puszkin i Taras Szewczenko w literaturze biaioruskiej lat 1863 – 1917 / W. Stochel // Studia Polono-Slavica-Orientalia: Acta Literaria. – 1976. – T. 3. – S. 7–52.

[18] Monach, W. Jeszcze raz w kwestii: Mickiewicz a folklor biaioruski / W. Monach // Studia Polono-Slavica-Orientalia: Acta Literaria. – 1981. – № 7. – S. 35–58.

[19] Bagrowska, A. Biaioruskie wyraïenia typu «pajњci u hryby» / A. Bagrowska // Slavia Orientalis. R.XII. – 1963. – № 2. – S. 271–277.

[20] Skibicska-Charylo, Z. O przekiadach Pana Tadeusza na jкzyk biaioruski / Z. Skibicska-Charylo // Studia Polono-Slavica-Orientalia: Acta Literaria. – 1975. – № 2. – S. 181–198.

[21] Obrкbska-Jablocska, A. O podstawe tekstowej przekiadu «Pana Tadeusza» na jкzyk biaioruski przez Bronislawa Taraszkiewicza / A. Obrкbska-Jablocska // Rocznik Towarzystwa Literackiego im. Adama Mickiewicza. – 1982/1983. – S. 217–222.

[22] Mazur, W. «Pan Tadeusz» po biaiorusku» / W. Mazur // Przyjaџс. – 1982. – 26 marca. – S. 5.

[23] Bednarczuk, L. Matecznik / L. Bednarczuk // Zeszyty Naukowe Wydziaiu Humanistycznego Uniwersytetu Gdacskiego: Slawistyka. – 1988. – №. 6. – S. 43–48.

[24] Seniuch, C. «Pan Tadeusz» po biaiorusku» / C. Seniuch // Lithuania. – 1996. – №. 314. – S. 100–107.

А.Пушкін, а для ўкраінцаў – Т.Шаўчэнка, таму і міцкевічазнаўства ў Польшчы даўно выйшла за межы літаратуразнаўчага даследавання спадчыны паэта. Між тым, сярод вялікай колькасці кніг, у цэнтры ўвагі якіх – постаць А.Міцкевіча, за апошнія пяцьдзесят гадоў з'явілася зусім няшмат такіх, якія хоць бы ўскосна, але адсылалі чытача да ўспрымання паэта ў кантэксце беларускай рэчаіснасці. Да іх, напрыклад, можна аднесці працу вядомага польскага паэта М.Яструна «Міцкевіч»[25] , якая адносіцца не столькі да навуковай, колькі да мастацкай літаратуры, аднак яе аўтар звяртае належную ўвагу на ліцвінскія (беларускія) вытокі рамантызму А.Міцкевіча, таму гэтая кніга можа быць дапаможным матэрыялам пры даследаванні фактараў беларускай культуры ў творчай спадчыне песняра. Цікавая ў гэтым сэнсе і праца А.Важыка «Міцкевіч і народная версіфікацыя»[26] , у якой, на падставе фармальнага аналізу і супастаўлення некаторых вершаў А.Міцкевіча з фальклорнымі тэкстамі, даказваецца ўплыў вуснай народнай творчасці на паэтыку «Балад і рамансаў», «Дзядоў» і другіх твораў першага польскага рамантыка. Адно са спрэчных пытанняў у міцкевічазнаўстве – пытанне нацыянальнай прыналежнасці паэта. У святле сучаснай сацыялогіі і этнаграфіі гэтую праблему даследаваў В.Вельгорскі («Збор твораў»[27] ), а таксама Б.Бялаказовіч у кнізе «Паміж Усходам і Захадам: фарміраванне беларускай нацыянальнай свядомасці»[28] .

Яшчэ раз прыгадаем С.Свірку, працы якога скіраваны на даследаванне ўплыву народнай культуры на творчасць паэтаў-філаматаў, у прыватнасці, А.Міцкевіча і яго сябра Я.Чачота. Так у кнізе «Пад руку з Міцкевічам альбо жыццё і творчасць Яна Чачота»[29] аналізуецца паэтычная спадчына Я.Чачота, якая складвалася пад моцным уплывам А.Міцкевіча і сама аказвала на яго ўплыў, а ў працы «Народнасць Міцкевіча»[30] вучоны звяртае ўвагу на творчае выкарыстанне паэтам не толькі мясцовага фальклору, але і звычаяў, абрадаў, прымхаў і забабонаў «тутэйшага» люду. Беларуска-

[25] Jastrun, M. Mickiewicz / M. Jastrun. – Warszawa: Pacstwowy Instytut Wydawniczy, 1949. – 412 s.

[26] Waïyk, A. Mickiewicz i wersyfikacja narodowa /A. Waïyk. – Warszawa: Czytelnik, 1951. – 146 s.

[27] Wielhorski, W. Prace zebrane / W. Wielhorski. – Londyn: Fontana, 1958. – 412 s.

[28] Biaiokozowicz, B. Mікdzy Wschodem a Zachodem: z dziejуw formowania siк biaioruskiej swiadomoњсі narodowej / B. Biaiokozowicz. – Biaiystok:Wydawnictwo Uniwersytetu w Biaiymstoku, 1988. – 250 s.

[29] Ђwirko, S. Z Mickiewiczem pod гккк, czyli Їусіе i twуrczoњж Jana Czeczota / S. Ђwirko. – Warszawa: Ludowa Spуіdzielnia Wydawnicza, 1989. – 326 s.

[30] Ђwirko, S. Ludowoњж u Mickiewicza / S. Ђwirko. – Warszawa: Pacstwowe Wydawnictwo Naukowe, 1958. – 405 s.

літоўска-польскім літаратурным, фальклорным і моўным узаемасувязям прысвяціў шэраг сваіх прац М.Аляхновіч, звяртаючыся і да творчасці А.Міцкевіча, які акамуляваў і трансфармаваў у арыгінальную паэзію багацце духоўнай спадчыны гэтых трох народаў. Так, напрыклад, у кнізе «Польскія даследчыкі беларускай мовы і фальклору ў XIX ст.»[31] (раздзел «Беларускія элементы ў творчасці Адама Міцкевіча») вучоны выяўляе «беларускасць» у творах польскага паэта на самых розных узроўнях – вобразным, ідэйным, тэматычным, аднак у працы не даследуецца глыбока сама прычына ўплыву фактараў беларускай культуры на творчасць пісьменніка. Сярод сучасных даследаванняў творчасці А.Міцкевіча бязспрэчным аўтарытэтам карыстаюцца працы А.Віткоўскай, асабліва яе кніга «Міцкевіч. Слова і справа»[32], у якой прадстаўлены новы погляд на асобу і творчасць паэта: у індывідуальна-аўтарскай інтэрпрэтацыі спадчыны пісьменніка, апошні паўстае то як «славянскі Байран», то як «брат прарок», то як «вандроўны рыцар рэвалюцыі». Сувязь дадзенага даследавання з «беларускай» праблемай у міцкевічазнаўстве даволі ўмоўная, як, зрэшты і ў шэрагу другіх прац аўтараў, пералічаных намі (М.Яструна, А.Важыка, В.Вельгорскага і інш.), разам з тым яе можна адсачыць у кантэксце асобных разважанняў А.Віткоўскай. Вось, напрыклад, адна з характарыстык А.Міцкевіча, дадзеная даследчыцай: «Літоўска-беларуская правінцыя надзяліла яго даволі актыўнай і арыгінальнай рэгіянальнай культурай, часткова шляхецкай, часткова народнай <...> адукацыя ў Віленскім універсітэце дала А.Міцкевічу падставу для рэінтэрпрэтацыі гэтай натуральнай культуры, пераўтварэння яе ў сістэму эстэтыкі і паэзіі рамантызму».[33]

Асоба А.Міцкевіча, яго творчая спадчына выклікала і выклікае надалей цікавасць і ў рускіх літаратуразнаўцаў, паколькі з Расіяй паэта звязвае вельмі многае: з кастрычніка 1824 г. па май 1829 г., знаходзячыся ў высылцы, ён жыў у Пецярбургу, Адэсе, Маскве, зблізіўся з дзекабрыстамі і А.Пушкіным, напісаў свае знакамітыя «Санеты» (1826 г.) і паэму «Конрад Валенрод» (1828 г.). Яшчэ П.А.Вяземскі, рускі паэт і літаратурны крытык, сучаснік А.Міцкевіча, гаварыў пра яго духоўнае братэрства з рускімі літаратурнымі коламі, якое выцякае перш за ўсё з «ліцвінскасці» польскага паэта: «Міцкевіч хаця і блудны

[31] Olechnowicz, M. Polscy badacze folkloru i jkzyka biaioruskiego w XIX wieku / M. Olechnowicz. – Lydџ: Wydawnictwo Lydzkie, 1986. – 315 s.

[32] Witkowska, A. Mickiewicz. Siowo i czyn / A. Witkowska. – Warszawa: Pacstwowe Wydawnictwo Naukowe, 1986. – 320 s.

[33] Witkowska, A. Mickiewicz. Siowo i czyn / A. Witkowska. – Warszawa: Pacstwowe Wydawnictwo Naukowe, 1986. – S. 8.

брат <...> усё ж застаецца нашым братам: ён ліцвін».[34] Сярод рускіх і ўкраінскіх даследчыкаў (у адрозненні ад польскіх навукоўцаў) вельмі мала аўтараў, якія звяртаюцца да «беларускай» праблемы ў міцкевічазнаўстве, аднак яе ўсё ж удаецца заўважыць у кантэксце даследаванняў найбольш вядомых савецкіх вучоных – такіх як І.Горскі, М.Жываў, М.Рыльскі, С.Саветаў, Б.Стахееў і інш. Так, напрыклад, у кнізе І.Горскага «Адам Міцкевіч» гаворыцца пра захапленне паэтам вуснай народнай творчасцю і абрадамі беларусаў: «Асабліва моцнае ўражанне А.Міцкевіч атрымоўваў ад цудоўных беларускіх казак <...> хадзіў па навакольных вёсках, назіраў народныя абрады, слухаў беларускія песні...»[35]. Аўтар адзначае таксама і факт уплыву на паэзію польскага рамантыка беларускага фальклору, у прыватнасці, на яго «Балады і рамансы»: «Выкарыстоўваючы фальклорныя сюжэты, А.Міцкевіч імкнуўся не толькі ўзнавіць народна-песенны стыль, сістэму вобразаў, характэрную для фальклорных твораў, але і перадаць адлюстраваныя ў іх народныя ўяўленні»[36]. Аб беларускіх вытоках рамантызму польскага паэта ўзгадвае М.Жываў, аўтар кнігі «Адам Міцкевіч. Жыццё і творчасць». «Свет, у якім вырас А.Міцкевіч, быў пераважна светам дробнай польскай шляхты і беларускага сялянства»[37], – піша рускі даследчык. Пра ўплыў на творчасць А.Міцкевіча фальклору, у тым ліку і беларускага, гаворыцца ў кнізе М.Рыльскага «Паэзія Адама Міцкевіча»: «Фальклорныя элементы ўвесь час сустракаюцца ў сталай творчасці паэта. Мы бачым іх і ў «Баладах і рамансах», і ў другой частцы «Дзядоў», і ў «Конрадзе Валенродзе», і ў «Пану Тадэвушу»[38]. Пра «беларускасць» некаторых твораў польскага паэта («Рыбка», «Курганок Марылі» і інш.) неаднаразова згадвае і С.Саветаў у кнізе «Адам Міцкевіч» [61][39]. Асобна трэба вылучыць Б.Стахеева, вядомага міцкевічазнаўца, аднаго з аўтараў першага ў былым Савецкім Саюзе падручніка «Гісторыя польскай літаратуры»[40],

---

[34] Вяземский, П.А. Эстетика и литературная критика / П.А. Вяземский. – М.: Искусство, 1984. – С. 277.

[35] Горский, И.К. Адам Мицкевич / И.К. Горский. – М.: Изд-во Академии наук СССР, 1955. – С. 18–19.

[36] Горский, И.К. Адам Мицкевич / И.К. Горский. – М.: Изд-во Академии наук СССР, 1955. – С. 43.

[37] Живов, М.С. Адам Мицкевич. Жизнь и творчество / М.С. Живов. – М.: Гослитиздат, 1956. – С. 26.

[38] Рыльский, М.Ф. Поэзия Адама Мицкевича / М.Ф. Рыльский. – М.: Гослитиздат, 1956. – С. 55.

[39] Советов, С.С. Адам Мицкевич / С.С. Советов. – Л.: Изд-во Ленингр. ун-та, 1956. – 188 с.

[40] История польской литературы: в 2 т. – М.: Наука, 1968. – Т. 1. – 616 с.

а таксама шэрагу падручнікаў па гісторыі замежнай літаратуры, у якіх падкрэсліваецца наватарства паэта пры выяўленні чалавечых пачуццяў, рысаў нацыянальнага характару, звяртаецца увага на глыбокае і творчае выкарыстанне фальклорнага матэрыялу, у тым ліку і вуснай народнай творчасці беларускага народа.

Акрамя падручнікаў і манаграфій, у рускім літаратуразнаўстве з'яўляецца шмат артыкулаў, прысвечаных А.Міцкевічу і асэнсаванню яго творчай спадчыны. Для прыкладу можна прывесці артыкулы В.Мартынава, В.Брытанішскага і іншых аўтараў, якія не толькі аналізуюць паэтычны свет твораў польскага класіка, але звяртаюць ўвагу на беларуска-польскія літаратурныя сувязі, што наладжваюцца дзякуючы шанаванню спадчыны пісьменнікаў з падобным, транснацыянальным статусам.

Вялікую ролю ва ўзаемным асэнсаванні творчага генія А.Міцкевіча адыгралі міжнародныя канферэнцыі, супольна зладжаныя польскімі і беларускімі міцкевічазнаўцамі, і як вынік гэтага – выданне навуковых зборнікаў. Так, значным укладам у міцкевічазнаўства стала міжнародная навуковая канферэнцыя «Адам Міцкевіч і сусветная культура», праведзеная ў Гродне і Навагрудку 12 – 17 мая 1997 года. Плёнам гэтай канферэнцыі стала выданне пяці тамоў матэрыялаў,[41] прысвечаных самым розным праблемам у міцкевічазнаўстве. Першы том змяшчае артыкулы, звязаныя з жыццём і творчасцю А.Міцкевіча да 1833 года; другі том прысвечаны творчасці паэта ад 1833 года да канца яго жыцця; трэці том матэрыялаў канферэнцыі датычыць рэцэпцыі Міцкевічавых твораў у XIX стагоддзі; у чацвёртым і пятым тамах змешчаны даклады, якія датычаць рэцэпцыі твораў А.Міцкевіча ў XX стагоддзі і матэрыялы, запрапанаваныя на канферэнцыі як «waria» на тэму культуралагічнага фону творчасці А.Міцкевіча ці яе функцыянавання ў культурах розных народаў. Адным з ініцыятараў і арганізатараў гэтай канферэнцыі выступіла кафедра польскай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэту імя Янкі Купалы, якая на сённяшні дзень стала сапраўдным цэнтрам айчыннага міцкевічазнаўства. Сярод дакладаў, прапанаваных на канферэнцыі, мелі, безумоўна, месца і працы, якія так ці інакш закранулі беларускі аспект у творчасці А.Міцкевіча. Гэта артыкул А.Кэмпфі «Аб пахвале Беларусі і беларускасці ў парыжскіх лекцыях А.Міцкевіча», артыкул А.Булыкі «Лексічны каларыт прынямоння ў паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»,

[41] Адам Міцкевіч і сусветная культура: матэрыялы міжнар. навук. канф., Гродна – Навагрудак, 12 – 17 мая 1997 г.: у 5 кн. / Мін-ства адук. Рэсп. Беларусь, Гродзен. дзярж. ун-т імя Я. Купалы, Варшаўскі ун-т, Гданьскі ун-т, Седлецкая вышэйш. пед. школа. – Варшава – Гданьск – Седльце – Гродна, 1998 – 2000. – Кн. 1 – 5.

артыкул Т.Казачэнкі «Назвы рэалій перыяду беларускай народнасці ў паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і іншыя. Адзначым, што ў трэцім томе матэрыялаў канферэнцыі «Адам Міцкевіч і сусветная культура» ёсць асобны раздзел, які носіць назву «Адам Міцкевіч і Беларусь». Сярод артыкулаў, змешчаных у гэтым раздзеле, варта ўзгадаць працу А.Лойкі «Беларускасць паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», якая адлюстроўвае пытанне ўздзеяння фактараў беларускай культуры на творчасць паэта.

Яшчэ адной адметнай падзеяй у міцкевічазнаўстве стаў выхад зборніка, які сабраў навуковыя, навукова-папулярныя і публіцыстычныя матэрыялы міжнароднай канферэнцыі «Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры» і Пятых Карэліцкіх чытанняў «Карэліцкая зямля ў часы Адама Міцкевіча»[42], што адбыліся ў Мінску і Карэлічах 7 – 11 верасня 1998 г. Канферэнцыя і яе матэрыялы сталі падсумаваннем Года Адама Міцкевіча ў Беларусі, асэнсаваннем значэння яго спадчыны для беларускага, польскага, літоўскага і іншых народаў Еўропы. Зборнік, які выйшаў да 200-годдзя з дня нараджэння паэта, з аднаго боку з’яўляецца паказчыкам таго, што ў Беларусі А.Міцкевічам цікавяцца даволі шырокія навуковыя колы – не толькі літаратуразнаўцы, але і гісторыкі, культуролагі, мастацтвазнаўцы і іншыя гуманітарыі, але з другога боку ён стаў чарговым доказам, што ў айчынным міцкевічазнаўстве шмат праблемаў застаюцца пакуль нявырашанымі: многія прадстаўленыя ў зборніку працы носяць апісальна-аксіяматычны змест і характар, ды і сувязь іх з асобай А.Міцкевіча часта падаецца штучнай, як гэта здараецца ў святочна-юбілейных выданнях. І сапраўды, пра А.Міцкевіча ў Беларусі пачыналі гаварыць і пісаць пераважна толькі тады, калі надаралася круглая дата. Гэты факт вельмі яскрава ілюструецца зборнікам «Адам Міцкевіч і Беларусь»,[43] выдадзеным Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны, дзе прадстаўлена бібліяграфія «Адам Міцкевіч у друку Беларусі». Але вернемся да зборніка «Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры», які дае ўнікальную магчымасць прасачыць тэндэнцыі развіцця міцкевічазнаўства ў розных яго адгалінаваннях, у тым ліку і ў беларускім кантэксце. Сярод працаў, якія тэматычна найбольш блізка суадносяцца з праблемай даследавання ўплыву фактараў беларускай культуры на творчасць А.Міцкевіча, варта адзначыць артыку-

---

[42] Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат. міжнар. навук. канф., Мінск, 7–11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – 448 с.

[43] Адам Міцкевіч і Беларусь / уклад. В. Грышкевіч; навук. рэд. А. Мальдзіс, Т. Нягодзіш. – Мінск.: ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. – 320 с.

лы беларускіх вучоных С.Мусіенкі «Беларускі фальклор у творчасці Адама Міцкевіча», А.Лойкі «Адам Міцкевіч і Беларусь», А.Мальдзіса «Малая», «сярэдняя» і «вялікая» радзімы ў творчасці Адама Міцкевіча», У.Мархеля «Матывы радзімы ў творчасці Адама Міцкевіча і яго паслядоўнікаў на Беларусі», У.Конана «Вобразы і матывы зямнога раю ў паэзіі Адама Міцкевіча», Ю.Бохана «Гістарычныя матывы ў творчасці Адама Міцкевіча», І.Багдановіч «Творчасць Адама Міцкевіча і станаўленне беларускай рамантычнай традыцыі» і «Топіка айчыны ў філаматцкіх вершах Адама Міцкевіча», польскіх даследчыкаў Е.Клачкоўскага «Адам Міцкевіч – нашчадак культуры Рэчы Паспалітай многіх народаў», Б.Бялаказовіча «Беларускія элементы, матывы і сюжэты ў творчасці Адама Міцкевіча», Б.Цывінскага «Рамантычны падмурак культуры XIX ст. Вялікага Княства Літоўскага», Э.Смулковай «Беларускія элементы ў творчасці Адама Міцкевіча», літоўскага вучонага А.Пірачкінаса «Крыніцы рамантызму Адама Міцкевіча». Усе ўзгаданыя аўтары, хто ў большай, а хто ў меншай ступені, сваімі артыкуламі і ўзнятымі ў іх праблемамі выявілі заканамернасць вяртання міцкевічазнаўства ў рэчышча агульнаеўрапейскай літаратурнай і культурнай традыцыі, але з улікам уплыву нацыянальных фактараў, у тым ліку – беларускага.

Апошняй навуковай урачыстасцю, прысвечанай 200-годдзю з дня нараджэння А.Міцкевіча, стала правядзенне міжнароднай канферэнцыі «Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці», якая адбылася 15 – 18 верасня 1999 года ў Гродна зноў жа дзякуючы намаганням кафедры польскай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэту імя Янкі Купалы. У рамках канферэнцыі літаратуразнаўцы Беларусі і Польшчы сталі ўдзельнікамі «круглага стала» «Топас малой айчыны ў творчасці Адама Міцкевіча», пад час якога яны выказалі цікавыя думкі аб ролі вялікага польскага паэта ў гісторыі сусветнага літаратурнага і культурнага працэсу. Матэрыялы канферэнцыі і «круглага стала» выйшлі асобнай кнігай,[44] вельмі каштоўнай для айчыннага і замежнага міцкевічазнаўства, бо складаецца яна з артыкулаў такіх знакамітых польскіх даследчыкаў, як З.Стэфаноўска, Ю.Бахуж, Л.Беднарчук, М.Т.Лізіс, беларускіх вучоных С.Мусіенкі, А.Бельскага, І.Шаблоўскай.

2005 год адкрыў новыя далягляды ў вывучэнні спадчыны А.Міцкевіча: мінула 150 гадоў з дня яго смерці і ўвесь інтэлектуальны

[44] Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15–18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – 293 с.

свет імкнуўся не пакінуць без належнай увагі гэтую дату. Восем краін, з якімі было звязана жыццё паэта, зрэалізавалі грандыёзны праект па ўшанаванню яго памяці. Распачаўся міжнародны праект у Беларусі, краіне, што нарадзіла вешчуна. У гонар А.Міцкевіча кафедрай польскай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэту імя Янкі Купалы тут была праведзена вялікая навуковая канферэнцыя, плёнам якой стала выданне кнігі «З краю Навагрудскага...».[45] У кнізе прадстаўлены працы найбольш выдатных беларускіх, польскіх і рускіх міцкевічазнаўцаў – С.Мусіенкі, І.Багдановіч, Ю.Бахужа, М.Чэрміньскай, В.Хорава, Е.Цыбенкі. Артыкулы, змешчаныя на старонках гэтага выдання, прысвечаны пераважна ўплыву творчасці А.Міцкевіча на сусветны літаратурны працэс, а таксама праблемам беларуска-руска-польскіх літаратурных, лінгвістычных і асветніцкіх сувязей.

У адрозненне ад польскага літаратуразнаўства, якое налічвае дзесяткі кніг, звязаных з асэнсаваннем творчай спадчыны А.Міцкевіча ў кантэксце нацыянальнай культуры, беларускае на сённяшні дзень мае толькі дзве кнігі, цалкам прысвечаныя адпаведнай праблеме: манаграфія А.Лойкі «Адам Міцкевіч і беларуская літаратура»,[46] якая выйшла амаль паўстагоддзя назад і кніга У.Мархеля «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры»[47] 1998 года выдання (другое, дапрацаванае выданне гэтай кнігі выйшла ў 2003 годзе пад назвай «Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч – прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры»[48] ). Адзначым таксама, што ў 2001 годзе выйшла кніга І.Багдановіч «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння»,[49] адзін з раздзелаў якой прысвечаны А.Міцкевічу. Аналізуючы творчасць беларускіх паэтаў 10-20-х гадоў XX стагоддзя, даследчыца выводзіць карані нацыянальнай ідэі з грамадскапалітычных і культурных тэндэнцый XIX стагоддзя, у тым ліку звязвае гэты складаны працэс і з творчасцю А.Міцкевіча, на якога ў сваю чаргу моцна ўплывала беларуская народная культура.

---

[45] «З краю Навагрудскага» (малая айчына ў жыцці і творчасці Адама Міцкевіча: зб. навук. прац / пад рэд. праф. С.П. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 2006. – 402 с.

[46] Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. Лойка. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1959. – 135 с.

[47] Мархель, У. І. «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 1998. – 125 с.

[48] Мархель, У. І. Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч – прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 123 с.

[49] Багдановіч, І. Э. Авангард і трыдыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Э. Багдановіч. – Мінск: Бел. навука, 2001. – 387 с.

Праца А.Лойкі «Адам Міцкевіч і беларуская літаратура» адлюстроўвае розныя бакі ўзаемадачынення паміж словам паэта і беларускім фальклорам. Даследчык здолеў вельмі выразна паказаць шматграннасць і разнастайнасць уплыву беларускай культуры на паэзію А.Міцкевіча. Перш за ўсё А.Лойка выяўляе шляхі пранікнення беларускай народнай культуры ў творчую свядомасць паэта і толькі потым аналізуе спосабы рэалізацыі фальклорнага матэрыялу ў яго мастацкіх тэкстах. Праўда, пры даследаванні ўплыву беларускага фальклору на творчасць А.Міцкевіча аўтар манаграфіі выбарачна карыстаецца вершамі з цыклу «Балады і рамансы», пераважна тымі, якія вылучаюцца яркім сацыяльным падтэкстам, пакідаючы пры гэтым амаль без увагі такі старажытны пласт народнай культуры, як прымхі, забабоны і ўяўленні беларусаў. А вось пры аналізе «Дзядоў» А.Лойка засяроджвае ўвагу не толькі на сацыяльна-палітычным змесце драматычнай паэмы, але адначасова ўзгадвае і пра маральна-этычны змест, пра творчае і філасофскае асэнсаванне А.Міцкевічам народнага абраду і вусна-паэтычнай спадчыны беларусаў, якія сталі ідэйнай падставай твору.

У працы У.Мархеля «Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч – прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры» разглядаюцца тыя кірункі і формы творчасці А.Міцкевіча, якія прадвызначылі выхад беларускай літаратуры на шлях беларускамоўнага развіцця, таму аўтар таксама адзначае факт уплыву беларускай культуры на творчую свядомасць паэта, але не разглядае яго падрабязна.

Праблеме ўплыву беларускай культуры на творчасць А.Міцкевіча прысвяціла шэраг сваіх артыкулаў С.Мусіенка. У яе працах («Беларускі фальклор у творчасці Адама Міцкевіча»,[50] «Рух» героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды»,[51] «Беларускія абрады і фальклор у творчасці Адама Міцкевіча»,[52] «Бела-

[50] Мусиенко, С. Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича / С. Мусиенко // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 199–216.

[51] Мусіенка, С. Рух героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» / С. Мусіенка // Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 54–62.

[52] Мусіенка, С. Беларускія абрады і фальклор у творчасці Адама Міцкевіча / С. Мусіенка // Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: мат-лы IX міжнар. навук. канф. «Шлях да ўзаемнасці», Беласток, 20–22 ліп. 2001 г. / пад рэд. М. Кандрацюка. – Беласток: Wydawnictwo Uniwersytetu w Biaiymstoku, 2002. – С. 141–157.

рускі фальклор і праблема рамантычнага героя (русалкі) у творчасці А.Міцкевіча, А.Пушкіна, Т.Шаўчэнкі»[53] і інш.) разглядаецца перадусім праблема фарміравання эстэтычнай свядомасці паэта пад уплывам фальклору, абрадаў, побыту і звычаяў беларускага народа. С.Мусіенка паказвае таксама тыя адносіны А.Міцкевіча да беларускай культуры, якія мелі творчы характар, разглядае розныя метады і спосабы выкарыстання паэтам вуснай народнай творчасці: стылізацыю, пераасэнсаванне, кантамінацыю, новыя трактоўкі вядомых сюжэтаў. Аналізуючы ўплыў беларускага фальклорнага фактару на А.Міцкевіча, даследчыца адзначае і адваротны працэс, калі яго паэзія пачынала ўздзейнічаць на свядомасць беларусаў і адлюстроўвацца ў крыніцах вуснай народнай творчасці. У сваіх даследаваннях С.Мусіенка звяртае ўвагу і на тое, што ў розныя перыяды жыцця ўплыў фактараў беларускай культуры на творчасць А.Міцкевіча мяняўся, набываючы новыя віды і формы, таму для поўнага асвятлення дадзенай праблемы неабходна дасканала прааналізаваць паасобна кожны ўзровень творчага шляху паэта. Між тым большасць з тых пытанняў, якія ўзняла даследчыца, застаюцца да канца не высветленымі і толькі прадвызначаюць перспектывы развіцця дадзенай галіны ў беларускім міцкевічазнаўстве.

Падагульняючы вышэй сказанае, можна зрабіць наступныя высновы:

– зацікаўленасць асобай А.Міцкевіча, яго творчасцю і светапоглядам, які ўвабраў у сябе культурна-гістарычныя традыцыі адразу некалькіх народаў – польскага, беларускага і літоўскага, з'явілася ў навуковых і літаратурных колах ужо ў другой палове XIX стагоддзя і існуе да гэтага часу;

– «беларуская» праблема ў міцкевічазнаўстве, якая ўзнікла на падставе творчага выкарыстання паэтам беларускага фальклору, выяўляецца ў самых розных формах і кантэкстах: непасрэдна і ўскосна да яе звяртаюцца літаратуразнаўцы, мовазнаўцы, культуролагі, а таксама пісьменнікі, адлюстроўваючы спрэчныя альбо малавядомыя моманты, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта;

– даследаванне творчасці А.Міцкевіча ў нацыянальным кантэксце абумоўліваецца аднолькавай прыналежнасцю спадчыны паэта да ўсіх народаў і культур былой Рэчы Паспалітай, аднак такая тэндэнцыя пакуль выяўлена слаба;

---

[53] Мусіенка, С.П. Беларускі фальклор і праблема рамантычнага героя (русалкі) у творчасці А.Міцкевіча, А. Пушкіна, Т. Шаўчэнкі / С.П. Мусіенка // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка: мат-лы XIII міжнар. з'езду славістаў, Любляна, 2003 г.: Дакл. бел. дэлегацыі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – С. 337–353.

– для замежнага і айчыннага літаратуразнаўства праблема міжнацыянальнага літаратурнага і культурнага ўзаемадзеяння на падставе творчасці аднаго аўтара, у прыватнасці А.Міцкевіча, з’яўляецца на сённяшні дзень вельмі актуальнай, разам з тым яна – сапраўдная terra incognita.

## ГЛАВА 2
## ВЫТОКІ РАМАНТЫЗМУ Ў ТВОРЧАСЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Прынята лічыць, што з’яўленне рамантычнай традыцыі ў Польшчы прыпадае на 1822 год, момант выхаду I тому «Паэзіі» Адама Міцкевіча з праграмнай «Прадмовай» аўтара. У «Прадмове» робіцца экскурс у гісторыю еўрапейскай літаратуры, які ахоплівае перыяд ад глыбокай старажытнасці да сучаснай А.Міцкевічу эпохі. З мэтай увесці чытача ў свет уласнай творчасці, паэт дакладна абазначае межы рамантычнага мастацтва, а таксама характар і тэндэнцыі яго развіцця. Аўтар «Прадмовы» сцвярджае, што сярод жанраў рамантычнай паэзіі найбольшай папулярнасцю карыстаюцца балада і раманс, якія бяруць свае вытокі ў народнай творчасці, таму падрабязна апісвае гісторыю з’яўлення гэтых жанраў і іх нацыянальныя асаблівасці. Па гэтай жа прычыне большая частка I тому «Паэзіі» А.Міцкевіча складаецца з вершаў, аб’яднаных пад агульнай назвай «Балады і рамансы».

У параўнанні з Англіяй і суседняй Германіяй, зварот да рамантызму ў Польшчы адбыўся са спазненнем больш як на 20 гадоў: «Атэнэум», часопіс йенскіх рамантыкаў, адзначыў падобны пераход у 1798 г.; другое выданне «Лірычных балад» С.Т.Колрыджа і У.Вордсварта з прадмовай апошняга, якая вызначыла пачатак рамантызму ў Англіі, датуецца на 1800 г.

Між тым, усе гэтыя два дзесяцігоддзі ў Польшчы існавалі тэндэнцыі, якія паволі разбуралі каноны класіцызму.

Не мясціўся, напрыклад, у межах класіцызму сентыменталізм, які надаваў важную ролю пачуццёвасці, супрацьпастаўляючы яе халоднаму розуму.

Першая нясмелая спроба наладзіць сувязь з новаю еўрапейскаю думкаю належыла варшаўскаму вучонаму, сябру «Таварыства навукі», Ф.Вэнжыку, які ў 1811 годзе па просьбе «Таварыства» ў працы «Аб паэзіі драматычнай» разгледзеў шырокае кола праблем, звязаных з тагачаснымі літаратурнымі тэндэнцыямі. Праца Ф.Вэнжыка, аднак, была раскрытыкавана і адхілена кіраўніцтвам «Таварыства навукі», якое складалася з людзей сталага веку, вырасшых

у эпоху Асветніцтва. Яны абвінавацілі маладога вучонага ў неапраўданым захапленні У.Шэкспірам і ў тым, што ён дазваляе сабе паўстаць супраць агульнапрынятых правілаў, упадобіўшыся нямецкім пісьменнікам, якія, на іх думку, не вызначаюцца добрым літаратурным густам.

Са з'яўленнем у 1815 годзе часопіса «Дзённік варшаўскі» («Dziennik Warszawski») пад рэдакцыяй Ф.Бенткоўскага, сітуацыя змянілася ў лепшы бок: у часопісе пачалі друкаваць артыкулы, прысвечаныя літаратурнаму і інтэлектуальнаму жыццю Англіі і Германіі. Аднак і тут друкаваліся толькі выбраныя асобы, напрыклад, прадрамантыкі Г.Э.Лесінг, І.В.Гётэ, Ф.Шылер; йенскую ж школу прадстаўлялі толькі браты А.В.Шлегель і Ф.Шлегель. Такім чынам, здабыць поўныя і сапраўдныя веды аб рамантызме, які бурна развіваўся ў Англіі і Германіі, было вельмі складана. У большасці артыкулаў рабіліся спробы прымірыць, аб'яднаць класіцызм і рамантызм. Прыкладам такога спалучэння з'яўляецца нарыс Ф.Вэнжыка «Аб паэзіі ўвогуле» (1815 г.), у якім паэт прадстаўлены як чалавек светлы, адукаваны і як геній, у якім аб'ядноўваюцца мінулае і будучыня.

Значны крок наперад у літаратуразнаўстве зрабіў К.Брадзіньскі. У працы «Аб класіцызме і рамантызме альбо аб духу польскай паэзіі» (1818 г.) вучоны ўпершыню ставіць класіцызм і рамантызм побач, паказваючы на іх раўназначнасць.

У гэты ж час класіцысты робяць злосныя напады на рамантызм. Найбольш знакамітым прыкладам такога нападу стаў артыкул Я.Снядэцкага «Аб творах класічных і рамантычных» (1819 г.).

А.Міцкевіч быў першым, хто не стаў спалучаць несумяшчальнае, шукаючы сярэдзіну паміж класіцызмам і рамантызмам, а бескампрамісна прыняў бок апошняга. У адказ на артыкул Я.Снядэцкага паэт піша баладу «Рамантычнасць», у якой прадставіў свайго былога выкладчыка ў вобразе так званага мудраца з павелічальным шклом.

Калі разглядаць рамантызм не толькі як літаратурны кірунак, але як агульнакультурную плынь, са сваёй філасофіяй і пэўнай сістэмай каштоўнасцяў, то зусім заканамерным з'яўляецца той факт, што польскі рамантызм, «які вырас, перш за ўсё, з вопыту барацьбы з прымусам Расіі»,[54] узнік спачатку ў Вільні, сталіцы былога Вялікага Княства Літоўскага, а не ў Варшаве: «ярмо расійскай няволі

[54] Цывіньскі, Б. Рамантычны падмурак культуры XIX ст. Вялікага Княства Літоўскага / Б. Цывіньскі // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 227.

было на землях ВКЛ значна цяжэйшым, чым у царстве Польскім».[55] Адсюль вынікае, што рамантызм А.Міцкевіча, з творчасці якога прынята адлічваць пачатак польскага рамантызму, нельга назваць цалкам польскім, як нельга А.Міцкевіча назваць патрыётам толькі Польшчы.

Паэт нарадзіўся 24 снежня 1798 года, прыкладна праз тры гады пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай. Радзіма яго бацькоў, Навагрудчына, разам з іншымі землямі Вялікага Княства Літоўскага адышла да Расійскай імперыі. Вядома, што А.Міцкевіч не мог выхоўвацца ў духу любові да дзяржавы-захопніцы, тым больш памяць пра Вялікае Княства Літоўскае, якое ў межах Рэчы Паспалітай мела пэўную самастойнасць, была жывой і яскравай. Дарэчы, на пачатку XIX ст. адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага выглядала яшчэ даволі рэальным, таму што ўкладывалася ў тагачасную асветніцкую канцэпцыю, дзе многае залежыла ад адукаванага манарха». Відавочна, А.Міцкевіч, як і многія яго суайчыннікі, лічыў сябе грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага – ідэальнай дзяржавы, якой не было на палітычных картах, але якая жыла ў сэрцах і думках тысячаў яе патрыётаў.

Любоў да роднай зямлі А.Міцкевіч пранёс праз усё сваё жыццё – пра гэта сведчаць яго лепшыя паэтычныя творы. Менавіта паэзія, асабліва на раннім этапе творчасці А.Міцкевіча, з'яўляецца якраз тым галоўным паказчыкам, які дазваляе сцвярджаць, што радзіму паэт атаясамліваў толькі з Вялікім Княствам Літоўскім і ні з якім іншым дзяржаўным утварэннем.

Нездарма, звяртаючыся ў сваіх творах да гістарычнага мінулага бацькаўшчыны (паэмы «Мешка, князь Навагрудка», «Гражына», балада «Свіцязь» і інш.), А.Міцкевіч зазвычай выбірае той адрэзак часу, калі Вялікае Княства Літоўскае яшчэ не знаходзілася ў саюзе з Польскім Каралеўствам. Гэта значыць, што Рэч Паспалітую, а тым больш Карону, паэт першапачаткова ўспрымаў даволі абстрактна; у вершах і паэмах, напісаных А.Міцкевічам на гістарычную тэматыку ў віленска-ковенскі перыяд творчасці, цяжка знайсці сцвярджэнне адваротнага. Напрыклад, задума паэмы «Мешка, князь Навагрудка», якая стала першым творам А.Міцкевіча, прысвечаным гістарычнай тэматыцы, была скіравана перш за ўсё на выхаванне грамадзянскай адказнасці ў суайчыннікаў. Дзеля рэалізацыі гэтай задачы паэт звяртаецца да асобных, найбольш яск-

---

[55] Цывіньскі, Б. Рамантычны падмурак культуры XIX ст. Вялікага Княства Літоўскага / Б. Цывіньскі // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэрыялы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 227.

равых старонак з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Фактычна, галоўную ролю тут адыгрывае не сама гісторыя, але дух далёкай мінуўшчыны. Таму пры стварэнні вобраза Парая, адважнага воя і патрыёта сваёй бацькаўшчыны, паэт як бы незнарок згадвае рэальную гістарычную асобу – Альгерда, вялікага князя літоўскага, які сапраўды праславіўся тым, што больш за іншых ваяваў з Масковіяй; увёў яго А.Міцкевіч у паэму з вядомай мэтай – узняць свабодалюбівы дух суайчыннікаў ва ўмовах тагачаснай трагічнай рэальнасці.

Дарэчы, герой з імем Парай неаднаразова з'яўляецца ў творах А.Міцкевіча, звязаных з гістарычным мінулым Вялікага Княства Літоўскага (акрамя паэмы «Мешка, князь Навагрудка», гэтае імя сустракаецца ў творы «Жывіля» і ў баладзе аб заклятым юнаку ў 1-й частцы драматычнай паэмы «Дзяды»). Справа ў тым, што Парай – назва герба Міцкевічаў: праслаўляючы сваю айчыну, паэт не забывае ўшанаваць уласны род, гэтым самым падкрэсліваючы, што ён – грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага.

Яскравым прыкладам «ліцвінскасці» польскага рамантыка з'яўляецца і балада «Свіцязь» – адна з найпрыгажэйшых балад А.Міцкевіча, у якой гістарычныя падзеі набываюць міфічны характар, затое легенда апранаецца ў шаты праўдападобнасці. «Свіцязь» становіцца алегорыяй на найноўшую гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, нягледзячы на тое, што паэт апісвае падзеі, якія быццам бы адбываліся ў Літве яшчэ пры Міндоўгу:

Ды ў год нейкі з войскам вялізным цар з Русі
Яе абложыў быў надоўга.
Прыціхла Літва ўся: паддацца б не змусіў
Ён сілай сваёю Міндоўга[56]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Нагадаем, што ў часы Міндоўга (XIII ст.) ніводны расійскі князь яшчэ не насіў тытул цара. А.Міцкевіч свядома ўводзіць гэтую недакладнасць, каб правесці празрыстую аналогію з сучаснай яму палітычнай сітуацыяй.

Пра выключна ліцвінскі патрыятызм А.Міцкевіча, а значыць і «ліцвінскасць» яго рамантычнага светапогляду, сведчыць таксама паэма «Гражына», у якой паэт выступае не толькі як тонкі, чуйны лірык, але і як дасведчаны гісторык, што «праявілася як у ве-

[56] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 29.

данні асобных дэталей, так і ў агульных тэндэнцыях і нават у некаторых даўніх ацэнках канкрэтных асоб».[57]

У адрозненні ад паэмы «Мешка, князь Навагрудка» і балады «Свіцязь» паэма «Гражына» дакладна перадае цэлы перыяд гісторыі Вялікага Княства Літоўскага: канец XIV – першая палова XV ст., калі ў краіне вяліся міжусобныя войны, выкліканыя палітычнымі і дынастычнымі прычынамі. Разам з тым, як і папярэднія творы, гэтую паэму А.Міцкевіч скіраваў да суайчыннікаў, маючы аднак за мэту не толькі ўзняць іх патрыятычны дух, але і зацікавіць сваіх сучаснікаў гісторыяй радзімы, падштурхнуць іх да ўсведамлення сябе як грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага, якое неўзабаве мусіць адрадзіцца.

Толькі напрыканцы 1827 года з напісаннем балады «Тры Будрысы», заўважаецца перамена ў свядомасці паэта: А.Міцкевіч пачынае разумець, што яго радзіму, Вялікае Княства Літоўскае, можна адрадзіць толькі ў адным выпадку – уваскрасіўшы Рэч Паспалітую. Сюжэт верша сімвалічна люструе гістарычную наканаванасць аб’яднання дзвюх дзяржаў у адну: тры сыны старога Будрыса, які мае жонку польку, таксама прывозяць сабе з паходу жонак полек. Дарэчы і тут А.Міцкевіч застаецца верным Літве – Будрысы бяруць замуж полек, а гэта значыць, што ўтварэнне Рэчы Паспалітай паэту бачылася як волевыяўленне перш за ўсё Вялікага Княства Літоўскага, а не Каралеўства Польскага.

Разважаючы над крыніцамі рамантызму А.Міцкевіча, літоўскі даследчык А.Пірачкінас вылучае тры асноўныя фактары ўплыву на творчую свядомасць паэта: грамадскае асяроддзе (сям’я, сацыяльны стан, этнас); вучоба (набытыя веды праз лекцыі, чытанне і г.д.); уласнае духоўнае жыццё (асабістыя пачуцці, дазнанні, развагі).[58] Між тым галоўнай крыніцай і фармантам рамантычнага светапогляду А.Міцкевіча вучоны называе ўсведамленне паэтам сваёй «ліцвінскасці», якую той заўсёды адстойваў, супрацьпастаўляючы «польскасці» некаторых сваіх суайчыннікаў. У адваротным выпадку славуты «Пан Тадэвуш» пачынаўся б неяк інакш, а не словамі: «Litwo! Ojczyzno moja!».

---

[57] Бохан, Ю. Гістарычныя матывы ў творчасці Адама Міцкевіча / Ю. Бохан // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7–11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 93.

[58] Piroиkinas, A. Џrydia romantyzmu Adama Mickiewicza / A. Piroиkinas // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7–11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 40 – 41.

Патрыятызм, а значыць і рамантызм, А.Міцкевіча на розных узроўнях і этапах яго жыццёвага і творчага шляху меў адпаведна рознае ўвасабленне. Маючы гэта на ўвазе, А.Мальдзіс канстатаваў: «Я прасачыў усю творчасць паэта, увесь яго інтэлектуальны і філасофскі шлях і прыйшоў да такой высновы. Перш за ўсё А.Міцкевіч як паэт быў вялікім патрыётам Навагрудчыны, як філосаф быў патрыётам Вялікага Княства Літоўскага. І як эміграцыйны дзеяч – патрыётам Рэчы Паспалітай. Таму, думаю, ён належыць усім народам Рэчы Паспалітай, ён – і ні ваш, і ні наш».[59] А.Мальдзіс слушна абвяргае тую адзінаўласную прэтэнцыёзнасць, якая існуе сёння ў нашчадкаў былой Рэчы Паспалітай, палякаў, літоўцаў і беларусаў у дачыненні да спадчыны паэта: «творчасць А.Міцкевіча не дзеліцца, не дапасоўваецца да гэтых нацыянальных шуфлядаў, бо яны сканструяваны паводле сённяшняга светабачання. І таму – анахранічныя, агістарычныя».[60] Між тым спрэчкі, кім быў А.Міцкевіч паводле свядомасці і нацыянальнай прыналежнасці, не спыняюцца ўжо амаль паўтара стагоддзя.

У Польшчы А.Міцкевіча лічаць палякам, таму што мова, якой карыстаўся паэт, ствараючы мастацкія творы, – польская, аздобленая, праўда, даволі значнай колькасцю беларусізмаў, што стала адной з прычын неадэкватнага стаўлення да ягонай паэзіі варшаўскіх рэцэнзентаў. Аднак, як вядома, пры вызначэнні нацыянальнай прыналежнасці, мова з’яўляецца важным, але не адзіным фактарам.

Лічаць сваім А.Міцкевіча і сучасныя літоўцы, таму што ў іхняй сучаснай сталіцы, Вільнюсе, а таксама ў Каўнасе адбылося фарміраванне мастацкай і грамадзянскай пазіцый паэта. Але гэта ўсё, што звязвае А.Міцкевіча з сучаснай Літвой. Іншых аргументаў на карысць Ліетувы ў міцкевічазнаўстве не знойдзена да сённяшняга дня. Адзначым, што паэт не ведаў ні мовы, ні фальклору гэтага краю.

Сярод прэтэндэнтаў на спадчыну А.Міцкевіча найбольш сціплымі, у сілу розных акалічнасцей, аказаліся беларусы. Першым звярнуў увагу на «беларускасць» паэта В.Дунін-Марцінкевіч, які ўпершыню пераклаў «Пана Тадэвуша» на беларускую мову. На жаль, беларускі пераклад паэмы напаткаў марны лёс – царскай

[59] Цыт. па: Бялаказовіч, Б. Беларускія элементы, матывы і сюжэты ў творчасці Адама Міцкевіча / Б. Бялаказовіч // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7–11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 195.

[60] Мальдзіс, А. «Малая», «сярэдняя» і «вялікая» радзімы Адама Міцкевіча / А. Мальдзіс // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7–11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 394.

цэнзурай нішчылася ўсё, што было прама ці ўскосна звязана з Беларуссю.

Савецкія літаратуразнаўцы, баючыся «пакрыўдзіць» калегаў з ПНР, цалкам пагаджаліся з імі ў тым, што А.Міцкевіч выключна польскі паэт і патрыёт. Пра сувязь з Беларуссю амаль нічога не гаварылася, – толькі тое, што ў творчасці сваёй паэт выкарыстаў некаторыя матывы беларускага фальклору.

Толькі ў апошняе дзесяцігоддзе, калі наша краіна набыла незалежнасць, а з ёй – магчымасць у поўны голас заявіць свае правы на частку еўрапейскай культурна-гістарычнай спадчыны, намаганнямі такіх вучоных як А.Лойка, А.Мальдзіс і інш., адбыўся перагляд традыцыйных поглядаў на асобу А.Міцкевіча: айчыннае літаратуразнаўства нарэшце звярнула ўвагу на тую значную ролю, якую адыграў у творчасці і лёсе паэта беларускі фактар.

Уплыў беларускай культуры на творчую свядомасць А.Міцкевіча сапраўды заўважальны: фальклор, мова, побыт і звычаі народа, сярод якога нарадзіўся і вырас паэт, а таксама непаўторная прыгажосць навагрудскай зямлі, сфарміравалі яго талент і эстэтычны густ, сталі першаасновай, падмуркам ягонай рамантычнай паэзіі, абумовіўшы ў будучым сусветную вядомасць.

«Нарадзіўшыся між беларусаў, паходзячы з польскай шляхты, якая была каранямі беларускай, – піша А.Лойка, – А.Міцкевіч і не мог не ўвабраць у сябе, сваю творчасць беларускага субстрата – прычым на шматлікіх узроўнях – духоўна-светапоглядавым, сюжэтна-будаўнічым, канкрэтна-бытавым, моўным».[61]

Уплыў беларускай культуры А.Міцкевіч адчуваў на працягу ўсяго жыцця, прычым у розныя перыяды гэты ўплыў мяняўся, набываў новыя віды і формы. Заставалася нязменным толькі адно: як сказаў духоўны спадкаемца вялікага польскага рамантыка, беларускі пясняр Янка Купала, «А.Міцкевіч заўсёды з велізарнай павагай і любасцю ставіўся да беларускага народа, яго жыцця і творчасці».[62]

У айчынным міцкевічазнаўстве існуе некалькі перыядызацый творчасці паэта ў залежнасці ад уплыву на яго творчасць беларускай культуры. Першая з іх была прапанавана А.Лойкам. Даследчык вылучае чатыры этапы, якія «больш выразна вырысоўваюцца ў адносінах А.Міцкевіча да фальклору: першы – А.Міцкевіч зас-

[61] Лойка, А. «Душою ў радзіме разліўся...» / А. Лойка // Міцкевіч А. Вершы і паэмы. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 18.

[62] Купала, Я. Вечна жывая паэзія / Я. Купала // Адам Міцкевіч і Беларусь / уклад. В. Грышкевіч; навук. рэд. А. Мальдзіс, Т. Нягодзіш. – Мінск.: ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. – С. 102.

войвае фальклор з вуснаў народа. Другі – 1819 – 1821 гады, калі паэт піша «Балады і рамансы», якія выходзяць асобнай кніжкай у 1822 годзе. Трэці – ён стварае віленска-ковенскія «Дзяды». Чацвёрты – А.Міцкевіч працуе над «Панам Тадэвушам».[63]

Інакш да праблемы перыядызацыі творчасці А.Міцкевіча падышла С.Мусіенка, якая адзначыла ўплыў на паэта не толькі беларускага фальклору, але і беларускай мовы, мясцовых звычаяў і абрадаў. Разглядаючы гэты складаны працэс «уздоўж жыцця» А.Міцкевіча, даследчыца выдзяляе ў ім тры перыяды: «пазнавальны (дзяцінства і юнацтва), трансфарматыўна-творчы (жыццё і творчасць віленска-ковенскага перыяду) і настальгічны (успаміны ў эміграцыі і іх трансфармацыя ў творчасці)».[64]

Ужо сам прыход на свет А.Міцкевіча стаў прычынай з’яўлення цікавых сямейных паданняў, якія не маглі не паўплываць на ўяўленне паэта. Першае паданне паходзіць ад старэйшага брата А.Міцкевіча, Францішка. Паводле яго, нарадзіўся Адам у прыдарожнай карчме, дзе вымушана была спыніцца цяжарная маці, вяртаючыся з Завосся ў Навагрудак. Гэта прадвызначыла вандроўны, неспакойны лёс паэта. Другое сямейнае паданне паходзіць ад малодшага брата Аляксандра. Паводле яго, будучы паэт нарадзіўся ў Завоссі. Перад тым, як перарэзаць пупавіну, павівальная бабка паклала хлопчыка на кнігу, каб дзіця расло разумным.

З самага маленства А.Міцкевіч быў далучаны да беларускай народнай культуры. Людзі, што служылі ў Міцкевічаў, сяляне-суседзі, дробная шляхта – кліенты бацькі будучага паэта – былі не толькі носьбітамі беларускай мовы, але таксама выдатнымі выканаўцамі народных песен, ведалі беларускія казкі і паданні, прыказкі і прымаўкі. Служанку Гансеўскую, якая адна з першых прывіла будучаму паэту любоў да народнай песні, навучыла яго бачыць хараство ў простых словах, А.Міцкевіч помніў усё жыццё. У размове з гісторыкам В.Бавароўскім у Парыжы ў 1853 годзе ён згадвае гэтую жанчыну. «У бацькоўскім доме А.Міцкевіча, – інфармуе В.Бавароўскі, – было некалькі дзяўчат-пакаёвак, адна з якіх мела вялікі запас прыказак і прымавак, песен і паданняў. А.Міцкевіч столькі ў дзяцінстве наслухаўся, што ведае не толькі ўсе народныя

---

[63] Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. Лойка. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1959. – С. 56.

[64] Мусіенка, С. Беларускія абрады і фальклор у творчасці Адама Міцкевіча / С. Мусіенка // Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: мат-лы IX міжнар. навук. канф. «Шлях да ўзаемнасці», Беласток, 20–22 ліп. 2001 г. / пад рэд. М. Кандрацюка. – Беласток: Wydawnictwo Uniwersytetu w Biaiymstoku, 2002. – С. 143.

песні, змешчаныя ў зборніках, але і многія іншыя. Вырас ён сярод лясоў, таму мог пазнаёміцца з гэтай народнай спадчынай. Народную песню ён лічыў лепшым за ўсё».[65]

З беларускімі казкамі знаёміў будучага паэта стары слуга Блажэй, якому Мікалай Міцкевіч, бацька Адама, даў мянушку Уліс, бо той «кожны вечар апавядаў пра свае праўдзівыя і выдуманыя прыгоды самыя найдзіўнейшыя рэчы, а дзеці, збегшы ў пакой для чэлядзі, так прагна слухалі, што іх потым нельга было прымусіць ісці спаць».[66]

З 1807 па 1815 год А.Міцкевіч вучыцца ў школе навагрудскіх дамініканаў, дзе пазнаёміўся і пасябраваў з Я.Чачотам. Малодшы іх таварыш, Ігнат Дамейка, пазней прыгадае пра гэтае сяброўства: «Два вучні Навагрудскай школы з маленства добра ведалі наш ліцвінскі народ, палюбілі яго песні, прасякнуліся яго духам і паэзіяй, гэтаму напэўна спрыяла і тое, што невялікае мястэчка Навагрудак мала чым адрознівалася ад нашых вёсак і засценкаў. Школьнае жыццё было амаль сельскім. Сябры хадзілі па кірмашах, сялянскіх вяселлях, дажынках і хаўтурах. Яшчэ ў школьныя часы ўбогая страха і народная песня распалілі ў абодвух першы паэтычны агонь».[67]

З 1815 па 1818 год праходзіць навучанне А.Міцкевіча ў Віленскім універсітэце. У гэты час з’яўляюцца новыя крыніцы ўплыву на станаўленне рамантычнага светапогляду паэта: віленская перыёдыка, перш за ўсё «Dziennik Wilecski», ужо змяшчала фалькларыстычныя беларусазнаўчыя працы М.Чарноўскай, К.Ляха-Шырмы і інш., а на лекцыях Л.Бароўскага звярталася ўвага на тое, што вусная народная творчасць – гэта тая крыніца, якая павінна даць літаратуры новае дыханне. Прафесар сцвярджаў, што праз фальклор «мы не толькі глыбей здолелі б увайсці ва ўласцівы спосаб паэтычнага мыслення нашых продкаў, але можа і адкрылі б старажытныя аповесці, рэлігійныя думы і гістарычныя паданні, вартыя параўнання з цудоўнымі баладамі Англіі і паэзіяй трубадураў».[68]

Любоў А.Міцкевіча да беларускай культуры, у асяродку якой прайшло дзяцінства паэта, захапленне беларускім фальклорам, народнымі абрадамі і звычаямі паспрыяла таму, што ва універсітэ-

---

[65] Цыт. па: Kleiner, J. Mickiewicz: w 2 т. / J. Kleiner. – Lwyw, 1934. – 1 т. – S. 317.

[66] Mickiewicz, W. Ïywot Adama Mickiewicza: w 2 t. / W. Mickiewicz. – Poznac, 1929. – T.1. – S. 10.

[67] Цыт. па: Mickiewicz, W. Ïywot Adama Mickiewicza: w 2 t. / W. Mickiewicz. – Poznac, 1929. – T.1. – S. 10.

[68] Цыт. па: Мархель, У. І. «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 1998. – С. 14

це ён становіцца адным з ініцыятараў і лідэраў асветніцкага гуртка філаматаў. Усе філаматы актыўна валодалі беларускай мовай, бо згодна з іх сацыяльнай праграмай сябры таварыства павінны былі абавязкова ведаць народныя звычаі і мову. Некаторыя ж з іх, як, напрыклад, Я.Чачот, спрабавалі нават пісаць на беларускай мове вершы, а таксама збіралі і вывучалі вусную народную творчасць беларусаў: «ідэі рамантызму якраз і падахвочвалі цікавасць да жыцця народа, вывучэння яго творчасці».[69]

Магчыма, што і ў А.Міцкевіча былі вершы, напісаныя па-беларуску, на жаль, ніякіх дакументальных падцверджанняў гэтаму пакуль няма. Між тым, як заўважае С.Мусіенка, у яго польскамоўных вершах філамацкага перыяду ўжо можна адчуць уздзеянне моцнай беларускай фалькльорнай традыцыі. Так, напрыклад, у некаторых вершах («Хай радасць з вачэй нашых блісне...» і «Песня філарэтаў») аўтар «выкарыстоўвае ўласцівыя беларускім народным песням рытмы, выклічнікі «hej», «niechïe». У «Песню філарэтаў» А.Міцкевіч увёў старажытны славянскі абрад застолля з перадаваннем адзінай для ўсіх чары з віном (варыянты: брага, мёд) па кругу, якая служыць сімвалам весялосці і яднання людзей. У беларускіх і ўкраінскіх народных песнях на гэтую тэму выступае калектыўны герой, звычайна, дэкласіраваная бедната (варыянты: жабракі і добрыя разбойнікі), ці воінства ў час балявання. Асноўная функцыя такога героя – пакаранне крыўдзіцеля-пана».[70]

Замілаванасць родным краем выявілася ў імкненні паэта канкрэтызаваць тыя мясціны, якія ён апявае: «Зямля наваградская, край мой родны», «Вітай, край дарагі, зямелька Прынямоння» («Бульба»). Матыў любові да роднай зямлі з падобнай канкрэтызацыяй «быў і застаецца ўласцівым беларускаму фальклору, асабліва народным песням, якія збіраў і спяваў А.Міцкевіч са сваімі сябрамі»,[71] праводзячы часы канікул у вандроўках па розных мясцінах. Наваградак, Завоссе, Плужаны, Тугановічы, Шчорсы, Варонча, Чамбро-

[69] Пірачкінас, А. Вільня – калыска польскага рамантызму / А. Пірачкінас // Край: (Polonica-Albaruthenica-Lithuanica). – 2002. – № 1/2. – С. 69.

[70] Мусіенка, С. Беларускія абрады і фальклор у творчасці Адама Міцкевіча / С. Мусіенка // Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: мат-лы IX міжнар. навук. канф. «Шлях да ўзаемнасці», Беласток, 20–22 ліп. 2001 г. / пад рэд. М. Кандрацюка. – Беласток: Wydawnictwo Uniwersytetu w Biaiymstoku, 2002. – С. 143–144.

[71] Мусіенка, С. Беларускія абрады і фальклор у творчасці Адама Міцкевіча / С. Мусіенка // Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: мат-лы IX міжнар. навук. канф. «Шлях да ўзаемнасці», Беласток, 20–22 ліп. 2001 г. / пад рэд. М. Кандрацюка. – Беласток: Wydawnictwo Uniwersytetu w Biaiymstoku, 2002. – С. 144.

ва, Сталавічы, Новая Мыш – праз гэтыя і іншыя беларускія вёскі і мястэчкі пралягае «шлях» паэта. У гутарцы са сваім выдаўцом, А.Ходзькам ён пасля скажа: «Нідзе на зямлі няма весялейшага жыцця, чым у ліцвінскіх вёсках і засценках. Столькі там радасці, любасці, бязмежнага чалавечага шчасця. Магчыма, не дасць Бог пажыць больш гэтым жыццём, але мы павінны нешта зрабіць, каб захаваць яго каштоўны народны змест і даць зразумець усю яго вартасць. Такога жыцця я шчодра паспытаў паміж 1815 і 1820 гадамі, асабліва ў доме Верашчакаў (Тугановічы, Плужаны), дзе ў кампаніі Тамаша Зана і іншых праводзіў я канікулы. Цэлыя ночы ў лясах і над азёрамі... Выслухаўшы аднойчы надзвычай цікавую казку, расказаную рыбаком, Марыля, звяртаючыся да мяне, сказала: «Вось гэта паэзія! Напішы штосьці такое!» Гэтыя словы глыбока кранулі маю душу і з таго часу я абраў свой паэтычны накірунак».[72]

Каханне А.Міцкевіча да Марылі Верашчакі сапраўды стала стымулам яго паэтычнага натхнення. Пазнаёміў іх Т.Зан, сябар і паплечнік паэта па філаматцкім гуртку. Знаёмства адбылося ў 1818 г. у Тугановічах, куды сябры пад час летніх канікул прыехалі пагасціць да свайго таварыша Міхала Верашчакі, брата Марылі. Пяшчотная сімпатыя, узнікшая паміж маладымі людзьмі, перарасла неўзабаве ў вялікае каханне, якое А.Міцкевіч пранёс праз усё сваё жыццё. Імя Марыля сталася сімвалам гэтага прыгожага, але трагічнага пачуцця. Такімі ж імёнамі-сімваламі ў сусветнай літаратуры з'яўляюцца Беатрычэ Дантэ і Лаўра Петраркі. Пра выключную значнасць ролі, якую адыграла гэтая дзяўчына ў творчым лёсе паэта, вельмі трапна выказаўся А.Пірачкінас: «Ці маглі б мы ўявіць творчы шлях А.Міцкевіча, калі б фатальнае каханне да Марылі не зрабіла з паэта такога шаленца? Нельга сумнявацца ў тым, што ён і без таго пісаў бы і ствараў геніяльныя творы, але тады мы напэўна не змаглі б прачытаць ні ІІ, ні IV часткі «Дзядоў», ні «Гражыны» і, магчыма, ні «Конрада Валенрода». З часам А.Міцкевіч усё ж напэўна б далучыўся да рамантызму, між тым жарсць паспрыяла незвычайна хуткаму адрачэнню паэта ад уласцівых яму класіцыстычных «харэяў» і «ямбаў» і змусіла пайсці больш плённым шляхам».[73] Без гэтага кахання не было б і першага зборніка вершаў

[72] Mickiewicz, W. Ïywot Adama Mickiewicza: w 2 t. / W. Mickiewicz. – Poznac, 1929. – T.1. – S. 45 – 46.

[73] Piroиkinas, A. Џrydia romantyzmu Adama Mickiewicza / A. Piroиkinas // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэрыялы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 45.

«Балады і рамансы», які, па словах А.Лойкі, стаў «кнігай, складзенай на курганок па каханні да Марылі».[74]

З працай над «Баладамі і рамансамі» распачаўся трансфарматыўна-творчы перыяд уплыву беларускай культуры на А.Міцкевіча. З чатырнаццаці вершаў гэтага цыклу трынаццаць заснавана на беларускім фальклоры. У гэты ж час паэт сам стварае фальклорныя мадэлі («Свіцязянка», «Дудар»), якія пачынаюць уплываць на эстэтычную свядомасць людзей і крыніцы вуснай народнай творчасці. Так, напрыклад, з дзевяці паданняў пра возера Свіцязь, запісаных работнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, некаторыя (№ 683, 684) былі створаны, несумненна, пад уплывам балады А.Міцкевіча.[75]

Як сцвярджаў рускі паланіст Б.Стахееў, «фальклярызм А.Міцкевіча ахопліваў сферу больш шырокую, чым пошукі сюжэтна-вобразнай свежасці, ён павінен быў даць тое, чаго не ставала паэту ў асветніцкім разуменні <...> Для А.Міцкевіча не было самамэтаю выкарыстанне фальклорнай фантастыкі, у народным мастацкім мысленні яго захапляў перш за ўсё маральны аспект. Фантастычны свет яго балад, у якім праведзена была дакладная мяжа паміж дабром і злом, знаходзілі адплату здрада, нявернасць, духоўная чэрствасць, за зняважанага заступаліся звышнатуральныя сілы, быў светам строгіх маральных патрабаванняў (як бы іх вартаўніком і выступала «дзівоснае»), светам, рамантычна супрацьпастаўленым навакольнай рэчаіснасці».[76]

Адзначым, што пры стварэнні зборніка «Балады і рамансы», паэт выкарыстоўваў не толькі фальклор, але і беларускія народныя абрады, павер’і і звычаі («Курганок Марылі», «Дудар» і інш.), якія яшчэ больш узбагацілі паэтычны свет першай кнігі А.Міцкевіча.

Следам за першым томам «Паэзіі» (1822 г.) выходзіць другі том (1823 г.), які змяшчае паэму «Гражына», II і IV часткі «Дзядоў». У параўнанні з «Баладамі і рамансамі», у якіх рамантызм А.Міцкевіча выявіўся перш за ўсё дзякуючы беларускаму фальклорнаму фактару, рамантызм II тому «Паэзіі» грунтуецца на гістарычным фактары беларускай культуры («Гражына») і беларускім старажытным памінальным абрадзе («Дзяды»).

---

[74] Лойка, А. «Душою ў радзіме разліўся...» / А. Лойка // Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С 8.

[75] Мусиенко, С. Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича / С. Мусиенко // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 209.

[76] История польской литературы: в 2 т. – М.: Наука, 1968. – Т. 1 – С. 221–222.

У 1824 годзе А.Міцкевіч вымушаны быў пакінуць радзіму. З-за філамацкай дзейнасці яго высылаюць у Расію. Пяцігадовая высылка абярнулася для паэта эміграцыяй на ўсё жыццё. Апынуўшыся за межамі роднага краю, А.Міцкевіч выходзіць на новы ўзровень успрымання і асэнсавання бацькаўшчыны, што прывяло да пэўных зменаў у творчай свядомасці паэта. «Тэма радзімы, – адзначае С.Мусіенка, – асабліва ў першыя гады жыцця на чужыне, становіцца галоўнай і набывае характар настальгічны. А.Міцкевіч і яго рамантычны герой, як Антэй, адлучаны ад маці-зямлі, сваю творчую сілу і духоўнасць чэрпае з успамінаў, з любові да айчыны, якую ён захаваў у сваім сэрцы. Айчына трансфармуецца ў легенду, ідэал, міф, але міф, апрануты ў трагедыю няволі, нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту. Так у творчасці паэта пачынаюць пераплятацца матывы бытавыя, атуленыя светлым лірычным смуткам (паляванне, збіранне грыбоў у «Пане Тадэвушы»), з матывамі палітычнай і сацыяльнай крытыкі рэчаіснасці, з асэнсаваннем трагедыі народу і творчай асобы, паэта-вестуна, прарока («Дзяды»)».[77]

Вяршыняй жа ўсёй творчасці А.Міцкевіча большасцю літаратуразнаўцаў прызнаецца паэма-эпапея «Пан Тадэвуш». Знаходзячыся далёка за межамі роднага краю, паэт здолеў з неверагоднай дакладнасцю ўзнавіць самыя розныя рэаліі з жыцця беларускай і польскай шляхты канца XVIII – пачатку XIX ст., зрабіўшы свой твор сапраўднай народнай энцыклапедыяй. Фактары беларускай культуры, якія на працягу ўсяго жыцця паэта мелі вялікі ўплыў на ягоную творчасць, у паэме «Пан Тадэвуш» адлюстраваліся ў найбольшай ступені: А.Міцкевіч паказаў не толькі беларускія народныя традыцыі і побыт, але і асаблівасць менталітэту беларусаў, іх мыслення і светасузірання. Сам твор багата насычаны беларускай лексікай, да таго ж і сінтаксіс «Пана Тадэвуша» носіць выразна «крэсовы», збеларушчаны характар. Па сутнасці «Пан Тадэвуш», як, зрэшты, абсалютная большасць твораў паэта, з'яўляецца, па словах У.Мархеля, тэкстам двухсістэмным, таму што «асваенне Міцкевічам у масіве польскай мовы матэрыялу, успрынятага ў беларускамоўнай стыхіі, так ці інакш стварала прэцэдэнт сумяшчальнага суаднясення дзвюх ментальнасцей, дзвюх традыцый і двух кодаў».[78] Магчыма, па гэтай прычыне «раскадзіроўка» творчай

[77] Мусіенка, С. Рух героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» / С. Мусіенка // Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С.56 – 57.

[78] Мархель, У.І. Адам Міцкевіч у беларускіх перакладах / У.І. Мархель // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка: мат-лы XIII міжнар. з'езду славістаў, Любляна, 2003 г.: дакл. бел. дэлегацыі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – С. 324.

спадчыны нашага агульнага песняра ў выглядзе яе перакладу на беларускую мову не заўсёды адпавядае той сістэме выяўленчых сродкаў, якая служыла для выражэння ідэй, думак і пачуццяў А.Міцкевіча. Той жа «Пан Тадэвуш» у асобных яго беларускамоўных варыянтах (напрыклад, пераклад, здзейснены ўпершыню В.Дуніным-Марцінкевічам і адзін з апошніх з перакладаў эпапеі, здзейснены Я.Семяжонам) з'яўляецца хутчэй наследаваннем Міцкевічавай традыцыі, а не яе ўзнаўленнем сродкамі іншай мовы.

Свае адносіны да беларускай мовы, фальклору і гісторыі нашага народа А.Міцкевіч засведчыў яшчэ і як навуковец. У лекцыях па славянскіх культурах і літаратурах ён казаў: «На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-рускай <...> гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі.» Іншым разам у тых жа лекцыях А.Міцкевіч падкрэсліваў: «Сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульных славянскіх рысаў. У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі Літоўскі Статут напісаны іх мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш змененай».[79]

Такім чынам, мы можам адназначна сцвярджаць, што беларускі народ мае не меншае права на спадчыну А.Міцкевіча, чым іншыя народы былой Рэчы Паспалітай. Менавіта з «рэчапаспалітаўскай» рамантычнай традыцыі А.Міцкевіча бярэ свой пачатак як польская, так і беларуская рамантычная літаратура. «Калі мы сёння будзем гаварыць пра генезіс і традыцыі беларускага рамантызму, – адзначае І.Багдановіч, – то значыць мы будзем гаварыць пра традыцыю, ля вытокаў якой стаіць А.Міцкевіч, якую ён сцвердзіў уласнай творчасцю, увасобіўшы ў рытуальнай польскамоўнасці сутнасную мадэль нацыянальнага (беларуска-«ліцьвінскага» і польскага як «рэчапаспалітаўскага») духоўнага, культурна-гістарычнага і этна-генетычнага космасу».[80]

Адзначым таксама, што рамантызм А.Міцкевіча вызначыў не толькі шлях развіцця беларускай літаратуры ў XIX ст., уплываючы на творчасць В.Дуніна-Марцінкевіча альбо Ф.Багушэвіча, але сяг-

[79] Цыт. па: Лойка А. «Душою ў радзіме разліўся...» // Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 19.

[80] Багдановіч, І. Творчасць Адама Міцкевіча і станаўленне беларускай рамантычнай традыцыі / І. Багдановіч // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 264.

нуў у наступнае, XX ст., стаўшы надзейным падмуркам беларускага неарамантызму, прадстаўленым перш за ўсё Янкам Купалам. Як заўважыла І.Багдановіч, «узноўлены А.Міцкевічам «сармацка-рыцарскі» ідэал, які дэфармаваў аблічча еўрапейскага байранічнага героя, надаваў яму рысы патрыёта айчыны і змагара за яе вызваленне, прыцягваў увагу беларускіх пісьменнікаў і ў пазнейшыя часы. Так, ён стаў вызначальным і праявіўся яшчэ раз як традыцыя ў творчасці У.Караткевіча, перадусім у вобразе князя Алеся Загорскага – героя рамана «Каласы пад сярпом тваім» і «Зброя».[81]

На падставе сказанага можна зрабіць наступныя высновы:

- на інтэлектуальнай і творчай прасторы былой Рэчы Паспалітай А.Міцкевіч стаў першым паэтам і літаратуразнаўцам, хто адкрыта прыняў бок рамантызму;

- рамантызм А.Міцкевіча стаў заканамерным вынікам яго патрыятызму перш за ўсё ў адносінах да Вялікага Княства Літоўскага, грамадзянінам якога паэт сябе ўсведамляў;

- разам з іншымі важнымі фактарамі фарміравання творчай асобы А.Міцкевіча фальклор, мова, побыт і звычаі беларускага народа з'яўляюцца галоўнай крыніцай яго рамантычнага светапогляду;

- уплыў беларускай культуры, які ўвесь час мяняўся, набываючы новыя віды і формы, А.Міцкевіч адчуваў на працягу ўсяго жыцця: «беларускасць» паэта на вобразным, тэматычным і ідэйным узроўнях выявілася як у ранніх яго творах, такіх як «Мешка, князь Наваградка» альбо «Бульба», так і ў больш позніх, напісаных ужо ў эміграцыі, напрыклад, у «Пане Тадэвушу», дзе ў дэталях узноўлена жыццё, побыт, звычкі і традыцыі, нават асаблівасці светасузірання беларуска-польскай шляхты канца XVIII – пачатку XIX стагоддзяў;

- не толькі беларуская народная культура мела ўплыў на творчую свядомасць А.Міцкевіча, але і яго творчасць таксама ўплывала на эстэтычную свядомасць беларусаў, што адыграла важную ролю ў фарміраванні беларускай рамантычнай традыцыі: асэнсаванне беларускімі рамантыкамі (В.Дунbackslash-free Дуніным – Марцінкевічам, Ф.Багушэвічам, Янкам Купалам і інш.) велічы, глыбіні і спрадвечнай мудрасці, якая хаваецца ў народнай творчасці, адбывалася пад моцным уздзеяннем паэзіі А.Міцкевіча.

[81] Багдановіч, І. Э. Авангард і трыдыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Э. Багдановіч. – Мінск: Бел. навука, 2001. – С. 35.

## ГЛАВА 3
## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР У «БАЛАДАХ І РАМАНСАХ» АДАМА МІЦКЕВІЧА

У другой палове чэрвеня 1822 г. у Вільне выходзіць першы том «Паэзіі» Адама Міцкевіча. Большую яго частку займае цыкл вершаў пад назвай «Балады і рамансы», які складаецца з 14 твораў. «Свіцязь», «Свіцязянка», «Рыбка», «Вяртанне таты», «Люблю я», «Пані Твардоўская», «Тукай» і «Лілеі» пазначаны як балады, «Курганок Марылі» і «Дудар» – рамансы. Па-за жанравымі межамі, акрэсленымі А.Міцкевічам, апынуліся вершы «Пальчатка», «Першацвет» і «Рамантычнасць».

«Пальчатку» паводле многіх прыкмет можна было б акрэсліць як баладу, аднак паэт не пакідае за вершам гэты статус, таму што ён не адпавядае мастацкай канцэпцыі, згодна якой пабудаваны цыкл твораў. Сюжэт «Пальчаткі» запазычаны ў Ф.Шылера, тады калі сюжэты іншых вершаў створаны альбо на аснове народнай творчасці, альбо складзены па іх узору самім А.Міцкевічам. Гэта адзіны твор зборніка, які не звязаны ні з беларускім, ні з агульнаславянскім фальклорам. Узнікае пытанне: «З якой мэтай А.Міцкевіч змяшчае верш, калі відавочна яго неадпаведнасць у межах цыклу»? На нашу думку, гэта можа быць сведчаннем індывідуальнага падыходу А.Міцкевіча да праблемы жанру, рамантычным пратэстам супраць «агульнапрынятага» разумення балады. Разам з тым, польскі рамантык такім чынам акцэнтуе ўвагу на лучнасці сваёй творчасці з еўрапейскай рамантычнай традыцыяй, а таксама робіць своеасаблівы выклік «патронам» псеўдакласічнага мастацтва, кідаючы ім «Пальчатку». Магчыма, уводзячы ў цыкл гэтую баладу, паэт хацеў у чарговы раз (абапіраючыся не толькі на народную эстэтыку) раскрыць сутнасць сапраўднага кахання, якое павінна грунтавацца на высокіх маральных прынцыпах, а не на дробных эгаістычных памкненнях.

Некаторыя творы «Балад і рамансаў» пазначаны не толькі згодна іх прыналежнасці да таго ці іншага жанру, але маюць своеасаблівыя ўдакладненні, у якіх аўтар свядома звяртае ўвагу на сувязь сваёй паэзіі з фальклорам. Так «Рыбка» і «Лілеі» маюць падтытул «з народнай песні», «Курганок Марылі» – «задума з ліцвінскай песні», «Дудар» – «задума з народнай песні». Ёсць тры версіі паходжання такіх падтытулаў, прапанаваныя С.Станкевічам. Паводле першай версіі, слова «песня» найбольш адпавядала густу паэта і азначала народную творчасць увогуле, бо акрамя народных пес-

няў А.Міцкевіч выкарыстоўваў у сваёй творчасці і іншы фальклорны матэрыял. Паводле другой версіі, падтытулы трэба разумець літаральна, таму што ў часы А.Міцкевіча існавалі народныя песні, якія далі паэту задумы для яго балад і рамансаў, а пасля загінулі і засталіся толькі ў празаічным выглядзе. Паводле трэцяй версіі гэтыя ўдакладненні трэба лічыць моднаю ў часы рамантызму літаратурнай містыфікацыяй.[82]

Усе тры версіі можна браць пад увагу, аднак найбольш адпавядае рэальнасці першая. Напрыклад, у прадмове да першай рэдакцыі віленска-ковенскіх «Дзядоў» стаіць прыпіс «уся задума ўзята з народных песен», але ж на самой справе задума ўзята з народнага абраду.

Нягледзячы на тое, што аўтар згадвае толькі песню, як адну з крыніц рамантычнай паэзіі, іншыя жанры беларускага фальклору – казкі, легенды і паданні, як будзе паказана далей, адыгралі не менш значную ролю ў фарміраванні творчай свядомасці А.Міцкевіча. Узяўшы пад увагу гэтую акалічнасць, мы пры даследаванні зборніка «Балады і рамансы» будзем прытрымлівацца класіфікацыі, прапанаванай С.Мусіенкай, якая паэтычны цыкл А.Міцкевіча разглядае ў залежнасці ад тэматычнага выкарыстання фальклору.[83] Згодна з гэтай класіфікацыяй, «Балады і рамансы» можна падзяліць на некалькі груп: у аснову балады «Свіцязь» і далучанай ідэйна да яе паэмы «Гражына» пакладзены гістарычныя і гістарычна-фантастычныя паданні, балад «Свіцязянка» і «Рыбка» – паданні пра русалак, у «Рамантычнасці», «Курганку Марылі», «Люблю я» і «Дудары» выкарыстаны варыянты беларускіх народных песень, паданняў і казак пра няшчаснае каханне юнакоў і дзяўчат, праз якое яны паміраюць, а пасля смерці скардзяцца жывым на свой горкі лёс. У «Лілеях» увасоблена змрочная казачная калізія аб жорсткай жонцы, якая забіла мужа і была за гэта пакарана. «Вяртанне таты» – гуманная версія народнай маральна-бытавой казкі пра пакаянне злога разбойніка. У аснову «Пані Твардоўскай» і «Тукая» лягла легенда аб продажы душы д’яблу.

Асобнае месца адводзіцца вершу «Першацвет», які адкрывае кнігу і ўводзіць чытача ў свет паэтычных казак А.Міцкевіча, заснаваных на глыбокім разуменні аўтарам народнай мудрасці. Форма дыялога, якую абраў для верша А.Міцкевіч, не выпадковая. Непазбежнасць росквіту рамантызму, увасобленага ў веснавой квет-

[82] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 131–132.

[83] Мусиенко, С. Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича / С. Мусиенко // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 205.

цы відавочна, але аўтар не навязвае гэтую думку. Наадварот, ён як быццам бы ставіць пад сумнеў паспяховасць ранняга росквіту:

Рана, кветка, час не весні,
Дзьме ўначы мароз зімовы,
Горы ўкрыты белай плесняй,
Не прасохла шчэ дуброва.[84]
*(Пераклад М.Аўрамчыка)*

Аднак у спрэчцы паміж «Я» рацыянальным і «Я» рамантычным перамагае апошняе. А.Міцкевіч аддае перавагу прыгажосці, надзеленай рысамі, «якія ідуць з глыбіняў традыцыйна беларускіх уяўленняў пра годную сціпласць асобы»,[85] і ўплятае ў свой вянок кветку што вырасла ў такім непрыглядным месцы – «w podiej trawce, w dzikim lasku». Дарэчы, гэта празрыстая алегорыя на выкарыстанне ў сваёй паэзіі крыніц вуснай народнай творчасці. «Першацвет» увабраў у сябе і спалучыў самыя розныя мастацкія, філасофскія і эстэтычныя кірункі. Дыялог з кветкамі, як матыў адухаўлення прыроды ўзыходзіць адначасова і да філасофіі натуралістычнага пантэізму і да народнай творчасці (размова лірычнага героя з кветкамі, дрэвамі, рэчкаю і г.д. адбываецца вельмі часта ў беларускіх песнях і казках), а эстэтыка А.Міцкевіча, заснаваная на традыцыйных каштоўнасцях беларускага народа, перакрыжоўваецца з эстэтыкай старажытнага паэта Анакрэонта – жыццё не вечнае, таму сапраўдным скарбам будзе не матэрыяльны набытак, а такія каштоўнасці, як бестурботная весялосць, маладосць і каханне:

Нашы дні – век матыліны:
Зранку – жыў, а ўдзень – змярцвелы;
У красавіку хвіліна
Лепш, чым снежня месяц цэлы.[86]
*(Пераклад М.Аўрамчыка)*

Верш «Першацвет» адметны таксама вялікай колькасцю назоўнікаў у памяншальна-ласкальнай форме. Польскі даследчык В.Баровы лічыць гэта данінай эпосе сентыменталізму,[87] аднак та-

---

[84] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 23.
[85] Мархель, У. І. «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 1998. – С. 20.
[86] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 23.
[87] Borowy, W. O poezji Mickiewicza: w 2 t. / W. Borowy. – Lublin: Towarzystwo Naukowe Katolickiego Uniwersitetu Lubelskiego, 1958. – T.1. – S. 68.

кая форма назоўніка характэрна якраз для беларускага фальклору. І яшчэ адзін момант, звязаны з агульнаславянскай народнай культурай, – вобраз вянка, прынесены з часоў язычніцтва на Беларусь: пляценне вянка стала беларускім абрадам на свята Купалы. Паводле беларускіх паданняў у купальскую ноч адбываюцца самыя неверагодныя рэчы – зацвітае міфічная папараць-кветка, а звяры, птушкі і нават дрэвы атрымоўваюць дар мовы.

Такім чынам, сваім ідэйным зместам і сэнсавым напаўненнем «Першацвет» вылучаецца сярод астатніх твораў паэтычнага цыклу, адыгрываючы ролю філасофскага маніфесту.

Функцыю эстэтычнага маніфесту выконвае «Рамантычнасць». Выказваючы сваё рамантычнае бачанне свету, А.Міцкевіч у гэтым вершы ўпершыню выступае з адкрытай крытыкай класіцызму. Некаторыя даследчыкі, як напрыклад В.Вайнтраўб, лічылі «Рамантычнасць» «маніфестам крайняга ірацыяналізму»,[88] аднак выбар паміж «ірацыянальным» і «рацыянальным» не прадстаўляецца паэтам у спрошчаным выглядзе. Нельга сцвярджаць, што А.Міцкевіч цалкам адмаўляе апошняе, ён толькі паказвае тыя адрозненні, якія існуюць у поглядах і эстэтычных прынцыпах рамантыкаў і класіцыстаў. Паводле гэтай канцэпцыі будуецца і канцэпцыя героя: у баладзе іх дзве антанімічныя пары: народ і аўтар – відавочца і мудрэц. Постаць галоўнай гераіні «Рамантычнасці», Карусі, знаходзіцца па-за гэтым падзелам. А.Міцкевіч надзяляе дзяўчыну дарам, які дазваляе бачыць свет духоўнымі вачыма, гэтым самым ставіць яе вышэй за астатніх. Разам з тым Каруся – цалкам зямная жанчына, надзеленая, дарэчы, рысамі беларускага характару, у яе вобразе паэт увасобіў лепшыя жаночыя якасці – духоўную прыгажосць і чысціню, вернасць і годнасць, сціпласць і самаахвярнасць. На гэта звярнуў увагу і французскі даследчык Ж.Ш.Гій-Мэзані. Разглядаючы жаночыя постаці ў творчасці А.Міцкевіча, ён прыходзіць да высновы, што ў віленска-ковенскім перыядзе ёсць толькі два прыклады цалкам чыстых і нявінных жанчын – Найсвяцейшая Панна з «Гімна на дзень Звеставання» і гераіня балады «Рамантычнасць».[89] Надзяляючы Карусю двума пачаткамі – «зямным» і «нябесным», паэт не толькі адстойваў сваё права на рамантычнае светабачанне, але «адначасова праводзіў думку, што выяўленчыя магчымасці рамантызму, які імкнецца бачыць не толькі розумам, але і сэрцам, значна большыя, чым у не названага ім класіцыз-

---

[88] Waintraub, W. Poeta i prorok. Rzecz o profetyzmie Mickiewicza / W. Waintraub. – Warszawa: Pacstwowe Wydawnictwo Naukowe, 1982. – S. 36.

[89] Gille-Maisani, J.-Ch. Adam Mickiewicz: Studium psychologiczne/ J.-Ch. Gille-Maisani. – Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 1996. – S. 210.

му».[90] Бясконцыя спрэчкі паміж прадстаўнікамі дзвюх школ А.Міцкевіч вырашае ўсяго некалькімі радкамі:

Дзяўчына бачыць, – кажу з дакорам, –
Людзі ёй вераць глыбока.
Адчуванне і вера мне больш гавораць,
Як шкло мудраца і вока.[91]
*(Пераклад Н.Тарас)*

У гэтых радках, асабліва ў двух апошніх, адлюстроўваецца тыповы светапогляд паэта-рамантыка, паводле якога пачуцці і прадчуванні героя мусяць дамінаваць над іншымі формамі свядомасці, пры гэтым павінна нязменна захоўвацца глыбокая вера ў народную мудрасць.

Праз адносіны да Карусі закранаецца яшчэ адна адвечная праблема – суадносіны паэта і натоўпа. Паэт-рамантык у баладзе не зліваецца з натоўпам, хоць і трымае пазіцыю грамады, якая ў сваю чаргу верыць, што дзяўчына на самой справе бачыць прывід каханага, а не трызніць («duby smalone bredzi»), як лічыць так званы мудрэц. «Трымаючы, такім чынам, бок натоўпу, А.Міцкевіч вырашыў, хоць і не напрамую, пытанне суадносін уласнай творчасці з фальклорам».[92] Тым не менш у самой баладзе беларускі фальклорны фактар адсунуты на другі план. Матыў, які вельмі шырока прадстаўлены ў беларускім і ў прыватнасці фальклоры Навагрудчыны – туга жывых па нябожчыку, што прымушае вяртацца з таго свету (у фальклорна-этнаграфічных даследаваннях М.Федароўскага між іншым зазначаецца: «Народ верыць, што вельмі часта да жанчыны ці дзеўкі, якая сярод ночы не пакідае думаць пра мёртвага мужа ці каханка, прыходзіць д’ябал у вобразе любага ці таксама ў яго целе»[93] ) – А.Міцкевіч выкарыстоўвае толькі для таго, каб у палеміцы з прадстаўнікамі класіцызму супрацьпаставіць «жывую праўду» «мёртвай». Як заўважае А.Лойка, «беларускія фальклорныя вобразы і ўяўленні ўплятаюцца паасобнымі штрыхамі ў вобразную тканіну верша, ствараюць адпаведны каларыт, фон, на якім развіваецца дзеянне».[94] Апошнія радкі «Рамантычнасці» могуць

---

[90] Мархель, У. І. «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 1998. – С. 18.

[91]Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 26.

[92] Мархель, У. І. «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 1998. – С. 20.

[93] Міфы бацькаўшчыны / уклад. У.А. Васілевіч. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 89.

[94] Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларускі фальклор / А. Лойка // Адам Міцкевіч і Беларусь / уклад. В. Грышкевіч; навук. рэд. А. Мальдзіс, Т. Нягодзіш. – Мінск.: ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. – С. 110.

паслужыць у якасці эпіграфа як да ўсяго зборніка «Балад і рамансаў», так і да цэлай творчасці А.Міцкевіча (як, напрыклад, служаць эпіграфам да гэтага верша радкі з трагедыі У.Шэкспіра «Гамлет» – «Здаецца мне, што бачу... Дзе? Перад вачыма душы маёй...»), бо ў гэтых радках раскрываюцца адносіны да роднай зямлі, да народа і да чалавека:

Мёртвыя праўды расказваеш люду:
Свет цэлы ў пылінцы знаходзіш, здэцца.
Не знаеш жывых праўд – і не ўбачыш цуду.
Май сэрца, глядзі ў сэрца![95]
*(Пераклад Н.Тарас)*

«У «Рамантычнасці», – гаварыў А.Міцкевіч А.Ходзьку, – ёсць зерне будучай паэзіі: пачуццё і вера. Я шукаў, бачыў, як тая дзяўчына, і ў наступных паэтычных творах ніколі не збіўся з той дарогі».[96] Паэт расцэньвае сваю баладу як пачатак руху ў кірунку рамантызму, адводзіць ёй адасобленае, важнае месца, узводзячы ў ранг літаратурнага маніфесту.

Першым творам, у якім беларускі фальклор быў скарыстаны А.Міцкевічам непасрэдна, стала балада «Люблю я». Як і «Рамантычнасць», а таксама «Дудар» і «Курганок Марылі», «Люблю я» адносіцца да так званай «Марылінай тэмы», тэмы няшчаснага кахання. Многія даследчыкі творчасці А.Міцкевіча (Ю.Трацяк, Ю.Кляйнар, К.Гурскі і інш.) ставілі пад сумнеў народнасць балады. Лічылася, што твор «Люблю я» з’яўляецца плёнам аўтарскай фантазіі А.Міцкевіча і звязвалі гэта перш за ўсё з асабістымі перажываннямі паэта, якімі прасякнута балада. «Найвялікшаю крыніцаю непаразумення, – піша С.Станкевіч, – быў сентыменталізм балады, а таксама залішнія пошукі ў яе змесце адлюстравання рацыяналістычных поглядаў паэта».[97] Уводзіла ў зман даследчыкаў і трактоўка А.Міцкевічам сюжэтнай калізіі верша: «Гэтая балада з’яўляецца наследаваннем сялянскай песні; яна адстойвае памылковую думку, якая пярэчыць вучэнню пра чысцец, аднак мы не маглі асмеліцца нешта тут змяніць, бо хочам найвыразней захаваць яе сялянскі характар і паказаць забабоны нашага народа».[98] Іранічны

---

[95] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 26.
[96] Цыт. па: Мархель, У. І. «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 1998. – С. 19.
[97] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 104.
[98] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1998. – T. I. – S. 85–86.

прыпіс паэта даследчыкі палічылі гумарыстычным, і з гэтай прычыны адмаўлялі сувязь балады не толькі з народнай творчасцю, але нават і з рамантычнай традыцыяй увогуле. Напрыклад, К.Гурскі ў спосабе вымярэння кары нячулай дзяўчыне заўважыў уплыў этыкі Асветніцтва, а С.Скварчыньска ўплыў эпохі сентыменталізму.[99] Тонкая, спрытная насмешка А.Міцкевіча не тычылася між тым ні ў якім разе крыніц народнай творчасці, з якіх на самай справе была ўзята задума балады «Люблю я».

Першым, хто паказаў сувязь канцэпцыі фабулы «Люблю я» з народнай этыкай, стаў Ю.Кшыжаноўскі, які знайшоў у «Дзённіку падарожжа ў Татры» С.Гашчыньскага паданне аб парабку, што таксама, як і гераіня А.Міцкевіча, пакутаваў на тым свеце за сваю халоднасць. Да гэтага толькі асобныя матывы прызнаваліся запазычанымі з фальклора – незвычайныя з’явішчы, на фоне якіх разгортваецца асноўны сюжэт, знікненне душы пакутніцы з першым спевам пеўня і падобнае. Згодна народнай маралі, гераіня балады «Люблю я» так ці інакш заслужыла кару, бо адмаўляючы каханне, адмаўляла мацярынства – галоўнае прызначэнне жанчыны. Напрыклад, у адной з беларускіх казак, занатаванай П.Шэйнам, жанчынам, якія не хацелі мець дзяцей, вужакі ў пекле смакталі грудзі.[100] Падобныя казкі ў вялікай колькасці бытавалі на Беларусі, у тым ліку, на Навагрудчыне – радзіме А.Міцкевіча, аб чым сведчаць шматлікія фальклорныя запісы. Кара прапарцыянальная ўчынку – менавіта такую формулу народнай этыкі выкарыстоўвае ў сваіх баладах (у дадзеным выпадку таксама) А.Міцкевіч:

Будзеш за чэрствасць загубную гэту
Мучыцца ў пекле, дзяўчына,
Покуль не скажа табе з таго свету
Ўголас: «Люблю я!» – мужчына.

Юзік у слёзах благаў таго слова,
Мусіць твой прывід страшлівы
Гэта не плачам прасіць ці намовай,
А праз жахлівыя дзівы.[101]

*(Пераклад А.Зарыцкага)*

---

[99] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 104.

[100] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 183.

[101] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 51.

«Такі паказ віны і пакуты, – зазначае С.Станкевіч, – адпавядае ў найдрабнейшых дэталях уяўленням беларускага народа» і прыводзіць у доказ прыклады паданняў пра душу, якая сядзела на клямцы і чапала ўсіх, хто праходзіць побач (паводле «Беларускага зборніка» Е.Раманава), пра заклятага сына, які тройчы ўдарыў бацькоў (паводле запісаў М.Федароўскага), пра ўратаванне жыцця зайцу пры дапамозе кінутага ў саву чэрапа (паводле казкі А.Глінскага, занатаванай на Навагрудчыне), пра ксяндза, які ніколі не прамовіў «аман» (паводле запісаў М.Федароўскага), пра прывід барадатай дзяўчыны (версіі М.Федароўскага і Е.Раманава).[102] На генетычную сувязь балады А.Міцкевіча з беларускім фальклорам паводле суадносінаў віны і пакуты скіроўвае ўвагу і А.Лойка, прыводзячы ў прыклад паданне аб смельчаку-сыну, які хацеў пабачыць «страха», занатаванае П.Шэйнам, і казку «Аб паненцы з барадою», запісаную Е.Раманавым. Акрамя таго А.Лойка спасылаецца на польскага даследчыка Л.Падгурскага-Аколава, «які катэгарычна даказвае, што паданні жыхароў беларускага мястэчка Цырын былі непасрэднай асновай, на якой узнікла балада А.Міцкевіча».[103]

З беларускай народнай творчасці выводзіцца не толькі задума балады «Люблю я». Дапаўняюць фабулу твора іншыя фальклорныя матывы. Напрыклад, А.Міцкевічам выкарыстаны матыў наведвання старой царквы мерцвякамі. Згодна беларускім народным уяўленням, пакутныя душы і нячыстая сіла сапраўды абіраюць сабе прытулак у падобных месцах. Пра гэта гаворыцца ў запісах М.Федароўскага: «Прытулак для гэтых пакутнікаў – цвінтары, руіны, пусткі, нежылыя дамы».[104] Тое ж самае гаворыцца ў сказаннях пра нячыстую сілу М.Нікіфароўскага: «Улюбёнымі месцамі чортавых зборышчаў, як і паасобных блуканняў, трэба лічыць пусткі, пакінутыя сялібы, старыя і напаўразбураныя пабудовы, млыны, пераважна ветраныя, месцы самазабойстваў, яры і наогул мясціны, куды рэдка ступае нага чалавека».[105] У «Матэрыялах» П.Шэйна знаходзім паданне «Капліца, якую наведвалі мерцвякі».[106] Паданне паходзіць

---

[102] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 105–110.

[103] Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. Лойка. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1959. – С. 48.

[104] Цыт. па: Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 111.

[105] Никифоровский, Н.Я. Нечистики, свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / Н.Я. Никифоровский. – Витебск: Издатель Н.А. Паньков, 1995. – С. 19.

[106] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 111–112.

з Гродзеншчыны і А.Міцкевіч не мог яго не ведаць. Некаторыя вобразы паэт амаль у нязменным выглядзе пераносіць у свой твор з народнага падання: і ў «Капліцы, якую наведвалі мерцвякі» і ў «Люблю я» з'яўляецца вобраз агню, які свеціцца ў месцы, дзе збіраюцца душы; і ў народным паданні і ў міцкевічавай баладзе дзеянне адбываецца ў межах пэўнай мясцовасці – мерцвякі збіраюцца ў царкве толькі з адных могілак. Жахлівае аблічча пакутных душаў у баладзе А.Міцкевіча таксама адпавядае беларускім прымхам:

Труп безгаловы там поўзаў уночы,
Бачылі й голаў без цела,
Рот разяўляла, расплюшчвала вочы,
Полымя ў іх зіхацела.[107]
*(Пераклад А.Зарыцкага)*

С.Станкевіч прыводзіць народнае апавяданне, занатаванае на Навагрудчыне,[108] вобразная будова якога аналагічная баладзе А.Міцкевіча. У апавяданні ёсць і труп без галавы, і галава без цела, і буханне полымя з вуснаў і вачэй, і характэрная дэталь – ніхто не мог ноччу спакойна праехаць побач страшнага месца, абавязкова ці аглоблі ламаліся, ці коні неслі без памяці. Амаль тое ж у А.Міцкевіча:

Кожны, хто ездзіў, уведаў пагрозы
Гэтай праклятай дарогі:
Дышаль там зломіш, абернеш калёсы,
Конь сабе вывіхне ногі.[109]
*(Пераклад А.Зарыцкага)*

Беларускія паданні, якія паслужылі паэту «будаўнічым матэрыялам» для ягоных балад (у прыватнасці балады «Люблю я»), узніклі на падставе старажытных вераванняў народа ў адвечную варажнечу паміж чалавечым родам і чортам, які ўвесь час стараецца шкодзіць людзям, напрыклад, – зазначае этнограф А.Багдановіч, – «чорт любіць збіваць падарожных з дарогі, скідваць колы з восяў пад час язды».[110]

---

[107] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 49.
[108] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 111–112.
[109] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 49.
[110] Багдановіч, А. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў. Этнаграф. нарыс: рэпрынт. выд. 1895 г. / А. Багдановіч. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 129.

Душа Марылі выглядае таксама згодна ўяўленням беларускага народа:

Толькі я скончыў, як дзеўчына ў белым
З хваляў плыве серабрыстых,
З мёртвым абліччам яна, скамянелым,
Скроні ў праменнях агністых.[111]
*(Пераклад А.Зарыцкага)*

Падобна выглядае персанаж з беларускага падання «Зачараваная жанчына»,[112] яно, як і папярэднія паданні, зафіксавана на Гродзеншчыне. Дарэчы, як і гераіня балады «Люблю я», зачараваная жанчына знікае з першым крыкам пеўня.

У паданнях і казках беларускага народа нячыстая сіла часта набывае аблічча звяроў, каб выглядам сваім падмануць чалавека. Калі ж д'ябла ў абліччы жывёлы перажагнаць, ён з дзікім рогатам знікне. Такая казка занатавана П.Шэйнам, называецца яна «Чорны баран».[113] Пра чорта, які замяняецца ў жывёлу (казла), а пасля дзікім голасам рагоча, што падмануў чалавека, згадваецца і ў этнаграфічных нарысах А.Багдановіча.[114] Падобнае знаходзім і ў зборніку Е.Раманава: «Чэрці крадуць у жанчын неахрышчаных дзяцей ці падменьваюць сваімі. Калі такое чарцяня панясуць хрысціць, яно зробіцца чорным катом ці казлянём, а таксама бараном ці сабакам (абавязкова чорным) і пабяжыць з рогатам».[115] Аналагічна паводзіць сябе нячыстая сіла ў баладзе «Люблю я»:

Выбежыць воўк, раптам крылы раскіне,
Стане арлом ён вялікім.
Толькі скажы яму: «Згінь!» – і ён згіне
З рогатам жудасным, дзікім.[116]
*(Пераклад А.Зарыцкага)*

---

[111] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 49.

[112] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 449–450.

[113] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С.. 448 – 449.

[114] Багдановіч, А. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў. Этнаграф. нарыс: рэпрынт. выд. 1895 г. / А. Багдановіч. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 129.

[115] Міфы бацькаўшчыны / уклад. У.А. Васілевіч. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 92.

[116] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 49.

У А.Міцкевіча д’ябал альбо грэшная душа прымае аблічча ваўка. Паводле беларускай міфалогіі, адбіткі якой дайшлі да нас з часоў язычніцтва, воўк увасабляе сабой дэманічную, злую сілу.[117] Акрамя таго ў беларускіх казках і паданнях у ваўкоў могуць ператварацца чараўнікі – людзі, звязаныя з нячыстай сілай;[118] такіх пераваратняў называлі ваўкалакамі.

Такім чынам, і задума «Люблю я», і асобныя матывы балады ўзяты А.Міцкевічам з крыніц вуснай народнай творчасці беларусаў. Акрамя таго і ў гэтым творы, і ў астатніх вершах «Баладаў і рамансаў», за невялікім выключэннем, дзеянне лакалізуецца ў ваколіцах Навагрудка – малой радзімы паэта:

Бачыш, Марыля, ля самага гаю
Вербы ўзнялі свае шаты,
Рэчка віецца далінаю з краю,
Мосцік над рэчкай гарбаты.

Вунь і царквы, і званіцы руіны,
Сыч там гняздзіцца панылы,
Зараснік побач, буяюць маліны
І захінаюць магілы.[119]

*(Пераклад А.Зарыцкага)*

А.Міцкевіч з вялікай дакладнасцю перадае характар беларускага пейзажу (У дадзеным выпадку апісваецца фальварк Рута, яго ваколіцы. Сюды паэт прыязджаў да свайго сваяка і апекуна М.Растоцкага.), і гэта стала адной з істотных акалічнасцей ягонай творчасці, а значыць – фактарам беларускай культуры.

Працягваюць «Марыліну» тэму два рамансы – «Курганок Марылі» і «Дудар». Вершы маюць падтытулы «задума з ліцвінскай песні» і «задума з народнай песні» (сам аўтар такім чынам звяртае ўвагу на сувязь вершаў з народнай паэтычнай традыцыяй). Прыпіс да «Курганка Марылі» з’явіўся пазней за сам твор, прычынай чаго стала літаратурная містыфікацыя: сябрам-філаматам паэт дасылае з Коўна свой верш як пераклад з ліцвінскай мовы і гэта не было заўважана нават такім знаўцам фальклору як Я.Чачот, які на «Кур-

---

[117] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 253.

[118] Міфы бацькаўшчыны / уклад. У.А. Васілевіч. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 15–20.

[119] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 48.

ганок Марылі» робіць рэцэнзію і зачытвае яе на паседжанні сяброў. «Не ведаючы арыгінала, – піша Я.Чачот, – я не параўноваў ліцвінскіх слоў з польскімі. І ўсё ж нельга нават жадаць больш натуральнага і больш акрыленага перакладу. Я нават не магу меркаваць, наколькі вольна абыходзіўся аўтар з арыгіналам у сваім наследаванні яму».[120]

Не гледзячы на тое, што раманс А.Міцкевіча – твор цалкам арыгінальны, генезіс яго звязаны з беларускім фальклорам, у прыватнасці з беларускай пахавальна-абрадавай паэзіяй. Калі не звяртаць увагу на гэтую і іншыя акалічнасці, у рамансе А.Міцкевіча будзе сапраўды «цяжка ўбачыць нешта большае ад даволі ўбогіх варыяцый убогіх сентыментальных матываў нешчаслівага кахання»,[121] як сцвярджае В.Баровы. На нашу думку, «Курганок Марылі» цікавы, тут мы не можам пагадзіцца з польскім даследчыкам. Верш цікавы не толькі «сваёй песеннай напеўнасцю, паэтычнай прастатой выкладання дум і пачуццяў, блізкімі народнай паэзіі»,[122] але перш за ўсё генетычнай лучнасцю з беларускім народным памінальным абрадам – Дзядамі. Раманс «Курганок Марылі» стаў першым творам, у якім А.Міцкевіч выкарыстаў не толькі беларускі фальклор, але беларускія абрады і звычаі. Ужо ў самой назве верша паэт адлюстроўвае беларускі пахавальны звычай, згодна якому «магілы жанчын не заўсёды адзначаліся крыжамі, але толькі насыпнымі курганкамі».[123] Як сцвярджае рускі даследчык С.Саветаў, «балада «Курганок Марылі» ў большай ступені, чым якая-небудзь іншая балада, была заснавана на вуснай творчасці і звычаях беларускага народа».[124]

Па сваім змесце і форме раманс нагадвае жалобныя песні-галашэнні. Вось як выказваўся пра іх сучаснік А.Міцкевіча, этнограф і паэт А.Рыпіньскі: «Маці па дачцы альбо па сыну, дачка па бацьку альбо маці, жонка па мужу, каханка па каханым і г.д. галасіць ці плакаць мусяць <...> Наіўнасць іхніх скаргаў, што выкарыстоўваюцца ў спеве, немагчыма апісаць! Гэта доўгая размова з

[120] Чачот, Я. Выбраныя творы / Я. Чачот. – Мінск: Бел. кнігазбор, 1996. – С. 204.

[121] Borowy, W. O poezji Mickiewicza: w 2 t. // W. Borowy. – Lublin: Towarzystwo Naukowe Katolickiego Uniwersitetu Lubelskiego, 1958. – T.1. – S. 99.

[122] Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларускі фальклор / А. Лойка // Адам Міцкевіч і Беларусь / уклад. В. Грышкевіч; навук. рэд. А. Мальдзіс, Т. Нягодзіш. – Мінск.: ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. – С. 110.

[123] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 282.

[124] Советов, С.С. Адам Мицкевич / С.С. Советов. – Л.: Изд-во Ленингр. ун-та, 1956. – С. 51.

нябожчыкам у форме нараканняў, пытанняў, перапросінаў і г.д.».[125] А.Міцкевіч здолеў перадаць «наіўнасць людскіх скаргаў», бо яшчэ ў дзяцінстве неаднаразова чуў імправізаваныя жалобныя песні, калі з сябрамі з дамініканскай школы наведваў сялянскія хаўтуры. Як слушна заўважыў У.Мархель, «характар і стыль беларускіх народных пахавальных плачаў не толькі захаваны, а стылізаваны па-польску ці бадай літаральна перанесены ў раманс «Курганок Марылі».[126] Адметнай рысай, уласцівай памінальнаму абраду і звязанай з фальклорнай традыцыяй, з’яўляецца таксама зварот па чарзе Яся, маці і сяброўкі да памёршай дзяўчыны.

Памінальны абрад звычайна распачынаў старэйшы мужчына ці гаспадар. У вершы А.Міцкевіча такая роля адводзіцца Старонняму чалавеку, маналогам якога пачынаецца і канчаецца раманс. Магчыма, з лірычным героем-пілігрымам паэт атаясамліваў сябе, бо толькі праз гэты вобраз раскрываецца алегарычнасць твору, сутнасць якой у паказе смерці кахання. Перажыванні астатніх лірычных герояў падаюцца аўтарам у рэалістычным плане, але менавіта ў іхніх маналогах бачыцца адбітак беларускай народнай культуры. Гэта вельмі ўзорна даказаў С.Станкевіч, параўнаўшы скаргі Яся, Маці і сяброўкі з аналагічнымі паводле сэнсу і экспрэсіўнасці беларускімі хаўтурнымі песнямі і галашэннямі на падставе фальклорных запісаў П.Шэйна і Е.Раманава.[127] Для прыкладу параўнаем з народным адпаведнікам фрагмент маналогу Маці, які характарызуецца прастатой і нават наіўнасцю. Ужо толькі гэтыя дзве прыкметы дазваляюць сцвярджаць, што паэт у сваім творы стараўся максімальна наблізіцца да беларускай рэальнасці, перадаўшы «энергетыку» пахавальнага плачу. У А.Міцкевіча:

А былі ж мы заўсёды пры хлебе,
А жылі ж мы з табой як у небе.
У нас і вечарынкі,
Збіраліся хлопцы, дзеўкі,
Спраўлялі дажынкі,
Гулялі дасеўкі.
Без цябе пакрывіліся сенцы,
Павуцінай затканы акенцы.

---

[125] Rypicski, A. Biaioruњ. Kilka siyw o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, њpiewu, taccach etc. / A. Rypicski. – Paryї, 1840. – S. 61 – 62.

[126] Мархель, У. І. «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 1998. – С. 29.

[127] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 150–152.

Двор травой зарастае,
Хто ні йдзе, той мінае.
Пакінула доля нас, людзі забылі.
Ах, мой Божа, няма Марылі![128]
*(Пераклад Ю.Гаўрука)*

Матыў занядбання, адзіноты, якая прыходзіць пасля смерці любага чалавека, адлюстравана падобным чынам у народнай творчасці:

Бывало ж я выйду на жніво ў полё,
Сама стану жаць, а ты коло мяне,
А ў вечары ты мне і снапочкі поносіш.
А я ж цяпер адзінокая:
Мое і снапочкі непоношэные.[129]

Калі да «Курганка Марылі» А.Міцкевіч меў усе падставы рабіць прыпіс «задума з ліцвінскай песні», бо ўсё ж такі раманс гэты створаны паводле ўзораў пахавальных плачаў беларускага народа, то за прыпісам да «Дудара», як сцвярджае Ю.Трацяк, паэт спрабуе «схаваць свае адносіны да Марылі ад блізкага яе атачэння».[130] Такім чынам, падтытул «задума з народнай песні» – чарговая містыфікацыя А.Міцкевіча, аднак на гэты раз яна мае іншую мэту. Раманс «Дудар» стаў апошнім і наймацнейшым акордам, прагучаўшым у гонар Марылі. Імя каханай паэт таксама стараецца завуаліраваць і робіць гэта надзвычай узнёсла, згадваючы Божую Маці.

На момант скінуўшы маску, А.Міцкевіч хіба што ўпершыню ўводзіць у твор рэаліі з уласнага досведу (аднойчы Марыля падарыла паэту пасму сваіх валасоў і лісток кіпарысу; як напамін аб вялікім, але няшчасным каханні, А.Міцкевіч хаваў гэты падарунак усё жыццё). І герой раманса «Дудар» перад смерцю перадае сябру пасму русых валасоў і сухі лісток кіпарысу:

Вось валасочкі яе льняныя,
Ліст кіпарыса ў паперцы:

---

[128] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 46.

[129] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П.Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1887. – Т.1. – С. 665.

[130] Цыт. па: Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 153.

Гэта мой скарб, дары дарагія,
Боль, што насіў я на сэрцы.[131]
*(Пераклад Ю.Гаўрука)*

З беларускай фальклорнай традыцыі паходзяць наступныя элементы «Дудара»: перш за ўсё, гэта сам вобраз старца-лірніка, уведзены А.Міцкевічам на манер народных апавяданняў, у якіх падобныя персанажы – Дудары, Лірнікі, Гусляры ці проста выпадковыя стрэчныя (вобраз, выкарыстаны ў «Курганку Марылі») знаёмяць з нейкімі падзеямі, «з'яўляюцца эмацыйнымі сведкамі падзей, даюць ім сваю трактоўку, выступаючы ў ролі своеасаблівых суддзяў учынкаў герояў»,[132] бо такіх старцаў-лірнікаў народ лічыў «носьбітамі дабра, справядлівасці, выразнікамі сваіх думак».[133] Цікавыя звесткі пра беларускіх старцаў падае П.Шэйн: «без іх не абыходзіцца ні адзін памінальны дзень (зноў прыгадаем вобраз Староннягa чалавека ў «Курганку Марылі») <...> ходзяць яны па хатах, спяваюць свае песні, расказваюць легенды. Іншы раз іх запрашаюць «у бяседу», г.зн. на пачастунак, асабліва на «Мікольшчыну» – гэта невялічкі баль, учынены якім-небудзь заможным гаспадаром у гонар св. Мікалая, вясной альбо восенню, у дзень, калі ўшаноўваецца памяць гэтага святога, дзякуючы за добры ўраджай, ужо сабраны ці будучы <...> Спявалі яны пад акампанемент ліры».[134] Дудар А.Міцкевіча таксама з'яўляецца на народным свяце – дасеўках (традыцыйныя на Беларусі дасеўкі і зажынкі ўзгадваліся і ў рамансе «Курганок Марылі»). Паэт быў добра знаёмы з падобнымі імпрэзамі, таму дакладна адлюстраваў гэты бок жыцця беларускага народа:

Пішчыкі свішчуць. Бубны, бразготкі.
Дровы трашчаць і палаюць.
Скачуць дзяўчаты, п'юць мёд маладкі:
Свята вясны адзначаюць.[135]
*(Пераклад Ю.Гаўрука)*

---

[131]Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 77.

[132] Мусиенко, С. Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича / С. Мусиенко // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 214.

[133] Назіна, І.Д. Лірнік / І.Д. Назіна // Беларус. энцыкл.: у 18 т. – Мінск, 1999. – Т.9. – С. 279.

[134] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 562–564.

[135] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 73.

З вобразам Старца ў структуру раманса ўводзяцца і агульнапрынятыя элементы фальклору, напрыклад, зачын «слухайце, дзеці». І нарэшце – вобраз Лірніка сімвалізуе саму творчасць А.Міцкевіча, яго духоўную сувязь з традыцыямі беларускай народнай культуры, спадкаемцам якой з'яўляецца паэт. Вось што спявае Дудар:

Нёман мой, Нёман, родны мой краю:
Поле, лужочак, бярозкі,
Полем іду я, песні спяваю,
Гэтак ад вёскі да вёскі.[136]
*(Пераклад Ю.Гаўрука)*

«Без Нёмана, – піша А.Бельскі, – немагчыма ўявіць вобразную сістэму А.Міцкевіча, з ім звязана даволі шырокае кола асацыяцый. Гэты гідронім – адзін з першавобразаў яго пейзажнага мыслення, патрыятычных уяўленняў. Нёман у А.Міцкевіча – адзін з важных складнікаў прасторавай мадэлі свету, ключавы топас «Літвы» ягоных часоў».[137] Такім чынам, вобраз Нёмана – гэта яшчэ адзін паказнік, які адсылае нас да ўспрыняцця паэзіі А.Міцкевіча ў сістэме беларускай культуры.

У «Баладах і рамансах» цэнтральным гідронімам выступае аднак не Нёман, а Свіцязь, возера, вобраз якога «таксама выступае як топас і сімвал паэтавай малой радзімы».[138] З гэтым возерам так ці інакш звязаны тры міцкевічавы балады: «Свіцязянка», «Рыбка» і «Свіцязь».

Яшчэ да выхаду ў свет «Балад і рамансаў» «Віленскі дзённік» («Dziennik Wilecski») друкуе на сваіх старонках «Свіцязянку» з наступным прыпісам аўтара: «Ходзяць чуткі, што на берагах Свіцязі з'яўляюцца Ундзіны, альбо водныя Німфы, якіх народ называе Свіцязянкамі».[139] Прынята лічыць, што русалак Свіцязі «ахрысціў» сам А.Міцкевіч, бо толькі пасля ягонай «Свіцязянкі» у фальклорных крыніцах была адлюстравана такая назва. Супраць агульна-

---

[136] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 74.

[137] Бельскі, А. Вобразы Нёмана і Сіцязі ў сістэме мастацкага мыслення Адама Міцкевіча / А. Бельскі // Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 47.

[138] Бельскі, А. Вобразы Нёмана і Сіцязі ў сістэме мастацкага мыслення Адама Міцкевіча / А. Бельскі // Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 47.

[139] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1998. – T. I. – S. 65.

прынятай версіі можа выступаць тая акалічнасць, што «запіс беларускай народнай творчасці да гэтага часу меў выпадковы характар. Асобныя мясцовасці даследаваліся добра, іншыя – а да іх належаць ваколіца возера Свіцязь – амаль цалкам абміналіся».[140] Акрамя таго, як заўважыў беларускі этнограф і гісторык А.Кіркор, «і ў іншых месцах ад назвы возера русалкі атрымоўваюць сваю назву. Так, напрыклад, русалак знакамітага возера Гопла ў Вялікай Польшчы называюць Гаплянкамі».[141] Аднак незалежна ад таго, была назва Свіцязянка прыдумана паэтам ці сапраўды так называлі русалак Свіцязі жыхары навакольных вёсак, балада А.Міцкевіча стала фальклорнай мадэллю, якая сама стала ўплываць на творчую свядомасць людзей. Вось што, для прыкладу, занатаваў А.Кіркор: «Калі я быў над возерам Свіцязь у 1854 годзе, мясцовы ляснічы наіўна сцвярджаў, што паненкі былі, выходзілі з возера, але з той пары, як паніч (г.зн. А.Міцкевіч) ад'ехаў, ні разу не з'яўляліся».[142]

Да вобраза воднай німфы А.Міцкевіч звярнуўся не выпадкова. У Беларусі, краіне рэк і азёр, вера ў звышнатуральныя істоты, якія насялялі вадаёмы, а таксама лясы і лугі побач, была ледзь не ўсеагульнай. Існавала нават свята русалак, якое «пачыналася раніцай на другі дзень Троіцы. Моладзь збіралася ў лясках, асабліва на беразе рэчкі ці возера. Дзяўчаты, седзячы на галінках дрэў, плялі вянкі <...> Скончыўшы плясці, станавіліся ў карагод, танцавалі і спявалі <...> Пасля гэтага закаханыя абменьваліся пярсцёнкамі <...>. У наступную нядзелю, зноў збіраліся ў гэтым месцы і распляталі вянкі <...>. Вянкі, якія добра захаваліся, прадказвалі доўгае жыццё таму, на чыё імя запляталіся. Засохшыя кідалі ў ваду; калі яны плаваюць, то яшчэ прынамсі год жыцця прадказвалі; калі тонуць, трэба чакаць хуткай смерці».[143] Пра свята русалак ведаў і А.Міцкевіч, таму ў некаторых месцах балады сустракаем аналагічныя рытуалы – напрыклад пляценне вянка для каханага.

---

140 Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 138.

141 Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 262.

142 Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 262.

143 Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 261–262.

На свята русалак маладыя абменіваліся пярсцёнкамі, а значыць, збіраліся ў хуткім часе ўзяць шлюб; вядома, што пад час такога абраду хлопец мусіў нейкім чынам прысягаць дзяўчыне на вернасць, запэўніць каханую ў тым, што толькі ён годны яе рукі:

Ты быццам сарна мільгаеш лясная,
Зданню блукаеш начною,
Лепей застанься з тым, хто кахае,
Лепей застанься са мною!

Блізка адгэтуль стаіць мая хатка,
Вунь за ляшчынай разгатай,
Досыць там хлеба і мёду ёсць кадка,
Ёсць там дзічыны багата.[144]
*(Пераклад А.Зарыцкага)*

Праз простую, натуральную мову Стральца, асабліва калі той гаворыць пра сваё жытло, А.Міцкевіч вельмі рэалістычна перадае вобраз вясковага хлопца. Праўда момант, калі Стралец прысягае сваёй любай на вернасць, паэт малюе толькі рамантычнымі фарбамі:

Хлопец укленчыў, пры месячным ззянні
Дзеўчыне ён прысягае
Пеклам і раем у вечным каханні –
Толькі ці слова стрымае?[145]
*(Пераклад А.Зарыцкага)*

Не адпавядае народным уяўленням і знешні выгляд Русалкі-Свіцязянкі. У А.Міцкевіча яна нагадвае звышпрыгожую рамантычную гераіню:

Твар яе – белая ружа нібыта,
Што акрапілі расою.
Лёгкай тканінаю постаць абвіта,
Быццам празрыстай смугою.[146]
*(Пераклад А.Зарыцкага)*

У беларускіх народных паданнях, зафіксаваных многімі этнографамі, русалкі выглядаюць менш паэтычна. «Праўда, яны таксама

[144] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 33.
[145] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 33.
[146] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 34.

маюць прыгожую знешнасць, калі здольныя баламуціць маладых мужчынаў, аднак больш простыя, маюць больш рэальных рысаў. Гэта маладыя дзяўчаты, пераважна голыя, з поўнымі і развітымі грудзямі, з распушчанымі валасамі, якія спадаюць да самай зямлі».[147]

«Па ўяўленнях сялян Азярцоў (Навагрудскі павет), – зазначае П.Шэйн – русалкі выходзяць з вады вясной і жывуць на зямлі да позняй восені». [148] Тое самае знаходзім у этнаграфічным нарысе «Перажыткі старажытнага светасветасузірання ў беларусаў» А.Багдановіча: «Русалкі могуць лічыцца земнаводнымі, таму што ў вадзе яны жывуць толькі з восені да русальнага тыдня (першы пасля Троіцы). Тады яны выходзяць з вады і селяцца на галінах дрэваў».[149]

Героі А.Міцкевіча таксама кахаюцца цэлае лета, і толькі з надыходам восені Свіцязянка пачынае некуды ўцякаць, знікаць: менавіта з гэтага моманта разгортваюцца падзеі балады.

З вобразам русалкі беларускі народ атаясамліваў гвалтоўную, ненатуральную смерць. Гэта адлюстравалася і ў свяце русалак, і ва ўяўленнях, звязаных з імі: «маленькія дзяўчынкі, якія памерлі не хрышчанымі, пераўвасабляюцца ў русалак <...>; убачыўшы чалавека, яны зbadзабліваюць яго <...>; калі хто паддаецца на хітрасць, русалкі заказычуць да смерці».[150] Смерць ад Свіцязянкі знайшоў і Стралец, аднак А.Міцкевічам зменена сама прычына смерці. Хлопец загінуў не па прыхаці русалкі, як гэта адбываецца ў народных казках, а за сваё клятваадступніцтва, пры гэтым Свіцязянка гіне з ім разам. Такім чынам паэт выказвае ідэю непазбежнай кары за амаральныя ўчынкі і ідэю кахання, якое альбо жыве, альбо гіне цалкам. У словы асуджэння, што гучаць з вуснаў ашуканай дзяўчыны, А.Міцкевіч уклаў агульнанародную мараль, якая праводзіць выразную мяжу паміж дабром і злом, строга караючы апошняе.

Беларусы верылі, што душы грэшнікаў пасля смерці могуць быць закляты ў дрэве і заставацца ў такім стане, пакуль не скончыцца тэрмін пакуты. Пра гэта піша А.Багдановіч: «Не раюць рубаць дрэва, якое скрыпіць, бо гэта верны знак, што ў тым дрэве

[147] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 146–147.

[148] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1887. – Т.1. – С. 196.

[149] Багдановіч, А. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў. Этнаграф. нарыс: рэпрынт. выд. 1895 г. / А. Багдановіч. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 77.

[150] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 261.

мучыцца чалавечая душа. Зсёкшы такое дрэва, прымусіш душу шукаць іншае месца, за гэта цябе можа скруціць ці ўвогуле жыцця пазбавіць».[151] У дрэва душу нявернага каханка вязніць і гераіня балады А.Міцкевіча:

Будзе душа пад спрадвечным дрэвам
Тысячу год як не болей.
Полымя тое вечным залевам
Не пагасіць аніколі.[152]
*(Пераклад Я.Міклашэўскага)*

Тэму русалак, віны і пакарання працягвае «Рыбка». Ствараючы баладу, А.Міцкевіч выкарыстаў два народныя матывы, шырока распаўсюджаныя ў беларускім фальклоры: матыў ашуканай дзяўчыны і матыў яе перамянення ў рыбку (русалку), якая прыплывае, каб накарміць сваё дзіця.

Матыў ашуканай дзяўчыны шырока адлюстраваны ў народных песнях, таму адпаведны прыпіс мае і балада А.Міцкевіча. Некаторыя радкі «Рыбкі» сапраўды вельмі блізкія да народнага гучання. Параўнаем:

На луг прыбягае росны,
Дзе ў возера рэчка ўпадае;
Заломвае ручкі і слёзна
На злы свой лёс наракае.
*(Пераклад А.Брусевіча)*

А вось радкі з беларускай народнай песні, занатаванай на Навагрудчыне:

Быстра рэка корэнь мые,
А ў дзеўчыны сэрца ные.
Белы ручкі заламаны,
Чорны очкі заплаканы.[153]

---

[151] Багдановіч, А. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў. Этнаграф. нарыс: рэпрынт. выд. 1895 г. / А. Багдановіч. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 29–30.

[152] Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай; Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя: вершы / уклад., прадм. і камент. У.Мархеля. – Мінск: ППП імя Я.Коласа, 1998. – С. 319.

[153] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П.Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1902. – Т. 3. – С. 342.

Пад народную песню стылізаваны таксама і іншыя месцы ў баладзе, асабліва гэта адчуваецца ў радках, калі Рыбка прыплывае да немаўляці:

На рукі бярэ дзіцятка
І да грудзей яго туліць:
«Люлі, маё немаўлятка,
Люлі, маленькі, люлі».[154]
*(Пераклад Р.Барадуліна)*

Другі матыў балады – перамяненне жанчыны ў Рыбку, паходзіць з беларускага народнага падання, версіі якога распаўсюджаны амаль па ўсёй этнічнай тэрыторыі Беларусі і зафіксаваны ў зборніках М.Федароўскага, Е.Раманава і інш. Прывядзем адну з версій падання, занатаваную на Навагрудчыне С.Станкевічам: «Адзін пан палюбіў простую дзяўчыну і ўзяў яе замуж. А яго матка была вядзьмарка і хацела згубіць сваю нявестку. Падгаварыла гэта яе вядзьмарка ісці з ёй у возера купацца. Як прыйшлі да возера, дык вядзьмарка спіхнула яе ў ваду і ўтапіла, ды загаварыла, што нявестка зрабілася рыбай. Але пакінула яна маленькага сына. Не было каму карміць дзіця, дык слуга таго пана насіў яго штодзень да вады і клікаў:

Крыся-Марыся
Маладзян плача,
Цыцкі хоча!
А яна яму з вады аказывалася:
Я іду, я бягу,
Жарствіца вочкі выядае,
Вадзіца ножкі падмывае.

І яна рыбкай выплывала на бераг, давала скоранька цыцкі дзіцяці, ды ўсё аглядалася, каб ніхто яе не бачыў. Як накорміць дзіця, тады зноў вяртаецца ў возера. Гэтак было доўгі час. Аднаго разу пан сам панёс дзіця да возера, палажыў яго, а сам схаваўся за куст. Як выплыла рыбка з вады і пачала дзіцятка саіць, дык ён яе і злавіў. Тады з яе злезла рыбіна луска і яна зноў зрабілася харошай паненкай. А матку ўзялі, разбаранавалі на зелязныя бораны, а пан з жонкаю жылі ўжо шчасліва і бяды не зналі».[155]

---

[154] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 39.
[155] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 128–129.

«Рыбка» А.Міцкевіча мае шмат агульнага з народнай казкай. Гераіня балады (у адрозненні ад «Свіцязянкі») не толькі падобная да гераіні падання, але мае нават аднолькавае імя. Характэрны для народнай версіі і вобраз надзейнага слугі, уведзены ў баладу. Акрамя таго А.Міцкевіч у свой твор пераносіць і вершаваны фрагмент падання:

У зацені стаў пакорна
Ды плача: «О гора мне, Крыся!
Ну хто ж дзіцятка пакорміць?
Ах! Дзе ты, Крыся, адкрыйся!»

Адказвае голас нясмела:
«На дне ляжу, маладая.
Ззалела ад холаду цела,
Мне вочы жвір выядае».[156]
*(Пераклад Р.Барадуліна)*

Каб звязаць у адно два матывы, А.Міцкевіч адступае ад падання, дзе пан выступае як станоўчы персанаж. У «Рыбцы» вобраз пана цалкам адмоўны. Ён ашуквае дзяўчыну і тым самым прычыняецца да яе самагубства. Акцэнтуючы на гэтым увагу, паэт свядома надае баладзе сацыяльную афарбоўку. Крыся нават у вобліку русалкі мае ўсе рысы беларускай абяздоленай жанчыны. Таму ў адрозненні ад Свіцязянкі, якая сама карае здрадлівага хлопца, пан у «Рыбцы» караецца звышнатуральным чынам – разам з жонкай перамяняецца ў камень. Гэты матыў таксама ўзяты А.Міцкевічам з фальклорных крыніцаў. У беларускіх народных казках за страшныя грахі, асабліва за непавагу да царкоўных святаў, Бог караў людзей, замяняючы іх у камяні. П.Шэйнам занатаваны дзве такія казкі: пра селяніна, які араў зямлю валамі на Вялікдзень, і пра шаўца Гомсіна, які таксама ў гэтае свята працаваў, ды яшчэ і «падтруніваў над ідучымі ў царкву».[157] Легенда пра злога войта, якога Бог замяняе ў камень, занатавана таксама А.Багдановічам.[158]

У баладзе род віны іншы. Тут адбываецца здзек з кахання, і гэта таксама парушэнне Божага закону, таму падобнае злачынства

---

[156] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 38.

[157] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 439–440.

[158] Багдановіч, А. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў. Этнаграф. нарыс: рэпрынт. выд. 1895 г. / А. Багдановіч. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 24–25.

мусіць сурова карацца. У гэтым галоўнае падабенства «Рыбкі» і «Свіцязянкі».

Вобраз русалкі з’яўляецца і ў «Свіцязі», аднак у параўнанні з баладамі «Свіцязянка» і «Рыбка», тут яна адыгрывае толькі ролю апавядальніцы. Ствараючы «Свіцязь», А.Міцкевіч меў за мэту ўславіць род Верашчакаў, аб чым сведчыць прысвячэнне пад тытулам балады, таму ні задума твора, ні вобразы герояў – князя Тугана і яго дачкі, – не маглі быць узяты паэтам з фальклору. Гераічная тэматыка «Свіцязі» дае падставу меркаваць, што задуму балады можна патлумачыць прыпісам А.Міцкевіча да паэмы «Гражына»: «Я чуў ад знаўцы народнай гістарычнай спадчыны, пана Анацэвіча, што ў рукапісе валынскага летапісца ёсць згадванне аб слаўным учынку жанчын нейкага ліцвінскага горада, якія, правёўшы мужоў на вайну, самі трымалі абарону, а не здолеўшы адбіць ворага, выбралі смерць ад уласнай рукі, чым няволю».[159] Вядома, аднаго факта з рукапісу летапісца было недастаткова, каб стварыць прыгожую легенду пра Свіцязь, таму паэт звярнуўся да казак і паданняў.

Паводле праблемна-тэматычнага вызначэння, якое прапануе С.Мусіенка, паданні аб возеры Свіцязь дзеляцца на дзве групы: патрыятычныя і этычныя.[160] У першую групу ўваходзяць паданні, у якіх гаворыцца аб нашэсці ворагаў на Свіцязь, калі ў горадзе засталіся толькі жанчыны і дзеці. Фінал тут заўсёды аднолькавы – горад праваливаецца пад зямлю пасля малітвы жанчын, якія не хочуць трапіць у рукі ворага. У другой групе расказваецца аб знікненні горада пад вадой з прычыны чэрствасці і бяздушнасці людзей. З другой групы А.Міцкевіч выкарыстоўвае тэму знікнення горада пад вадой, але надае баладзе маральна-патрыятычную афарбоўку, характэрную першай групе паданняў:

І крыкі, і лямант: «Што будзе тут з намі?
Русь хлынула, Русь атакуе!
Ах! Лепей жыцця мы пазбавімся самі, –
Ад ганьбы хай смерць уратуе!»[161]
*(Пераклад А.Бялевіча)*

---

[159] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1997. – T. II. – S. 65–66.

[160] Мусиенко, С. Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича / С. Мусиенко // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 209.

[161] Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай; Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя: вершы / уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. – Мінск: ППП імя Я.Коласа, 1998. – С. 305.

Жыхары Свіцязі гатовыя абраць смерць, нават гатовыя ісці на самазабойства, чым быць зганьбаванымі і зняволенымі. Але згодна з народнымі ўяўленнямі, якія моцна перапляліся з хрысціянскай мараллю і светапоглядам, самазабойства лічыцца страшным грахом. І не дзіўна, што нікому іншаму, а дачцы князя Тугана паэт даручае падвойную місію – дзякуючы яе малітве людзі выратоўваюцца не толькі ад ганьбы няволі, але і ад ганьбы самазабойства:

Як смерць лепш прыняць нам? Хто тут дапаможа?
Прасіла я продкамі ўсімі:
«Хай гром лепей спаліць наш горад, о Божа,
Ці возьме зямля нас жывымі!»[162]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Такім чынам, уводзячы ў баладу дачку князя, А.Міцкевіч стварае тып такой рамантычнай гераіні, якая адчувае адказнасць не толькі за сябе і свае ўчынкі, але і за іншых людзей, і перш за ўсё – за іх маральнае аблічча.

Фальклорны матыў аб затапленні горада з'яўляецца асноўным у баладзе «Свіцязь», але не адзіным. Акрамя гераічных традыцый, А.Міцкевіч дзеля стварэння натуральнага фону і каларыту, які ўласцівы народным паданням, уводзіць у баладу і іншыя фальклорныя матывы. Напрыклад, вельмі моцна супрацьпастаўлены ў баладзе дзень і ноч: з прыгожага, чароўнага возера, якім паўстае Свіцязь удзень, яно робіцца страшным ноччу, таму, каб завітаць сюды ў цёмную гадзіну, трэба быць вельмі адважным:

Бо там вырабляе нячысцік такое!
Між хваль вадзяны там плюскоча.
Дрыжу, як дзяды мне гавораць пра тое,
Успомніць аж страх перад ноччу.[163]
(Пераклад А.Бялевіча)

Паводле беларускіх паданняў аб затопленых альбо праваленых пад зямлю месцах, час там як бы запыняецца. Людзі там жывуць і далей, але «жыццё іхняе не ведае развіцця і абмяжоўваецца толькі тым чынам, які быў у часе катастрофы».[164] У гэтым выпад-

---

[162] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 31.

[163] Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя: вершы / уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. – Мінск: ППП імя Я.Коласа, 1998. – С. 297.

[164] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 142.

ку А.Міцкевіч дакладна прытрымліваецца народных паданняў, бо, апісваючы незвычайныя з’явы, якія здараюцца на возеры, паэт тым самым сцвярджае, што затапленне Свіцязі адбылося менавіта ў час наступу ворага:

То ў возеры гоман, то лямант вялікі,
То ўспыхне агонь сіняваты.
Гул бітвы, лязг зброі, жаночыя крыкі,
Галошанне, звону раскаты.[165]
*(Пераклад А.Бялевіча)*

Неўмiручасць жыхароў Свіцязі набывае ў баладзе А.Міцкевіча і філасофскі сэнс: памяць аб гераічным мінулым не можа знікнуць, загінуць бясследна, нават час не здольны затушаваць высакародныя ўчынкі чалавека.

З беларускіх народных паданняў узяты А.Міцкевічам і матыў перамянення жанчын і дзяўчат Свіцязі ў кветкі. Даследчыца народнай балады Л.Салавей зазначае, што ў беларускім фальклоры «асабліва багата твораў з матывамі метамарфозы, што надае ім рысы этыялагічных міфаў, падобных да старажытнагрэчаскіх (як «нарцыс», «гіяцынт» і г.д.)».[166] На падобны манер стварыў А.Міцкевіч вобраз кветак-цароў, якія з’яўляюцца сімвалам непазбежнай кары і прыносяць смерць захопнікам, калі тыя ўпрыгожваюць імі свае шлемы ці проста дакранаюцца да іх:

Ды кожны, хто кветак рукамі кранаўся –
Была ў іх нябачная сіла, –
У крук ад страшэнных пакутаў згінаўся,
І смерць яго тут жаваліла.[167]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Усе тры балады – «Свіцязь», «Свіцязянка» і «Рыбка» пабудаваны на моцнай фальклорнай аснове і сваім паходжаннем непасрэдна звязаны з малой радзімай паэта, з яе цэнтрам – возерам Свіцязь. І калі праз «Свіцязянку» і «Рыбку» А.Міцкевіч раскрыў душу свайго народа, то ў «Свіцязі» ён паказаў яго вялікае, адважнае сэрца.

[165] Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя: вершы / уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. – Мінск: ППП імя Я.Коласа, 1998. – С. 297.

[166] Салавей, Л.М. Беларуская народная балада / Л.М. Салавей. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – С. 78.

[167] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 31.

Фантастычны свет беларускіх казак, звязаных з нячыстай сілай і з продажам душы д’яблу, увасобіў А.Міцкевіч у баладах «Тукай» і «Пані Твардоўская». «Беларус любіць слухаць і распавядаць свае байкі, – піша А.Кіркор, – у гэтых байках галоўнымі дзеючымі асобамі выступаюць чараўнікі і чараўніцы, знахары, ваўкалакі, лешыя, русалкі, Чорны госць, жывыя валасы на галаве, цудадзейная палка, белая сарока, Твардоўскі, Стаўр і Гаўр і г.д.».[168]

Дакладным апісаннем рэальнага пейзажу ў «Тукаю» і вясёлага баўлення часу беларускай шляхтай ў «Пані Твардоўскай» А.Міцкевіч падкрэслівае рэгіяналізм сваіх твораў:

А яны ўсё крочаць далей.
Над балотам дождж імгліцца...
Прамінулі ўжо Гніліцу
І Калдычаўскія хвалі.
Дзе дрыгвы купчастай шыры
Абступіў гушчар сасновы,
На гары відаць Жарновай
Чуб, насунуты са жвіру.[169]
*(Пераклад Н.Тарас)*

Гэтак жа рэальна ў «Пані Твардоўскай» паэт перадае атмасферу беларускай карчмы:

П’юць, гуляюць, люлькі паляць,
Танцы, песні, бляск вачэй,
Ледзь карчму ўсю не разваляць:
Ха-ха, хі-хі, гэй жа гэй!
*(Пераклад А.Брусевіча)*

Імёны галоўных герояў балад таксама маюць выразную народную семантыку. Прозвішча Тукай, напрыклад, з’яўлялася «распаўсюджаным сялянскім прозвішчам у ваколіцах Завосся і Калдычэўскага возера»,[170] прозвішча Твардоўскі, як вядома, прыйшло да нас з польскага фальклору, але стала замацавалася за героямі беларускіх народных паданняў (акрамя А.Міцкевіча беларускую версію падання пра Твардоўскага творча выкарыстаў Т.Зан). Аб бела-

[168] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 273.

[169] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 57–58.

[170] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 114.

рускім паходжанні сведчаць асобныя матывы гэтых твораў, пазычаныя з фальклору. У абедзвюх баладах дамова з д’яблам падпісываецца на валовай скуры. У «Пані Твардоўскай»:

Помніш, як на Горцы Лысай
Гандляваў сваёй душой,
І кантракт на скуры бычай
Падпісаны быў табой.
*(Пераклад А.Брусевіча)*

У «Тукаю»:

Бачыць ля падушкі ў зале
Ды з валовай скуры карты.
На іх чэрці, тут не жарты,
Лёсу тайну распісалі.[171]
*(Пераклад Н.Тарас)*

У беларускіх народных казках і паданнях менавіта валовая скура выкарыстоўваецца нячыстай сілай. Пра гэта згадвае М.Федароўскі: «У кожным касцёле пры імшы канешне мусіць быць Чорт, каторы сядзіць у бабіньцы з валоваю скураю. Яго людзі не бачаць, але ён усіх нават і праз сцяну бачыць і як хто аглянецца ці засмяецца, не моліцца альбо так зграшыць, так ён зараз і запісвае на валовай скуры».[172] Тое ж знаходзім у паданні «Пра пустэльніка»: «чэрці сядзяць ды на валовыя скуры грахі запісываюць»,[173] а ў казцы «Аддай мне, што ў доме невядома» чорт кажа купцу: «Вынь кавалак скуры, разрэж мезінец і напішы гэта. Так крапчэй будзе».[174] Тое самае робіцца і з Тукаем:

Раптам чорт яго ў хвіліну –
Хвать за палец за мязінец! –
Нож пад скуру пхнуў ахвоча
І ў крыві пярынку мочыць.[175]
*(Пераклад Н.Тарас)*

---

[171] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 59–60.

[172] Міфы бацькаўшчыны / уклад. У.А. Васілевіч. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 91.

[173] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 376.

[174] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 285–286.

[175] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 63.

Адзначым яшчэ той момант, што Твардоўскі падпісваў дамову не дзе-небудзь, а на Лысай Гары. Паводле беларускіх уяўленняў «на каляды, пры сустрэчы вясны і ў купальскую ноч ведзьмы і чараўнікі злятаюцца на Лысую Гару ў Кіеў, гэтаксама як літоўскія ведзьмы на гару Шатрыю, а польскія, чэшскія і славенскія на Баб'і горы (у Карпатах, на мяжы з Венгрыяй)».[176] Матыў з'яўлення Мефістофеля ў «Пані Твардоўскай» таксама ўзнік «пад уплывам распаўсюджаных сярод беларусаў прымхаў, што ўзяўшы гарэлку ад чараўніка, можна разам з ёй праглынуць д'ябла, які хаваецца на дне кілішка»:[177]

Чорт з гарэлкі лупіць вочы,
Чысты немчык – хоць лізні,
Капялюшык зняў, падскочыў –
Гоп на стол! – і ўжо ў гульні.[178]
*(Пераклад В.Сёмухі)*

Параўнанне чорта з немцам мае, дарэчы, невыпадковы характар. Немцам альбо немчыкам сапраўды называлі ў народзе чорта. Атаясамліванне нячыстай сілы з прадстаўнікамі нямецкай нацыі перш за ўсё было звязана з набегамі на землі былога Вялікага Княства Літоўскага нямецкіх ваяўнічых ордэнаў, якія неслі з сабой рабунак, гвалт і смерць. Крывавыя войны, што вяліся стагоддзямі, назаўсёды замацавалі ў свядомасці жыхароў Вялікага Княства Літоўскага – палякаў, беларусаў і літоўцаў – адмоўны вобраз немца. Па-другое, сярод беларускага магнацтва лічылася, што нямецкае вядзенне гаспадаркі найбольш дасканалае, таму немцаў вельмі часта запрашалі кіраваць маёнткамі і мануфактурамі, дзе ў нечалавечых умовах даводзілася працаваць простым людзям. Усё гэта адлюстравалася ў народнай творчасці, асабліва ў песнях, прыказках і прымаўках: «ашукаў як немец з-пад Рыгі», «сляпы немец людзей не разумее» і інш. У літоўцаў, напрыклад, «нямецкім паслом» называюць буйны вецер, віхор, які ўздымае слупы пылу.[179] Цікавыя народныя асацыяцыі чорта з немцам зафіксаваныя ў этнаграфічных запісах М.Нікіфароўскага і Ч.Пяткевіча: «Прымаю-

---

[176] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 253.

[177] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / С. Станкевіч // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 122.

[178] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 53.

[179] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 41.

чы чалавекападобны воблік, нячысцік носіць адзенне нямецкага крою – цесную куртачку, вузкія панталоны, чаравікі з высокімі абцасамі і абавязкова – капялюш, які можа хаваць воблік нячысціка»;[180] «як Чорт смаляны пабратаўся з панамі ды з немцамі, то па заводу казлом чорным ходзіць толькі ўночы, а ў дзень надзявае панскі храк з хвастом, чырвоны капялюш ды панчохі доўгія, як у жыда <...> Ведама, прыгледзеўся к немцам, як ставілі завод, ды й сам у немца ўкляпаўся».[181]

У беларускіх казках сустракаецца і матыў амаладжэння, выкарыстаны А.Міцкевічам у баладзе «Тукай». Так у казцы «Каваль, чорт і пан», якая бытавала на Гродзеншчыне, чорт дапамагае кавалю амаладзіць пана.[182] Сродкам амаладжэння ў баладзе выступае чарадзейны белы корань з-пад каменя. «Паводле ўяўленняў тагачаснага беларускага селяніна, чарадзейнае зелле збіраць трэба толькі з маладзіком».[183] Тое ж самае сустракаем і ў баладзе А.Міцкевіча:

Маладзік узыдзе ночкай,
Ты ідзі аж да гаёчка,
Дзе каменне – з-пад камення
Белага нарві карэння![184]
*(Пераклад Н.Тарас)*

Пра чарадзейны корань згадваецца ў беларускіх песнях, толькі тут ён выступае як сродак для прываражвання мужчын:

Накапала карэння
З-пад белага камення
Прыставіла да жару:
«Кіпі корань па малу!»
Яшчэ корань не скіпеў,
Ужо пан пісар прыляцеў.[185]

---

180 Никифоровский, Н.Я. Нечистики, свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / Н.Я. Никифоровский. – Витебск: Издатель Н.А. Паньков, 1995. – С.14.

181 Міфы бацькаўшчыны / уклад. У.А. Васілевіч. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 87.

182 Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 144–145.

183 Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. Лойка. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1959. – С. 57.

184 Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 60.

185 Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П.Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1902. – Т. 3. – С. 312.

Задуму «Тукая» многія даследчыкі (С.Станкевіч, Л.Сагараў, А.Лойка) выводзяць з народных версій падання пра гішпанца Мархіёна, альбо з роднаснага гэтаму падання пра чараўніка Брусава (Твардоўскага), якое бытавала на Беларусі. Інакш да гэтага падыходзіць С.Мусіенка, якая лічыць што задума «Тукая» і «Пані Твардоўскай» узнікла на падставе альбо «Нямецкіх народных кніг» пра доктара Фаўста, альбо першай часткі трагедыі І.В.Гётэ «Фаўст», «уплыў якой добра адчуваецца і ў «Тукаю» і ў «Пані Твардоўскай». Апошняя заснавана на сюжэтным вузлу адносінаў Мефістофеля і Марты, калі д'ябал уцякае ад настойлівай каханкі».[186]

Калі ўзяць пад увагу майстэрства А.Міцкевіча творча апрацоўваць і спалучаць у адзінае цэлае самыя розныя матывы, сюжэты і калізіі, то рацыю мае і першая і другая думка. Бясспрэчным застаецца адно: пры напісанні «Тукая» і «Пані Твардоўскай» належную ролю адыграў беларускі фактар. Гэта выявілася і ў адлюстраванні паэтам тагачаснай беларускай рэчаіснасці (пейзажныя, бытавыя замалёўкі), і ў творчым выкарыстанні беларускіх казачных сюжэтаў, вобразаў і матываў.

І яшчэ адна тэма, закранутая А.Міцкевічам у «Баладах і рамансах», – маральна-бытавая. На гэтую тэму напісаны «Вяртанне таты» і «Лілеі». Балада «Вяртанне таты», як і балада «Пані Твардоўская», мае вандроўны сюжэт. Матыў літасцівых злачынцаў, ліхадзеяў, якія каюцца ў сваіх грахах, не быў створаны непасрэдна ў беларускім народным асяроддзі. Казкі з падобным сюжэтам, як даводзіць Я.Карскі, «з'яўляюцца адгалоскам яшчэ Эдзіпавай гісторыі, сказанняў пра Юду-Здрадніка, Андрэя Крыцкага, папу Грыгорыя, апакрыфічных сказанняў пра шкадуючых за грахі ліхадзеяў, якія аберагаюць дрэва, што паслужыць потым матэрыялам для крыжа Гасподняга».[187]

Зразумела, што задума балады была ўзята не з першакрыніцаў, а з народных версіяў паданняў, больш блізкіх і зразумелых як аўтару, так і «спажыўцам» творчасці А.Міцкевіча; нездарма «Вяртанне таты» мела вялікі поспех, шмат разоў перадрукоўвалася і трапіла нават у школьныя падручнікі.

Матэрыялам для балады магла паслужыць адна з версій народнага падання пра Вялікага грэшніка, які «і краў, і чыніў разбоі,

---

[186] Мусиенко, С. Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича / С. Мусиенко // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 216.

[187] Карскі, Я. Беларусы / Я. Карскі. – Мінск: Бел. кнігазбор, 2001. – С. 547.

губіў людзей без пакаяння»,[188] але перад смерцю ўспомніў Бога і выратаваў сваю душу, забіўшы злога войта, што прымушаў сялян працаваць у святыя дні. Сярод падобных казак можна вылучыць казку «Дзяўчына», занатаваную А.Сержпутоўскім, у якой матыў скрухі ліхадзея дастаткова набліжаны да падобнага матыва ў вершы А.Міцкевіча. У казцы апавядаецца пра тое, як малая дзяўчынка, вярнуўшыся з поля, бачыць закатаваных ліхадзеямі бацькоў. З-за яе плачу змягчылася сэрца забойцаў, адмовіліся яны ад рабунку, а дзяўчынку забралі да сябе і клапатліва апекаваліся ёю.[189]

Знешні воблік разбойнікаў, створаны А.Міцкевічам, таксама адпавядае беларускім народным казкам:

Вусы, бароды, выгляд калючы,
Зірк дзікі, апратка благая;
Нажы за папругай і меч бліскучы,
Ў руках булава цяжкая.[190]
*(Пераклад Р.Барадуліна)*

Адпавядае і колькасць ліхадзеяў – дванаццаць. Такая лічба найчасцей сустракаецца ў беларускім фальклоры, напрыклад, у казках «Каралева і разбойнікі», «Дачка млынара і дванаццаць разбойнікаў»[191] і ў інш. Акрамя таго, такі від зброі, як булава, сустракаецца звычайна ў беларускіх казках.

Яшчэ раней за А.Міцкевіча да падобнага сюжэта звярнуўся Я.Чачот у сваёй баладзе «Свіцязь». Некаторыя даследчыкі (С.Свірка, К.Цвірка) лічаць, што гэтая балада Я.Чачота паслужыла падставай для напісання А.Міцкевічам баладаў «Свіцязь» і «Вяртанне таты». «У першай ён выкарыстаў паданне пра затапленне горада Свіцязь, – піша К.Цвірка, – у другой – момант вяртання дамоў купца і напад на яго рабаўнікоў».[192] А.Міцкевіч, Я.Чачот, Т.Зан і іншыя віленскія паэты, сапраўды запазычвалі адзін у аднаго вобразы, матывы і нават цэлыя ўрыўкі твораў (так у рамансе «Дудар»

---

[188] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 371.

[189] Казкі і апавяданні Беларускага Палесся. Са зборнікаў А. К. Сержпутоўскага / склад., падрыхтоўка тэксту і паказальнік да казак А.С. Фядосіка. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 267–274.

[190] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 42.

[191] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 224–229.

[192] Чачот, Я. Выбраныя творы / Я. Чачот. – Мінск: Бел. кнігазбор, 1996. – С. 332.

А.Міцкевіч выкарыстаў трыялеты Т.Зана), аднак у баладзе «Вяртанне таты», сюжэт якой з'яўляецца вандроўным, тым больш у баладзе «Свіцязь», А.Міцкевіч наўрад ці наследаваў Я.Чачота, таму што не горш за яго быў дасведчаным на той момант у беларускай народнай творчасці, з якой звязваў генезіс сваёй паэзіі.

Балада «Лілеі», якая мае прыпіс «з народнай песні», сапраўды ўзнікла на падставе польскай народнай песні пра забойства няврнай жонкай свайго мужа. Аднак, як звычайна бывае, многія творы не абмяжоўваюцца тым рэгіёнам, дзе яны ўзніклі, выходзячы не толькі за яго межы, але нават і за межы ўласнага моўнага асяроддзя. Так польская народная песня паравандравала ў беларускамоўнае асяроддзе і ў змененым выглядзе бытавала на ўсёй тэрыторыі Беларусі, аб чым сведчаць запісы фалькларыстаў. Магчыма, што А.Міцкевіч мог чуць адзін з такіх варыянтаў і на гэтай падставе стварыць сваю баладу.

Як і ў выпадку з іншымі баладамі, для рэалізацыі творчых задумаў А.Міцкевіч не мог задаволіцца няхітрым сюжэтам песні. Пры напісанні «Лілей» паэт звярнуўся і да іншых фальклорных матываў.

Галоўная ідэя балады (як і большасці твораў цыклу) – выкрыццё і пакаранне зла. Увасабленнем мудрасці і духоўнай чысціні з'яўляецца вобраз Старца. У «Лілеях» ён адыгрывае тую ж ролю, што Староннi чалавек у «Курганку Марылі» альбо Дудар у аднайменным рамансе – у яго вусны А.Міцкевіч укладывае народную мараль:

Дачка, – стары гаворыць, –
За грэх такое гора;
Пакайся, калі можаш,
Тады і Бог паможа.[193]
*(Пераклад М.Танка)*

У адрозненні ад ліхадзея з «Вяртання таты» жонка-забойца не шкадуе за свой учынак, таму мусіць быць пакарана. Дзеля гэтага паэт надзяляе Старца містычнай сілай – ён можа ўваскрашаць мёртвых. Згодна народным уяўленням падаецца прывід мужа, які ўвесь час праследуе сваю жонку:

Рып-рып – і нажом, гляджу я,
Мяне ён дастаць спрабуе.
Іскры з губ рассыпае,
Цягне мяне, шчыпае.[194]
*(Пераклад Я.Міклашэўскага)*

---

[193] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 69.

[194] Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай; Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя: вершы / уклад., прадм. і камент. У.Мархеля. – Мінск: ППП імя Я.Коласа, 1998. – С. 345.

Падобна выглядае пакутная душа ў баладзе «Люблю я», у якой таксама з вуснаў вылятае агонь. З народнага абраду – гадання на вянках, узяты матыў выбару жаніха: жонка-забойца, не ведаючы, каго выбраць з братоў мужа, загадвае сплясці вянкі, каб па іх вызначыць свой лёс. Лілеі, з якіх браты сплялі вянкі, падобна як Кветкі-цары ў баладзе «Свіцязь», з'яўляюцца сімвалам непазбежнай расплаты – сарваныя з магілы, яны сталі прычынай прыходу нябожчыка. Аднак карае братоў і жонку не душа забітага, а сам Бог – царква разам з усімі правальваецца пад зямлю, а на гэтым месцы, як і ў «Свіцязі», вырастаюць кветкі помсты:

Тут сцены задрыжалі,
Зруб трэснуў па вуглах,
І заваліўся дах,
Усё ў зямлю запала.
Адно на месцы тым
Растуць лілей кусты,
Растуць яны высока,
Як пан ляжаў глыбока.[195]
*(Пераклад М.Танка)*

Матыў знікнення пад зямлёй царквы ўзяты А.Міцкевічам з народных паданняў, якія ў вялікай колькасці бытавалі на Беларусі. Напрыклад, П.Шэйнам занатавана некалькі такіх паданняў, дзе за грахі людзей, альбо па іншай прычыне, царква разам з тымі, хто ў ёй знаходзіцца, правальваецца пад зямлю.[196]

У народным стылі вытрымана эўфанічная кампазіцыя балады – шматлікія паўторы асобных слоў, асанансы і рэфрэны надаюць «Лілеям» непаўторную натуральную мілагучнасць.

Прааналізаваўшы першую кнігу паэта, мы прыйшлі да высновы, што «Балады і рамансы», як вынік творчых пошукаў А.Міцкевіча ў рэчышчы еўрапейскай рамантычнай традыцыі, абавязаны сваім існаваннем беларускай народнай культуры. Пра гэта сведчаць наступныя факты:

– А.Міцкевіч знаходзіць свой уласны падыход да жанру балады і раманса, арыентуючыся перш за ўсё на ўзоры народнай паэзіі;

– узорамі народнай паэзіі, на падставе якіх А.Міцкевіч стварыў свет «Балад і рамансаў», сталі беларускія песні, казкі, легенды і паданні;

---

[195] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 72.

[196] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 422–424.

– А.Міцкевіч аддаваў перавагу мясцоваму фальклору, на якім быў сам узгадаваны, які добра ведаў і шанаваў;

– А.Міцкевіч творча падыходзіў да фальклору, спалучаючы розныя народныя матывы, вобразы і ўяўленні;

– у «Баладах і рамансах» А.Міцкевіч выкарыстоўвае не толькі фальклор, але і абрады беларусаў, а таксама беларускую народную сімволіку;

– акрамя ідэй і творчых задумаў, якія А.Міцкевіч чэрпаў з вуснай народнай творчасці, паэт выкарыстоўваў форму беларускіх песняў, а на падставе народнага матэрыялу ствараў уласныя фальклорныя мадэлі;

– у фантастычны свет «Балад і рамансаў» А.Міцкевіч увёў рэаліі з жыцця беларускага селяніна, а таксама беларускай і польскай шляхты, іх звычкі, традыцыі, маральна-этычныя каштоўнасці;

– вобразы Свіцязі, Нёмана, маляўнічае і разам з тым вельмі дакладнае апісанне навагрудскага пейзажу, мясцовыя імёны і прозвішчы – ўсё гэта стала не толькі фонам, на якім разгортываюцца падзеі «Балад і рамансаў», але пунктам адліку ў сістэме беларускага ўспрымання творчасці А.Міцкевіча, адной з істотных акалічнасцей ягонай паэзіі, фактарам беларускай культуры.

## ГЛАВА 4
## БЕЛАРУСКІЯ РЭАЛІІ Ў ЛІРА-ЭПІЧНАЙ ПАЭМЕ АДАМА МІЦКЕВІЧА «ГРАЖЫНА»

У лістападзе 1822 г. Адам Міцкевіч, знаходзячыся ў Коўне, завяршае паэму «Гражына», якая стала новым крокам у гісторыі польскага рамантызму. Гэта быў адзін з першых узораў сінтэзу лірычнага і эпічнага пачаткаў (у 1825 г. А.Мальчэўскі таксама стварае ліра-эпічную паэму «Марыя»). Працу над творам паэт распачаў восенню 1821 г. у Шчорсах, куды неаднаразова прыязджаў дзеля наведвання знакамітай бібліятэкі графаў Храптовічаў.

Паводле першапачатковай задумы, героем сваёй паэмы А.Міцкевіч бачыў рэальную гістарычную асобу – ноўгарадскага князя Карыбута з дынастыі Гедзімінавічаў, – які ў 1390 г. за дапамогу Ягайлу пры аблозе Гродна атрымаў ад апошняга ў дзяржанне Ліду, але за тое, што адмовіўся прысягаць на вернасць Вітаўту як вялікаму князю Вялікага Княства Літоўскага, у 1392 г. быў разбіты яго войскамі і ўзяты ў палон. Твор павінен быў называцца «Карыбут, князь Ноўгарадскі, паэма з літоўскай гісторыі», аднак у працэсе работы А.Міцкевіч з рэальных гістарычных асоб пакідае толькі

князя Вітаўта, месца дзеяння пераносіць з Ноўгарада ў родны Навагрудак, а паэму называе «Гражына», надаючы ёй падтытул «Літоўская аповесць». У выніку, перад міцкевічавым чытачом паўстае яшчэ адзін прыклад новага мастацкага кірунку – рамантызму. Разам з тым гэта быў твор блізкі і знаёмы ў многіх адносінах: Навагрудак, Ліда, Нёман, іншыя топасы-сімвалы, якімі наскрозь пранізана паэма, стваралі і дагэтуль ствараюць уражанне фізічнай прысутнасці радзімы (у часы паэта гэта было Вялікае Княства Літоўскае, сёння ж гэтыя рэаліі суадносяцца з Беларуссю, таму топасы, выкарастанныя А.Міцкевічам, могуць разглядацца як своеасаблівыя чыннікі беларускасці). Сучаснікам паэта цалкам знаёмымі былі і тыя, нібыта гістарычныя рэаліі, адмыслова паказаныя А.Міцкевічам у «Літоўскай аповесці»: падзеі, якія адбываюцца ў сярэднявечнай Літве, з’яўляюцца на самой справе намёкам на тагачасную палітычную сітуацыю ў краіне, калі ў Рэчы Паспалітай, раздзёртай на кавалкі, не мелася сілаў, якія б змаглі аб’яднаць яе і вярнуць дзяржаве былую веліч. Колькі, напрыклад, болю, трагізму, выкліканых апошнім падзелам Рэчы Паспалітай, але адначасова і надзеі на яе адраджэнне адчуваецца, калі аўтар заклікае рыцара ў чорных даспехах хутчэй уварвацца ў рады ворагаў-крыжакаў і выратаваць амаль пераможаных ліцвінаў:

Спяшайся, рыцар, ажыві адвагу,
Знямоглых падмацуй, ратуй ад гора!
Бо немцы здабылі ўжо перавагу –
Ліцвінам пікі болей не апора.[197]
*(Пераклад П.Бітэля)*

Ажывіць патрыятычны дух сучасніка – якраз і была галоўная задача А.Міцкевіча як паэта-рамантыка. Дзеля дасягнення гэтай высокай мэты ён стварае «жыццёва праўдзівыя вобразы герояў, паводзіны якіх апраўданы і лагічна і псіхалагічна».[198] У паэме тры асноўныя героі – князь Літавор, яго жонка Гражына і дарадца князя Рымвід. Носьбітамі патрыятычнай ідэі выступаюць Гражына і Рымвід, супрацьпастаўленыя аўтарам эгаістычна-недальнабачнаму Літавору. Князь, безумоўна, з’яўляецца адмоўным героем: нельга апраўдаць яго здраду. Між тым А.Міцкевіч надзяляе яго некаторымі станоўчымі рысамі – ён добры муж, моцны, бясстрашны ваяр, у рэшце рэшт, Літавор здольны прызнаць, зразумець, асэнсаваць свае памылкі і здзейсніць мужны ўчынак – коштам уласнага жыцця

[197] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 130.
[198] Живов, М.С. Адам Мицкевич. Жизнь и творчество / М.С. Живов. – М.: Гослитиздат, 1956. – С. 88.

змыць ганьбу, стварэння хаўруса з крыжакамі. Можна толькі ўявіць сабе тую буру ў душы князя, што змятала пачуцці самалюбства, зайздрасці і дробязнасці, ставячы на іх месца гонар, годнасць і самаахвярнасць. Такім чынам, на прыкладзе Літавора А.Міцкевіч паказвае эвалюцыю літаратурнага героя, які можа змяняць маральныя і эстэтычныя прынцыпы. Вобраз Рымвіда ў гэтым сэнсе бяднейшы: ён – герой статычны, не зведвае ніякіх змен і ў любых ўмовах застаецца верным патрыётам сваёй бацькаўшчыны, нават, калі гэта супярэчыць такому паняццю, як «служэнне князю». Між тым яго вуснамі прамаўляе сам А.Міцкевіч:

Я не магу сваім вушам даць веры!
На брата брату трэба ўзняць далоні?
Вось ён на немцах вышчарбіў сякеры
І вострыць іх супроць сваіх сягоння!
Нязгода – зло, ды скончыцца бядою
Яднанне гэта. Мы ж – агонь з вадою![199]
*(Пераклад П.Бітэля)*

«Патрыятычны пафас прамовы Рымвіда, – піша І.Горскі, – абумоўлены высокімі ідэаламі самога паэта, ён адлюстраваў нацыянальна-вызваленчыя памкненні перадавой часткі польскага грамадства, якая ўступіла ў канфлікт з рэакцыйным магнацтвам – верным хаўруснікам іншаземных захопнікаў».[200] Дарэчы, А.Міцкевіч адлюстраваў вызваленчыя памкненні не толькі палякаў, як сцвярджае рускі даследчык, але і ўсіх патрыятычна настроеных грамадзянаў Рэчы Паспалітай і, у прыватнасці, Вялікага Княства Літоўскага – беларусаў, літоўцаў, украінцаў і прадстаўнікоў іншых народаў, трапіўшых пад прыгнёт.

Яшчэ больш яскравым увасабленнем патрыятызму з'яўляецца Гражына, якая спалучае ў сабе ўсе якасці рамантычнай гераіні: мужная, рашучая, яна захоўвае ў адначассі ўсё тое, што надае жанчыне статус надзвычайнасці:

Павагай здзівіць, свежасцю прывабіць,
І бачыш быццам і вясну і лета:
Румянец кветкі ўсё той самы, мабыць,
Хоць спее плод, на сонейку сагрэты.[201]
*(Пераклад П.Бітэля)*

[199] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 114.
[200] Горский, И.К. Адам Мицкевич / И.К. Горский. – М.: Изд-во Академии наук СССР, 1955. – С. 56.
[201] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 119.

Дарэчы, разглядаць вобраз гэтай гераіні варта ў сукупнасці з іншымі жаночымі вобразамі, створанымі шчодрым натхненнем А.Міцкевіча ў віленска-ковенскі перыяд ягонай творчасці. Толькі ў «Баладах і рамансах» сустракаем цэлую плеяду розных, непадобных адна да другой рамантычных гераінь – ад цнатлівай, сціплай Карусі з балады «Рамантычнасць» да жорсткай, эгаістычнай Марты з балады «Пальчатка».

Кожная жаночая постаць у А.Міцкевіча выконвае некалькі функцый. Па-першае, вобраз жанчыны амаль заўсёды выступае як эталон пэўных маральных каштоўнасцяў, блізкіх, альбо далёкіх паэту. Па-другое, яна становіцца выразнікам уласнага аўтарскага светапогляду. Так, напрыклад, у «Рамантычнасці» менавіта праз вобраз галоўнай гераіні паэтам робіцца ўдалая спроба адстаяць свае права на рамантычнае светабачанне, а таксама паказаць аднабаковасць эстэтыкі класіцызму. Дарэчы, ірацыянальная, невытлумачальная Каруся, якая ўмее глядзець на свет духоўнымі вачыма, надзяляецца цалкам зямнымі рысамі. У яе вобразе паэт увасобіў лепшыя жаночыя якасці – духоўную прыгажосць, маральную чысціню, непадробную сціпласць і глыбокую самаахвярнасць. Варта яшчэ раз нагадаць, чаму гераіня А. Міцкевіча атрымала імя Каруся: так называлася беларуская дзяўчына – першае, сапраўды чыстае і нявіннае, юнацкае каханне паэта.

Крыху пазней з'яўляецца другая муза. Другая па чарзе, але першая паводле сваёй значнасці. Імя яе – Марыля Верашчака. Каханне А.Міцкевіча да чарговай беларускай дзяўчыны стала новым стымулам яго паэтычнага натхнення. З гэтага часу фактычна ва ўсіх жаночых вобразах, якія выйшлі з-пад пяра нашага славутага земляка, можна прасачыць сувязь з рэальнай асобай – каханай паэта. Шэраг вершаў А.Міцкевіча (прысвечаных пераважна тэме няшчаснага кахання) можна нават умоўна аб'яднаць у так званую «Марыліну тэму». Да вершаў «Марылінай тэмы» адносяцца, напрыклад, балада «Люблю я», а таксама рамансы «Дудар» і «Курганок Марылі». Ва ўсіх гэтых творах гераіні носяць імя Марыля. І калі ў рамансах паэт стараецца неяк прыхаваць, нават пахаваць горкае пачуццё ўласнага безадказнага кахання, то ў баладзе «Люблю я» А.Міцкевіч наўпрост гаворыць аб той, што з'яўляецца віноўніцай ягоных любоўных пакутаў. Да твора, як вядома, далучаны верш пад назвай «Сябрам, пасылаючы ім баладу «Люблю я». У гэтым вершы якраз і адлюстраваны сапраўдны вобраз М.Верашчакі, ад якога паэт адштурхоўваецца і стварае вобраз іншай Марылі, вобраз лірычнай гераіні. Так, у самой баладзе Марыля

паўстае ў вобразе жахлівай здані, якая церпіць пакуты за сваю халоднасць, абыякавасць да закаханых у яе хлопцаў. Цікава і тое, што паэт, ствараючы вобраз «халоднай жанчыны», кіруецца не толькі ўласным вопытам нерэалізаваных пачуццяў, але перш за ўсё нормамі народнай этыкі.

З асобай М.Верашчакі асацыіруецца і балада «Свіцязь». Праўда, прысвячаецца балада яе брату Міхалу, аднак цэнтральным вобразам у творы выступае не мужчына, як чакалася б, а жанчына – дочка князя Тугана, смелая і рашучая патрыётка сваёй зямлі. Гэта дае магчымасць меркаваць, што верш адрасаваны перш за ўсё Марылі. А прысвячэнне М.Верашчаку – выдатны стратэгічны ход у заваяванні сімпатыі з боку каханай дзяўчыны (у падобнай сітуацыі было вельмі важна займець прыхільнасць брата).

І вось паступова мы падыйшлі да самай адметнай рысы, якой заўсёды надзяляе А.Міцкевіч сваіх рамантычных герояў, у тым ліку і жанчын. Гэта – гарачая любоў да бацькаўшчыны. Прыгадаем, што ўпершыню вобраз жанчыны-патрыёткі ўзнікае ў паэме «Мешка, князь Навагрудка». Канешне, патрыятызм прыгажуні Зылі носіць выключна жаночы характар (у параўнанні хаця б з гераіняй балады «Свіцязь»): яна дзякуючы толькі сваім жаноцкім хітрыкам ратуе Мешку і цэлы край.

Самым жа яскравым увасабленнем любові да радзімы і да ўласнага народу з’яўляецца, безумоўна, Гражына з аднайменнай паэмы. Да таго ж яна надзвычай прыгожая: адразу відаць, што ў ёй паэт аб’яднаў рысы многіх беларускіх жанчын, а не адной Марылі, як рабілася раней. З кантэксту паэмы вынікае, што нават сам А.Міцкевіч захапляецца прыгажосцю сваёй гераіні, называючы яе «з наднёманскіх дочак першай прыгажуняй». Адзначым, што пры апісанні Гражыны паэт невыпадкова ўжывае прыметнік «наднёманскі». Гэтым самым ён сцвярджае (як і ў «Першацвеце» – творчым маніфесце) рамантычны ідэал прыгажосці – не экзатычнай, але тутэйшай, сціплай і натуральнай. Здзіўляе і ўнутраны свет гераіні А.Міцкевіча. Насуперак архетыпнаму вобразу кволай, слабай, цалкам залежнай ад волі мужа кабеты – не важна, будзе гэта жонка селяніна ці жонка магната, паэт стварае вобраз незалежнай, рашучай жанчыны-патрыёткі, якая ідзе супраць волі мужа, але затое застаецца вернай радзіме і свайму народу. Пра высокія маральныя якасці гераіні гаворыць і яе каханне да мужа, якое засталося нязменным нягледзячы ні на што. Таму і просіць Гражына перад смерцю ў мужа прабачэнне за так званую «здраду»:

У грудзі раненая, цяжкае дыханне –
Яна, упаўшы, ногі князю абдымала,
То рукі, прасціраючы к яму, ламала:
«Прабач адзіную перад табою здраду!»[202]
*(Пераклад П.Бітэля)*

Як заўважае С.Мусіенка, «тэма жанчыны-гераіні, пераапранутай у мужчынскія строі, каб ачоліць войска і абараніць радзіму, распаўсюджваецца ў фальклоры і літаратуры ўсходнеславянскіх народаў толькі пасля нашэсця Напалеона, прычым яе крыніцай былі рэальныя людзі і факты».[203] Апранутая ў строі Літавора, нікім не пазнаная, Гражына таксама смела вядзе ў бой з крыжакамі войска князя, абараняючы родны Навагрудак. Аднак, нягледзячы на ўсю адвагу, з якой гераіня ўрываецца ў рады ворага, яна застаецца бяздзейснай: князь (пераапранутая Гражына), які б'е, але ніводнага крыжака не можа забіць, выглядае недарэчна:

Але ж каторага вініць тут Бога,
Што князь слабы? Хоць ворагаў ён гоніць
І смела б'е, ды не забіў нікога.
Па панцырах мячом бяссільна звоніць,
А меч саслізгваецца раз за разам
І не трапляе ці кладзецца плазам.[204]
*(Пераклад П.Бітэля)*

Параза ліцвінаў была б непазбежнай, калі б на дапамогу ім не падаспеў рыцар у чорных шатах (Літавор). Вяртаючыся ў жыццёвую рэальнасць, А.Міцкевіч такім чынам сцвярджае думку, што для перамогі над ворагам недастаткова адвагі асобных патрыётаў (такіх нават як Гражына), альбо волевыяўлення народа (народ увасабляе Рымвід). Толькі аб'яднанне ўсіх сумленных грамадзянаў колішняй Рэчы Паспалітай – ад сялянства і дробнай шляхты да буйных магнатаў, здольнае супрацьстаяць сілам звонку і вярнуць краіне страчаную дзяржаўнасць.

Нельга не заўважыць, што А.Міцкевіч, калі бярэцца апісваць тыя ці іншыя рэаліі, звязаныя са старадаўнімі эпохамі, праяўляе сябе не толькі як паэт-рамантык, але таксама як добры гісторык. Напрыклад, апісанне вялікакняскага двара, пададзенае ў паэме, вельмі блізкае да рэчаіснасці:

---

[202] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 136.

[203] Мусиенко, С. Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича / С. Мусиенко // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 208.

[204] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 128.

Нямала ў немцаў замкаў, безумоўна,
Каб бедны прускі люд аблытваць страхам,
Ды не зраўняцца з Вітаўтавым гмахам
Ні з віленскім, ні з трокскім на азёрах!
Прыгожая даліна ёсць пад Коўнам,
А як па ёй русалкі ўвесну, ўлетку
Траву рассцелюць ды рассыплюць кветкі,
Не знойдзеш прыгажэйшай на ўсім свеце.
Павер мне! У Кейстутавага сына
Свяжэйшая трава і кветкі ў клеці!
Падлога гэткай выслана тканінай,
На сценах гэткія вісяць фестоны
Ўсё з золата і кветак палымяных...
Не лепшы, можа, твор багінь натхнёных,
Чым творы працы ляшскіх паланянак.[205]
*(пераклад П.Бітэля)*

Двор Вітаўта на самай справе па сваёй пышнасці і багаццю не саступаў, а часамі і пераўзыходзіў двары тагачасных еўрапейскіх манархаў, пра гэта можна судзіць, зыходзячы з рэальных даносаў крыжацкіх шпіёнаў, што знаходзіліся пры асобе князя. Падобнае апісанне двара Вітаўта прысутнічае таксама і ў славутай «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага. Трэба адзначыць, што А.Міцкевіч пераняў ад прадстаўніка старажытнай беларускай літаратуры цэлую сістэму маральна-эстэтычных каштоўнасцей, напрыклад, упершыню ўведзеная М.Гусоўскім праблема свабоды мастака стала пазней адным з галоўных прынцыпаў рамантызму. Такім чынам, можна гаварыць пра старабеларускую літаратуру як пра фактар, які ўплываў на творчасць А.Міцкевіча.

Акрамя патрыятычнай тэматыкі, якой амаль цалкам падпарадкаваны ідэйны змест паэмы «Гражына», А.Міцкевіч аздабляе твор шэрагам фальклорных вобразаў і матываў. Канешне ж, паэт звяртаецца перш за ўсё да беларускага фальклору. Першыя ўжо радкі паэмы нагадваюць пачатак казкі:

Штораз цямней, праймае золкі вецер,
Туман ля споду, а ў гары высока
Між чорных хмараў у сівым прасвеце
Няпоўны месяц сонна жмурыў вока.[206]
*(пераклад П.Бітэля)*

---

[205] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 116.
[206] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 107.

Вецер, туман, чорныя хмары, з-за якіх то выгляне, то зноў схаваецца поўня – уся гэта экспрэсія, створаная А.Міцкевічам, з’яўляецца жывым адгалоскам дзіцячых гадоў паэта, напоўненых казкамі Блажэя і песнямі Гансеўскай. У беларускіх народных казках і паданнях, асабліва тых, дзе гаворыцца пра нячыстую сілу, дзеянне заўсёды адбываецца апоўначы. Гэтай парою прыязджаюць да Літавора і нямецкія паслы, з якімі князь вырашыў заключыць тайную змову:

Навокал ціша. Замак спіць спакойна.
Якое ж дзіва! Поўнач, час асенні.
Чаму ж у Літаворавых пакоях,
Як зорка, лямпа разганяе цені?[207]
*(пераклад П.Бітэля)*

Гэты фальклорны матыў неаднаразова выкарыстоўваўся А.Міцкевічам. Напрыклад, у баладзе «Свіцязь», якая ідэйна найбольш набліжана да «Гражыны», д’ябальская сіла разгульваецца якраз апоўначы. Нячыстую сілу ўвасабляюць і паслы крыжакаў, якія прыехалі да Літавора ў гэтую нядобрую, паводле народнага ўяўлення, пару содняў. Як мы ўжо адзначалі, атаясамліванне немца з нячысцікам таксама з’яўляецца наследаваннем традыцый вуснай народнай творчасці беларусаў, як, зрэшты, і фальклору іншых народаў, якія аднойчы адчулі на сабе жах крыжацкай навалы. Да гэтага матыву А.Міцкевіч звяртаўся яшчэ ў баладзе «Пані Твардоўская». Нелюбоў жыхароў Вялікага Княства Літоўскага да прадстаўнікоў крыжацкага ордэна паэт адлюстраваў і ў «выпадковай» размове двух ліцвінаў, якія незнарок убачылі пасла крыжакаў:

«Дык гэта ж цюцька з псярні злой крыжацкай! –
Пузач, крывёй бо прускай упіваўся.
Каб тут вачэй было не так багата,
Уміг скупаўся б у балоце плюха –
Пад мост я ўпхнуў бы чуб пыхліва ўзняты!»[208]
*(пераклад П.Бітэля)*

Дарэчы, праз гэтую характарыстыку аўтар выказвае і ўласныя адносіны, а таксама адносіны сваіх суайчыннікаў да Аўстрыі, Прусіі і Расіі, трох дзяржаў-захопніц, якія расцягнулі землі Рэчы Паспалітай (паслоў, што прыходзілі да Літавора, таксама было трое).

---

[207] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 108.
[208] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 108.

Зрэшты, лічба «тры» можа быць толькі данінай фальклорнай казкавай традыцыі, як і лічба «дванаццаць», што сустракаецца ў паэме (роўна столькі гадоў Рымвід служыў Літавору).

Нібыта са старонак народных казак зышла і галоўная гераіня – Гражына: яна паўстае ўся ў белі. Прыгадаем, што падобна выглядае Свіцязянка з аднайменнай балады А.Міцкевіча. Больш за тое, паэт хацеў прадставіць вобраз княгіні, як, зрэшты, і ўсю паэму «Гражына», плёнам не ўласнай фантазіі, а народнай творчасці, сцвярджаючы, што

Не знойдзецца сягоння ў Навагрудскай гміне
Ніводзін, хто не знаў бы песні аб Гражыне.[209]
*(пераклад П.Бітэля)*

Менавіта дзеля стварэння ілюзіі фальклорнага паходжання падання пра мужную жанчыну-ваяра А.Міцкевіч пад загалоўкам свайго твора змяшчае падтытул «Літоўская аповесць». Такога роду містыфікацыя была моднай у часы рамантызму і неаднаразова выкарыстоўвалася паэтамі, у тым ліку і А.Міцкевічам (падобныя падтытулы маюць вершы «Рыбка», «Лілеі», «Дудар», «Курганок Марылі»).

Ствараючы вобразы сярэднявечнай Літвы, А.Міцкевіч звяртаецца да беларускай міфалогіі і язычніцкіх абрадаў, якія бытавалі некалі на абшарах дахрысціянскай Беларусі. Паэт узнаўляе, напрыклад, старажытны абрад ахвярапрынашэння агню, звязаны з верай у Пяруна:

Там, дзе меў хорам бог пярунаўладны
І бог, які вятрамі злосна свішча,
Дзе коні ды валы, авечак стады
Штодзень кроў пралівалі ў папялішча,
Касцёр кладуць пад самыя аблокі,
На дваццаць сажняў доўгі і шырокі.

У цэнтры дуб стаяў, а між бярвення
Крыжацкі комтур на кані магутным
Сядзеў цяпер у поўным узбраенні
Да той дубіны ланцугом прыкуты.[210]
*(пераклад П.Бітэля)*

Акрамя гэтага абраду, які, дарэчы, быў рэдкім з’явішчам, бо, як заўважае А.Кіркор, «ліцвіны не вылучаліся крыважэрнасцю, таму

[209] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – 136.
[210] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – 132.

вядома ўсяго некалькі падобнага роду выпадкаў, апраўданых, зрэшты, лютай нянавісцю да нямецкіх рыцараў, бо толькі іх спальвалі ў гонар багоў»,[211] А.Міцкевіч паказаў шэраг другіх старажытных вераванняў літоўцаў і беларусаў – пакланенне святым дубам, вужам і некаторыя іншыя, якія вельмі арганічна дапоўнілі і ўпрыгожылі сюжэт «Гражыны».

Трэба адзначыць, што, узнаўляючы ў «Гражыне» вераванні, уяўленні і абрады сваіх продкаў, А.Міцкевіч падыходзіць да гэтага вельмі адказна, аб чым сведчаць «Гістарычныя прыпісы» аўтара напрыканцы паэмы. З «прыпісаў» вынікае, што паэт перад тым як узяцца за напісанне твора ўзброіўся багатымі ведамі па старажытнай народнай культуры свайго краю, чэрпаючы патрэбную інфармацыю з запісаў такіх вядомых гісторыкаў і храністаў, як М.Стрыйкоўскі, М.Кромер, Мацей з Мехава (М.Карпіга) і інш.

Паводле формы «Гражына» таксама з'яўляецца тыпова рамантычным творам. Карыстаючыся нібыта формамі паэзіі класіцызму, А.Міцкевіч на самой справе ламаў іх, парушаючы ўсе каноны дадзенага мастацкага кірунку. У паэму, напрыклад, уведзена вялікая колькасць алітэрацый і ўнутраных рыфмаў, характэрных для народнай паэтыкі, але не для твораў класіцызму. Наватарскай з'яўляецца і пабудова сюжэтнай лініі – яна складаецца з асобных сцэн, паміж якімі застаецца шмат недасказанага, загадкавага, таямнічага. Як заўважае І.Горскі, «такая структура не толькі павышае займальнасць фабулы, але і драматызуе апісываемыя падзеі, узмацняе тэмп іх развіцця».[212]

Трэба адзначыць моўнае багацце «Гражыны», выкарыстанне А.Міцкевічам разнастайных стылістычных сродкаў. Напрыклад, пры дапамозе ўведзеных у структуру твора шматлікіх архаізмаў паэт стварае своеасаблівы гістарычны фон, аднак, каб зрабіць маналогі герояў больш натуральнымі, аўтар не забываецца і пра жывую гутарковую мову, якой таксама шчодра аздабляе тэкст паэмы. Дарэчы, як сцвярджае С.Саветаў, некаторыя моўныя асаблівасці паэмы «Гражына», напрыклад, у фанетыцы страта ў асобных словах мяккасці перад цвёрдым зычным, узніклі пад уплывам беларускай гутарковай мовы.[213] Такім чынам, «беларускасць» ліра-эпічнай паэмы А.Міцкевіча выявілася яшчэ і на моўным узроўні.

---

[211] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 32.

[212] Горский, И.К. Адам Мицкевич / И.К. Горский. – М.: Изд-во Академии наук СССР, 1955. – С. 59.

[213] Советов, С.С. Адам Мицкевич / С.С. Советов. – Л.: Изд-во Ленингр. ун-та, 1956. – С. 58.

Падагуліўшы вышэй сказанае, можна зрабіць наступныя высновы:

– паэма А.Міцкевіча «Гражына» па сваёй форме і змесце з'яўляецца творам цалкам наватарскім, які прадвызначыў новы жанр у польскай літаратуры рамантызму – жанр паэтычнай аповесці;

– у аснову паэмы ляглі патрыятычныя ідэалы А.Міцкевіча, звязаныя з вызваленчай барацьбой беларускага, польскага і іншых народаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай супраць іншаземных захопнікаў;

– гістарызм «Гражыны» з'яўляецца своеасаблівай праекцыяй палітычнай сітуацыі, якая склалася на беларуска-польскіх землях часоў трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай;

– «Гражына» А.Міцкевіча напоўнена скрозь беларускімі рэаліямі – ад узнаўлення гістарычных падзей і старажытных язычніцкіх абрадаў да выкарыстання фальклорных вобразаў і матываў.

## ГЛАВА 5
## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ АБРАД У ДРАМАТЫЧНАЙ ПАЭМЕ АДАМА МІЦКЕВІЧА «ДЗЯДЫ»

Сярод паэтычнай спадчыны Адама Міцкевіча наўрад ці знойдзецца яшчэ адзін твор, настолькі акутаны таямнічасцю і загадкавасцю, як драматычная паэма «Дзяды». Незвычайнасцю і надзвычайнасцю ў ёй пранізаны ўсе ўзроўні мастацка-стваральнай прасторы тэксту – ад структуры сюжэтнай лініі да ідэйнага зместу і мастацкіх сродкаў.

Польскі даследчык С.Пігань прасачыў, як узнікалі паасобныя часткі віленска-ковенскіх «Дзядоў». А.Міцкевічам «спачатку быў напісаны касцяк ІІ часткі, у якім яшчэ няма маўклівага прывіду з крывавай ранай на месцы сэрца, ні пастушкі ў чорнай жалобе. Пасля з'яўляюцца фрагменты І часткі «Дзядоў», якія не публікаваліся пры жыцці паэта і ўбачылі свет толькі ў 1861 годзе. Пасля фрагментаў напісаны ўрывак «Упыр», які ў выданні 1823 года быў пастаўлены аўтарам як своеасаблівы пралог да паэмы».[214]

Як сцвярджае А.Лойка: «праца над абрадавай часткай паэмы «Дзяды» дала ў рукі А.Міцкевічу крытэрый народнасці літаратуры – рамантычны крытэрый; пад яго мерку не падыходзіў ніводзін з фрагментаў І часткі, і таму яны былі забракаваны паэтам».[215]

[214] Цыт. па: Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. Лойка. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1959. – С. 68.

[215] Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. Лойка. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1959. – С. 69.

Між тым, аўтар «Дзядоў» усё ж думаў дапрацаваць I частку. У 1824 годзе паэта высылаюць у Расію. Ён бярэ з сабой рукапіс фрагментаў, але задума так і засталася задумай.

Упершыню пра існаванне I часткі «Дзядоў» грамадскасць даведалася ад парыжскага выдаўца збору твораў А.Міцкевіча А.Ходзькі, які ў заўвагах да II тому выдання піша: «Паэма «Дзяды» ўяўляе сабой адно непарушнае цэлае. Першая яе частка, напісаная ў Коўне, знаходзіцца пакуль у рукапісе аўтара, але трохі пазней несумненна выйдзе ў свет; тады і чарговасць усіх частак паэмы будзе зменена».[216] Аднак змяніць чарговасць частак, прынятую самім аўтарам, ніхто так і не асмеліўся.

Акрамя II і IV часткі «Дзядоў», фрагментаў I часткі, паэт пакінуў у спадчыну нашчадкам яшчэ і III частку драматычнай паэмы. Яна з’явілася ўжо праз 9 год, у эміграцыі ў Дрэздане.

Такім чынам, дзякуючы беларускаму абраду А.Міцкевічу ўдаецца аб’яднаць розныя перыяды сваёй творчасці нягледзячы на змену поглядаў і эстэтычных прынцыпаў, якія адбыліся з часу напісання II і IV часткі «Дзядоў».

Беларускі памінальны абрад, складаючы аснову ідэйнай сутнасці твору, з’яўляецца таксама своеасаблівай формулай, паводле якой будуецца канцэпцыя рамантычнага героя: то ён ёсць, то яго няма, то ён рассычаецца ў свядомасці народа (II частка), то ўсю народную свядомасць акамулюе ва ўласнай душы (IV частка).

III частка драматычнай паэмы, напісаная пад уражаннем паўстання 1830 – 1831 гг. і яго паразы, вывела героя А.Міцкевіча на той узровень, калі трагедыя асобы набывае глабальны маштаб і атаясамліваецца з трагедыяй усяго народа. У гэтым выпадку паміж асобай і радзімай можна паставіць знак роўнасці.

III частка «Дзядоў» лагічна ўпісваецца ў агульны кантэкст астатніх частак, таму што ўсе яны адлюстроўваюць рэчаіснасць у святле трох галоўных катэгорый, на якіх грунтуецца ўся творчасць А.Міцкевіча: радзіма, народ, асоба. Так у II частцы паэт буйным планам паказвае радзіму праз прызму народнай душы, у IV частцы – народ праз прызму душы асобы, у III частцы паказваецца радзіма праз прызму душы асобы і асоба праз прызму душы народа.

Нягледзячы на цэласнасць усёй драматычный паэмы, некаторыя даследчыкі (З.Стэфаноўская, С.Макоўскі) не бачаць іншай сувязі паміж віленска-ковенскімі і дрэзданскай часткамі «Дзядоў», акрамя як агульнасці ў назве. Вось што, напрыклад, піша С.Ма-

[216] Цыт. па: Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1999. – T. III. – S. 472.

коўскі пра III частку драматычнай паэмы А.Міцкевіча: «Дрэзданскія «Дзяды» сталіся III часткай згодна з чарговасцю іх друку, але не дзеля змяшчэння іх паміж II і IV часткамі. З гэтымі часткамі дрэзданскія «Дзяды» не маюць нічога агульнага, а ў плане фармальным і тэматычным адрозніваюцца ад іх яшчэ больш, чым тыя часткі між сабой».[217] Іншыя даследчыкі (Э.Шыманіс), наадварот, лічаць дрэзданскія «Дзяды» галоўным аб'ядноўваючым кампанентам драматычнай паэмы, катэгарычна сцвярджаючы, што «трэцяя частка павінна знаходзіцца паміж другой і чацвёртай».[218]

На нашу думку, уся драматычная паэма ўяўляе сабой суквецце трох замкнёных манад, якія аб'ектыўна існуюць і могуць перакрыжоўвацца альбо не перакрыжоўвацца паміж сабой. Калі схематычна ўявіць будову твора А.Міцкевіча, ён будзе выглядаць як тры роўнааддаленыя адзін ад аднаго вектары, што выходзяць з адной кропкі, дзе кожны вектар – частка драматычнай паэмы, а кропка, з якой разыходзяцца вектары – мастацка-філасофскае асэнсаванне беларускага памінальнага абрада. Трэцюю, дрэзданскую частку, канешне, можна ўявіць паміж віленска-ковенскімі часткамі, але ж з такім самым поспехам ёй можна адвесці месца і згодна храналогіі напісання драматычнай паэмы. Універсальнасць сюжэтнай лініі «Дзядоў» заключаецца ў тым, што кожную з частак твору можна ўспрымаць як у супольнасці з іншымі, так і асобна ад астатніх. Магчыма з гэтай прычыны А.Міцкевіч адмовіўся ад напісання I часткі, якая прымушала бы да выключна цэласнага і строга паслядоўнага ўспрыняцця ўсіх частак драматычнай паэмы «Дзяды»; тым больш лічба «тры» арганічна ўпісваецца ў агульную канцэпцыю твора, надаючы яму дадатковую таямнічасць.

На наватарскі падыход А.Міцкевіча да праблемы сюжэта звярнула ўвагу С.Мусіенка. «Упершыню ў літаратуры, – сцвярджае даследчыца, – сюжэт прадстаўлены «расслабленым», фрагментар-

---

[217] Цыт. па: Szymanis, E. Dziady drezdecskie wobec Dzadyw wilecsko-kowiecskich / E. Szymanis // Адам Міцкевіч і сусветная культура: мат-лы міжнар. навук. канф., Гродна – Навагрудак, 12 – 17 мая 1997 г.: у 5 кн. / Мін-ства адук. Рэсп. Беларусь, Гродзен. дзярж. ун-т імя Я. Купалы, Варшаўскі ун-т, Гданьскі ун-т, Седлецкая вышэйш. пед. школа. – Варшава – Гданьск – Седльце – Гродна, 1998 – 2000. – Кн. 1. – 1999. – С. 183–184.

[218] Szymanis, E. Dziady drezdecskie wobec Dzadyw wilecsko-kowiecskich / E. Szymanis // Адам Міцкевіч і сусветная культура: матэрыялы міжнар. навук. канф., Гродна – Навагрудак, 12 – 17 мая 1997 г.: у 5 кн. / Мін-ства адук. Рэсп. Беларусь, Гродзен. дзярж. ун-т імя Я. Купалы, Варшаўскі ун-т, Гданьскі ун-т, Седлецкая вышэйш. пед. школа. – Варшава – Гданьск – Седльце – Гродна, 1998 – 2000. – Кн. 1. – 1999. – С. 190.

ным, «кадравым», асобныя элементы якога могуць існаваць як самастойныя творы».[219]

Віленска-ковенскія «Дзяды» распачынаюцца ўрыўкам «upiyr». З польскай мовы слова «upiyr» можна перакласці як здань, неяснае аблічча якой-небудзь істоты ў чым-небудзь уяўленні, альбо як вампір ці ўпыр.

Вонкава Міцкевічавы «upiyr» нагадвае больш упыра, мерцвяка, які ноччу выходзіць з магілы, каб шкодзіць людзям (смактаць кроў, душыць, ірваць на часткі і г.д.):

Вочы патухлыя, сцятыя губы,
Сэрца застыла ў грудзях, тварам белы.
Ён шчэ на свеце, ды звёў з ім рахубы.
Хто ж ён? Мярцвяк азалелы![220]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Аднак ён «не выконвае традыцыйных драпежных функцый і выходзіць з труны на свята дзядоў толькі для таго, каб паскардзіцца, пашукаць спагады. Гэта – рамантычны, лірычны герой – самотны, без прытулку, нешчаслівы пры жыцці і пасля смерці».[221]

Упыр (upiyr), такім чынам, становіцца сімвалам рамантычнай свядомасці і цэнтральным вобразам, на аснове якога грунтуецца ідэйная сутнасць драматычнай паэмы «Дзяды». Пра гэта піша сам аўтар у лісце да Я.Чачота: «Калі за недахопам даўнішніх багоў муза сябруе з д'ябламі, не дзіўна, што нараджаюцца падобныя страшыдлы <...> гэты вобраз іншым растлумачыць усё астатняе ў паэме».[222] Такую ж ролю адыгрывае здань (upiyr) у баладзе «Рамантычнасць». Аднолькавы ў герояў і матыў вяртання з таго свету, узяты паэтам з беларускага фальклору: вяртацца памерлых прымушае каханне.

---

[219] Мусіенка, С. Рух героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» / С. Мусіенка // Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 59.

[220] Міцкевіч, А. Дзяды: Паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 19.

[221] Мусіенка, С. Рух героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» / С. Мусіенка // Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 58.

[222] Цыт. па: Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. Лойка. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1959. – С. 69.

Адрозніваюцца героі тым, што Ясь – здань, і яго ніхто не бачыць, ён – у свядомасці дзяўчыны, а вось упыра, які шукае сваю каханую, бачаць многія людзі:

Кажуць да могілак блізкія людзі,
Што кожны год здань з’яўляецца тая.
Дол расхіне, атрапне свае грудзі
І між людзей зноў блукае.[223]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Непаслядоўнасць А.Міцкевіча ў адлюстраванні традыцыйнага вобраза ўпыра заўважаецца і ў радках, дзе апошні за ўчынены ім грэх самазабойства енчыць, ахоплены полымем:

Мусіць ён страшныя церпіць пакуты:
Часам гарыць у агні, стогне глуха.[224]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Згодна з уяўленнямі беларускага і іншых славянскіх народаў, пакутаваць такім чынам можа душа, але не ўпыр, што мае адно толькі мёртвае цела. Дарэчы, вобраз пакутуючай падобным чынам душы А.Міцкевіч паказаў яшчэ ў зборніку «Балады і рамансы»: душа ў баладзе «Лілеі» «iskry z gkby sypie» (сыпе з вуснаў іскры), а ў душы з балады «Люблю я» «w gkbie i w oczach ïar paia» (у роце і ў вачах жар палае).

«Upiyr» у «Дзядах» мае рысы як упыра, так і здані, прывіда. У гэтым сінтэзе выяўляецца адметнасць творчага падыходу А.Міцкевіча да фальклору: паэт не капіруе народныя вобразы і матывы, але апрацоўвае іх, выбірае і спалучае ў адно цэлае самае каштоўнае, істотнае, непаўторнае.

Праз шмат гадоў пасля выхаду «Балад і рамансаў» і віленска-ковенскіх «Дзядоў» А.Міцкевіч у парыжскіх лекцыях тлумачыў слухачам прыроду і сутнасць славянскіх упыроў (курс I, лекцыя XV): «Упыр – той, хто нараджаецца з падвойнай душой, але не ведае пра гэта аж да хвіліны, пакуль не настане пэўны, пераломны момант у яго жыцці. Тады ён пачынае адчуваць прагу знішчэння, негатыўная душа і негатыўнае сэрца бяруць над ім верх. Гэтая негатыўнасць і з’яўляецца прычынай людскіх няшчасцяў, тым болей

[223] Міцкевіч, А. Дзяды: Паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 19.
[224] Міцкевіч, А. Дзяды: Паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 20.

што ўпыр шукае падобных да сябе істот, каб супольна нішчыць чалавечы род».[225]

Калі параўнаць вобраз упыра, які паказаны ў парыжскіх лекцыях з упыром, якога А.Міцкевіч прадставіў у драматычнай паэме «Дзяды», апошні паводле сваёй сутнасці будзе адваротнапрапарцыянальны першаму. У героя «Дзядоў» перамагае пазітыўнасць душы і сэрца: ён кахае, а такое пачуццё не можа нарадзіцца ў чорным сэрцы, гэтак сама, як і чалавек з чорнай душой не будзе прасіць прабачэння за парушаны спакой:

Любая, мне б хоць пачуць твае слова:
Ты ўжо даруй за сустрэчу такую.
Толькі на міг сваім ценем нанова
Мілы твой свет патурбую.[226]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Адзінае, што аб’ядноўвае Міцкевічавага ўпыра з упыром традыцыйным – крэда, выказанае на пачатку ўрыўка «Upiyr»: «Na њwiecie jeszcze, lecz juї nie dla њwiata» (ён шчэ на свеце, ды звёў з ім рахубы). У гэтых радках паэт увасобіў адзін з галоўных прынцыпаў рамантызму, прынцып двух светаў – ідэальнага і рэальнага, таму вобраз упыра становіцца ўвасабленнем рамантычнай паэзіі А.Міцкевіча. Прыгадаем, што яшчэ ў баладзе «Рамантычнасць» вобраз упыра, альбо здані ўвасабляе сабой не толькі народную свядомасць, на якую арыентуецца рамантызм А.Міцкевіча, але больш таго – рамантычную свядомасць паэта, якая спалучае ўласна аўтарскі і народны светапогляды. Нездарма ў апошніх радках маніфесту ў першай яго рэдакцыі на месцы «жывой праўды» паўстае вобраз упыра.

Акрамя Упыра, які сваёй экзістэнцыяй аб’ядноўвае два светы, рэальны і ідэальны, у драматычнай паэме з’яўляецца яшчэ адна таямнічая постаць, што злучае два светы і непасрэдна звязана з беларускім памінальным абрадам. Гэта постаць Гусляра.

Першапачаткова ў II частцы «Дзядоў» у ролі пасрэдніка паміж нашым і іншым светам выступае ксёндз. Спасылаючыся на этнаграфічныя крыніцы, С.Пігань сцвярджае, што гэты вобраз быў невыпадкова ўведзены А.Міцкевічам, – на Беларусі ў часы паэта ва ўшанаванні народнага свята дзядоў сапраўды прымалі ўдзел пра-

---

[225] Adam Mickiewicz. Encyklopedia / J. M. Rymkiewicz, D. Siwicka, A. Witkowska, M. Zielicska. – Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 2001. – S. 180.

[226] Міцкевіч, А. Дзяды: Паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 22.

васлаўныя альбо ўніяцкія святары, якія скроплівалі свянцонай вадой магілы і чыталі малітвы за памерлых.[227]

Разам з вобразам ксяндза А.Міцкевіч «свядома ўвёў у абрад дзядоў заўважальную ўжо, на першы погляд, вялікую колькасць хрысціянскіх паняццяў, вераванняў і ўяўленняў, таму, карыстаючыся сённяшняй тэрміналогіяй, – як даводзіць С.Быліна, – можна сцвярджаць, што паэт у вераваннях заўважаў з'яву сінкрэтызму, асабліва характэрную для народных культур».[228] Пра гэта піша і сам аўтар у прадмове да віленска-ковенскіх «Дзядоў»: «Нашы дзяды – нешта асаблівае, бо язычніцкія абрады тут перамяшаліся з уяўленнямі хрысціянскай рэлігіі».[229]

Аднак пад час апошняга рэдагавання твору А.Міцкевіч замяняе ксяндза Гусляром, адкідае малітву «Анёл Панскі», якую ў першым варыянце ксёндз чытае разам з грамадой і, даўшы волю ўласнай фантазіі, аздабляе народны абрад рознымі магічнымі сцэнкамі, накшталт спальвання кудзелі, гарэлкі і г.д. На ўвядзенне падобных паправак магла паўплываць размова А.Міцкевіча з выкладчыкам Віленскага універсітэта Л.Бароўскім, які пазнаёміўся з першай версіяй II часткі твору і хутчэй за ўсё параіў аўтару «Дзядоў» «адлюстраваць у большай ступені этнаграфічную арыгінальнасць, г.зн. язычніцтва абраду».[230]

Замяніць аднаго героя другім А.Міцкевіч мог таксама і з увагі на цэнзуру. «фанаты не дазволяць надрукаваць «Дзяды», – пісаў у лісце да філамата Ф.Малеўскага сябар паэта Я.Чачот, – таму што ў іх прысутнічае ксёндз і фрагменты малітвы».[231]

Усё гэта, безумоўна, унясло свае пэўныя карэктывы, але, на нашу думку, не стала вырашальным фактарам пры замене героя. Змяніўшы канцэпцыю драматычнай паэмы, паэт проста вымушаны быў знайсці на месца Ксяндза вобраз больш глыбокі, больш таямнічы, больш народны.

Увёўшы ў твор вобраз Гусляра, А.Міцкевіч у прадмове да «Дзядоў» спрабуе вытлумачыць яго этымалогію і сувязь са старажытным абрадам: «Гэтая ўрачыстасць сваімі каранямі сягае часоў па-

---

[227] Pigoc, S. Formowanie Dziadyw czkњsi drugiej: Rekonstrukcja genetyczna / S. Pigoc. – Warszawa: Pacstwowe Wydawnictwo Naukowe, 1967. – S. 20–23.

[228] Быліна, С. «Дзяды» Адама Міцкевіча і балта-славянскія вераванні / С. Быліна // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 75–76.

[229] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1999. – T. III. – S. 13.

[230] Adam Mickiewicz. Encyklopedia / J. M. Rymkiewicz, D. Siwicka, A. Witkowska, M. Zielicska. – Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 2001. – S. 182.

[231] Adam Mickiewicz. Encyklopedia / J. M. Rymkiewicz, D. Siwicka, A. Witkowska, M. Zielicska. – Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 2001. – S. 182.

ганства, некалі яе называлі частаваннем казла і на ёй верхаводзіў Казляр, Гусляр, Гусляж, у адначассі святар і паэт».[232] Акрамя таго аўтар звяртае ўвагу на бытаванне культу памерлых сярод культур іншых язычніцкіх народаў, прычым у самыя розныя эпохі: «У старажытнай Грэцыі часоў Гамера, у Скандынавіі, на Ўсходзе і да гэтай пары на выспах Новага Свету».[233] Гэтым самым А.Міцкевіч падкрэслівае універсальнасць і адначасова унікальнасць беларускай культуры, з якой фактычна паўстала драматычная паэма «Дзяды».

Што тычыцца «частавання казла», то адгалоскі такой урачыстасці дайшлі да часоў А.Міцкевіча, пра што згадваецца ў этнаграфічных запісах А.Кіркора: «У старой царкве св. Пятра, якая знаходзіцца ў сямі вёрстах ад мястэчка Докшыц, у Дзісненскім уездзе, 29 чэрвеня збіралася шмат народу з навакольных вёсак, каб спраўляць свайго роду памінкі. Хто быў больш-менш заможным, прыводзіў казу, якую ўрачыста закалывалі, смажылі і з’ядалі на магілах родных і блізкіх».[234]

Гаворачы пра паходжанне абраду дзядоў, А.Міцкевічу ўдалося закрануць самы глыбінны пласт беларускай культуры – яе міфалогію, зрабіць устаноўку на сур’ёзнае стаўленне да твору, нягледзячы на той факт, што знешне ён можа нагадваць чарадзейную казку. Больш таго, гэтым паэт акрэслівае кола сваіх чытачоў, арыентуючыся ў першую чаргу на чытача-інтэлектуала, што адчуваецца па меры прачытання ўсіх частак драматычнай паэмы.

Атрымоўваецца, што аўтар, уводзячы чытача ў свет драматычнай паэмы, знаёмячы з пэўнымі рэаліямі, адначасова адсылае яго далёка за мяжы твору, скіроўвае думку кожнага ў глыбіню ўласнай падсвядомасці, асабістых сімвалаў і асацыяцый. Так, напрыклад, цяжка здагадацца, чаму сярод цэлага рада найменняў, прыгаданых А.Міцкевічам (koųlarz, huslar, guњlarz, gкњlarz) перавага аддаецца слову «guњlarz» і чаму менавіта яно становіцца іменем аднаго з галоўных герояў?

«Народ не ведаў слова «guњlarz», – сцвярджае Р.Пшыбыльскі, – А.Міцкевіч узяў яго хутчэй за ўсё са слоўніка С.Б.Ліндэ, дзе яно азначае чараўніка, знахара і чарнакніжніка».[235] Далей, развіваючы

---

[232] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1999. – T. III. – S. 13.

[233] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1999. – T. III. – S. 13.

[234] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 42.

[235] Przybylski, R. Siowo i milczenie bohatera polakyw / R. Przybylski. – Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 1993. – S. 19.

думку, польскі даследчык звяртае ўвагу на сугучнасць «невядомага народу слова» з словамі вядомымі – «gkњlarz» (гусляр) і «koųlarz» (казляр) – і прыходзіць да высновы, што прычынай выбара паэтам варыянта «guњlarz» стала гукавое падабенства паміж усімі гэтымі словамі. Інакш кажучы, слова «guњlarz», паводле Р.Пшыбыльскага, з’яўляецца найбольш прадуктыўным у асацыятыўным плане, таму і было выкарыстана А.Міцкевічам.

На нашу думку, тут усё значна прасцей. Хутчэй за ўсё міцкевічаўскі «guњlarz» – спаланізаванае беларускае слова «гусляр». Пра ўплыў беларускай мовы сведчыць і этымалогія самога вобраза героя. Заўважым, што на Беларусі, паводле слоўнікаў XVI – XVII стст. (Л.Зізаній, П.Бярында), «гуслямі» называлі розныя струнныя інструменты, у тым ліку і ліру – галоўны атрыбут беларускіх старцаўлірнікаў, якіх народ лічыў своеасаблівымі пасрэднікамі паміж Богам і людзьмі, і без якіх рэдка абыходзілася якое-небудзь народнае свята, тым больш такая важная імпрэза, як ушанаванне памяці памерлых продкаў. Гэта адлюстраваў у сваіх «Матэрыялах» і П.Шэйн: «без іх не абыходзіцца ні адзін памінальны дзень; паводле ўяўленняў беларусаў, тое, што яны дадуць старцу, на тым свеце вернецца альбо ім, альбо іхнім сваякам. Акрамя таго на свята Дзяды старцы памінаюць нябожчыкаў. Становіцца такі старац перад іконамі, гаспадар ці гаспадыня падказваюць яму імёны памерлых сваякоў, і ён памінае іх <...>, а на заканчэнне прамаўляе агульную памінальную малітву <...>. Спявалі яны пад акампанемент ліры».[236]

Да вобраза Гусляра, які паўстаў у «Дзядах», А.Міцкевіч падыходзіў паступова. Упершыню зацікаўленасць паэта беларускім памінальным абрадам адлюстравалася ў ягоным рамансе «Курганок Марылі». Чужы чалавек, што з’яўляецца пад час аплаквання памерлай Марылі яе сяброўкай, каханым і маці, нясе ў сабе абагульненыя рысы вандроўнага старца, якога запрашалі на хаўтуры.

У рамансе «Дудар» герой А.Міцкевіча мае ўжо канкрэтныя рысы, характэрныя беларускаму старцу: перш за ўсё гэта – ліра; яго запрашаюць на народнае свята – дасеўкі; Дудар выступае пасрэднікам між жывымі і памерлымі (памерлым ад кахання юнаком і пастушкай).

Вобраз старца прысутнічае і ў баладзе «Лілеі». Аднак у адрозненні ад аналагічных герояў з вершаў «Курганок Марылі» і «Дудар», гэты старац надзяляецца яшчэ і звышнатуральнай сілай – ён можа прадбачыць будучыню і нават уваскрашаць мёртвых:

---

[236] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 562–564.

Я волю неба знаю,
Табе я абвяшчаю:
Хоць муж твой мёртвы спіць,
Магу я ўваскрасіць.[237]

*(Пераклад М.Танка)*

Заўважым, што Гусляр валодае такімі ж якасцямі – умее выклікаць душы і прадбачыць будучыню. Так, звяртаючыся да душы памерлай дзяўчыны, ён гаворыць падобныя словы, як і старац у баладзе «Лілеі», сцвярджаючы, што ягоны зрок здольны чытаць волю нябёсаў:

Ты ж не плач, краса-дзяўчына!
Мне скрозь воблачкі густыя
Бачна новая карціна.[238]

*(Пераклад К.Цвіркі)*

Гусляр такім чынам стаў вобразам зборным, ён увабраў у сябе рысы і Чужога чалавека і Дудара і Старца з балады «Лілеі».

Як і Чужы чалавек з верша «Курганок Марылі», Гусляр становіцца сведкам чужых крыўдаў і пакутаў. Толькі ў першым выпадку на свой лёс скардзяцца па чарзе жывыя людзі, а ў другім – скаргі ідуць ад душаў памерлых. Разам з тым у абодвух выпадках прычына скаргаў крыецца ў супрацьлеглым свеце: сяброўка, каханак і маці ў «Курганку Марылі» пакутуюць ад таго, што ў іншы свет адыйшла Марыля; душы дзяцей, злога пана і ганарлівай дзяўчыны ў «Дзядах» вяртаюцца для скаргі з таго свету, таму што жыццё іхняе не адпавядала агульнапрынятым у народзе маральным і этычным нормам.

Так як і Дудар з аднайменнага раманса, Гусляр згуртоўвае вакол сябе грамаду простых людзей, становіцца выразнікам іхніх думак, пачуццяў і ўяўленняў. Акрамя таго з раманса «Дудар» у драматычную паэму «Дзяды» перавандраваў вобраз пастушкі, які ў абодвух выпадках стаў сімвалам нешчаслівага кахання. Асаблівую ўвагу аўтар звяртае на дзіўнае захаванне гэтай гераіні, што відаць пры супастаўленні адпаведных урыўкаў двух твораў.

[237] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 69.
[238] Міцкевіч, А. Дзяды: Паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 42.

У вершы «Дудар»:

Стаіць пастушка, пляце вяночак, –
Спляце і зноў расплятае.
А побач – юнак, глядзіць ёй у вочы
І кветкі з ручак прымае.

На твары нібыта спакой і спагада,
Ды долу кіруецца зрокам.
Ні смутак на сэрцы ў яе і ні радасць,
А одуму омут глыбокі.
*(Пераклад А.Брусевіча)*

У паэме «Дзяды»:

Надзвычайна! Надзвычайна!
Што, пастушка, тут за тайна?
Знаеш гэтую асобу?
Носіш ты па ім жалобу?
Муж, сям'я твая здарова?
Што ж не кажаш ты ні слова?
Адзавіся ж! Ты жывая?
Што з табою, дарагая?[239]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Вобраз пастушкі, акрамя нешчаслівага кахання (у абстрактным разуменні), сімвалізуе яшчэ і рэальны свет (каханне А.Міцкевіча да Марылі Верашчак), які, зрэшты, не можа быць шчаслівым, згодна з рамантычным прынцыпам двух супрацьлеглых светаў. Гусляр, так як і Дудар, наладжвае сувязь паміж светам рэальным, увасобленым у грамадзе (у пастушцы), і светам ідэальным, іншым светам, увасобленым у душах, што злятаюцца на дзяды (у душы нешчаслівага каханка).

Галоўнае падабенства Гусляра і Старца з балады «Лілеі» – звышнатуральная моц, якая дазваляе кантактаваць з душамі нябожчыкаў. Толькі паводле гэтай асаблівасці Гусляр (Guślarz) можа атаясамлівацца з чараўніком ці з чарнакніжнікам. Але ў такім выпадку ўзнікае парадокс: чараўнікі і чарнакніжнікі ў народным уяўленні з'яўляюцца асобамі выключна адмоўнымі, беларусы іх баяліся і ніколі не ішлі з імі ні на якія кантакты, бо гэта лічылася вялікім

[239] Міцкевіч, А. Дзяды: паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 47.

грахом, Гусляр жа – герой цалкам станоўчы, ён гуртуе вакол сябе людзей, каб разам з імі ўшанаваць памяць памерлых і дапамагчы па меры магчымасці пакутным душам. Форма звароту да душаў, як і сам вобраз Гусляра, таксама была ўзята А.Міцкевічам з беларускага абраду дзядоў, што яскрава відаць на прыкладзе супастаўлення літаратурнага і фальклорнага тэкстаў.

У драматычнай паэме «Дзяды»:

Адусюль сюды імчэце:
Вас мы ўсіх як ёсць чакаем.
З намі сядзьце, пагасцеце –
Сёння ж мы Дзяды спраўляем!
Вас сустрэць мы ўсе гатовы:
Ёсць пітво, ёсць пачастункі,
Сэрцаў шчодрыя дарункі,
А яшчэ – малітваў словы.[240]

*(Пераклад К.Цвіркі)*

У беларускім фальклоры:

Святыя дзяды, завём вас,
Святыя дзяды, ідзіце да нас!
Ёсць тут усё, што Бог даў,
Што я для вас ахвяраваў,
Чым толькі хата багата.
Святыя дзяды, просім вас,
Хадзіце, ляціце да нас![241]

Галоўнай адзнакай станоўчасці асобы Гусляра, яго несупастаўляльнасці з чараўніком ці чарнакніжнікам, з’яўляецца заўважальная колькасць хрысціянскіх паняццяў і ўяўленняў, якімі А.Міцкевіч аздобіў гэты вобраз, – звяртаючыся да пакутных душаў альбо да грамады сялян, Гусляр неаднаразова згадвае Бога, Святую Троіцу, Панскі крыж.

Пры параўнанні Гусляра з падобнымі героямі «Балад і рамансаў», становіцца відавочным, што прататыпамі іх з’яўляюцца, несумненна, вандроўныя старцы, якія рэдка, але ўсё ж сустракаліся ў

[240] Міцкевіч, А. Дзяды: Паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 25.

[241] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1887. – Т.1. – С. 596.

часы А.Міцкевіча. Акрамя таго паэт, зрабіўшы постаць Гусляра сапраўды універсальнай, уводзіць у твор дадаткова яшчэ і Старца, які дапамагае Гусляру праводзіць абрад. Старац сам па сабе ў «Дзядах» не адыгрывае значнай ролі, але яго прысутнасць надае Гусляру больш каларыту, насычанасці і магутнасці. Старац у драматычнай паэме з'яўляецца зусім іншай разнавіднасцю фальклорнага героя. Паколькі ад рэальных вандроўных старцаў паходзіць вобраз Гусляра, то Старац можа быць толькі самым старэйшым сярод грамады сялян (прыгадаем, што на ўсіх народных імпрэзах, у тым ліку і на дзяды, рэй вёў гаспадар хаты альбо старэйшы ў сям'і мужчына).

У ІІ частцы «Дзядоў» вобраз Гусляра з'яўляецца цэнтральным: вакол яго аб'ядноўваюцца іншыя героі – сяляне, што ўдзельнічаюць у таемным абрадзе, і духі, для якіх гэты абрад ахвяруецца. У агульным жа кантэксце драматычнай паэмы (у ІХ сцэне ІІІ часткі твору зноў з'яўляецца постаць Гусляра) герой А.Міцкевіча мае яшчэ і сімвалічнае значэнне, увасабляючы сабой душу беларускага народа, яго спрадвечную мудрасць.

У «Дзядах» вельмі гарманічна спалучаюцца хрысціянства і язычніцтва. Гэтаксама гарманічна спалучае ў сабе хрысціянскі і язычніцкі светапогляды беларуская народная культура. Няма ніводнага хрысціянскага свята, на якое не паўплывала б старажытная язычніцкая свядомасць народа. І наадварот – у многіх старажытных песнях, казках, замовах і народных абрадах адчуваецца яўны ўплыў хрысціянскіх уяўленняў. Аналагічны сінтэз назіраецца ў дзядах, беларускім памінальным абрадзе, які лёг у аснову аднайменнай драматычнай паэмы А.Міцкевіча.

Даследуючы сляды язычніцтва ў беларускай народнай культуры, А.Кіркор прасачыў цэлы год жыцця беларуса ў яго святах, звычаях і абрадах. Апісваючы абрад ушанавання памяці продкаў, даследчык звяртае ўвагу на яго выключную значнасць у свядомасці беларускага народа: «На Беларусі ў многіх месцах Радуніца і Дзяды святкуюцца вельмі ўрачыста <...> Сяляне звычайна выбіраюць пустыр на могілках ці каля іх, калі ёсць такая магчымасць, збіраюцца на руінах царквы ці ў паўзруйнаваным будынку, ставяць там featнага гатунку стравы і абавязкова вараныя яйкі або яешню з салам, а таксама гарэлку, і выклікаюць нябожчыкаў – сваякоў і сяброў, ніколькі не сумняваючыся, што цені аб'яўляюцца і прысутнічаюць сярод іх, што душы сілкуюцца, а расстаўленая ежа ім смакуе. Такое выкліканне нябожчыкаў адбываецца амаль заўсёды ноччу <...>. Памінкі спраўляюць і дома. Кожная сям'я пячэ маленькія бліны <...>. Гаспадар хаты па чарзе называючы імёны ўсіх сваіх

памерлых сваякоў, кідае бліны пад стол. Падчас гэтага абраду ўсе прысутныя захоўваюць багавейлівае маўчанне».[242]

Параўнаўшы этнаграфічныя запісы з творам А.Міцкевіча, можна смела сцвярджаць, што паэт у многім наследуе і захоўвае аўтэнтычнасць беларускага народнага абраду. Так, дзеянне ў II частцы драматычнай паэмы таксама адбываецца ноччу, у капліцы, дзе прысутнічае разнастайная ежа і гарэлка. Нават частаванне душаў праходзіць па ўсіх правілах беларускай нацыянальнай традыцыі памінання памерлых продкаў:

Душы ўсе – старыя, дзеці –
За бяседны стол хадзеце!
Жмені маку, сачавіцы
Сыплю ў кожны кут капліцы.[243]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Месцам таемнага дзейства, апісанага ў «Дзядах», як устанавіў даследчык творчасці А.Міцкевіча, Л.Падгурскі-Аколаў, магла быць пакінутая капліца, што знаходзілася на могілках у Цырыне, мястэчку, якое паэт неаднаразова наведваў у часы свайго юнацтва.[244]

Захоўвае А.Міцкевіч і народную форму адпраўлення душаў, што адыграла важную ролю пры стварэнні вобраза Гусляра і агульнай карціны беларускага памінальнага абрада:

Ну, а хто нас не паслухаў,
У імя Святога Духа –
Бачыце во гэты крыж?
Раз не трэба солі-хлеба,
Дык ляцеце зноў на неба!
Акыш, акыш![245]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Словамі «акыш! акыш!» завяршаўся і беларускі абрад ушанавання памяці памерлых продкаў. Пасля памінальнай вячэры сям’я ўставала з-за стала і развітвалася з душамі:

---

[242] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 258.

[243] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 43.

[244] Podhorski-Okoiyw, L. Realia Mickiewiczowskie / L. Podhorski-Okoiyw. – Warszawa: Oficyna wydawnicza RYTM, 1999. – S. 158.

[245] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 29.

Святыя дзяды! Вы сюды прыляцелі,
Пілі і елі.
Ляціце ж цяпер да сябе!
Скажыце, чаго яшчэ вам трэба?
А лепей, ляціце да неба!
Акыш, акыш![246]

Прынцып сусветнай гармоніі, на якім грунтуецца беларускі памінальны абрад, узнаўляецца А.Міцкевічам у тым выглядзе, у якім ён захаваўся ў глыбінях народнай свядомасці: «Дзяды – дзень, калі нашчадак не толькі асэнсоўваў пражыты год, але і задумваўся над сэнсам свайго асабістага жыцця на аснове ўспамінаў аб добрых прыкладах сваіх продкаў».[247] Дзеля абсалютнай дакладнасці ў адлюстраванні гэтага прынцыпу, аўтар уводзіць у драматычную паэму шэраг іншых фальклорных вобразаў і матываў, якія моцна ўзбагачаюць сам твор, а таксама падкрэсліваюць цэласнасць і ўзаемаабумоўленасць розных узроўняў беларускай народнай культуры. Так, напрыклад, згодна з народнымі ўяўленнямі аб пакуце на тым свеце малююцца А.Міцкевічам чысцовыя душы, якіх Гусляр запрашае на дзяды:

Гэй, чысцовыя ўсе душы!
У вадзе вы ці на сушы,
Хай з вас кожная – ці тая,
Што ў смале густой палае,
Ці што, ўшчэмленая ў дровы,
На агні пішчыць у печы
(Ёй прысуд такі суровы),
Ці што ў багне, у макрэчы –
Адусюль сюды імчэце.[248]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

У беларускім фальклоры ёсць вялікая колькасць міфічных казак і паданняў, у якіх гаворыцца пра разнастайныя пакуты, што чакаюць грэшных людзей на тым свеце. Самая ж страшная і найбольш распаўсюджаная сярод іх – гэта «кіпець у смаляных рэках і азёрах».[249]

---

[246] Карскі, Я. Беларусы / Я. Карскі. – Мінск: Бел. кнігазбор, 2001. – С. 414.
[247] Ліцвінка, В. Святы і абрады беларусаў / В. Ліцвінка. – Мінск: Беларусь, 1998. – С. 155.
[248] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 25.
[249] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т.2. – С. 384.

З часоў глыбокай старажытнасці паходзіць вера беларусаў у тое, што грэшная душа пасля смерці можа пакутаваць не толькі ў пекле, але і на зямлі. Гэта адзначае ў сваім этнаграфічным нарысе А.Багдановіч: «Пасля смерці чалавека душа яго не адразу пераходзіць у іншы свет. Сорак дзён яна яшчэ застаецца ў родным сяле <...>. Пасля гэтага тэрміну яна альбо адпраўляецца на той свет <...>, альбо застаецца тут, на зямлі, адбываць пакуту: селіцца ў дрэве (такое дрэва рыпіць), у жывёле і нават у чалавеку».[250] Так што не выпадкова пакутныя душы ў драматычнай паэме А.Міцкевіча знаходзяцца «у багне, у макрэчы «, а таксама «ушчэмленыя ў дровы, на агні пішчаць у печы». Дарэчы, такі від пакуты, як «затачэнне ў дрэве», паэт адлюстраваў яшчэ ў баладзе «Свіцязянка», герой якой, няверны каханак, за сваю здраду на тысячу гадоў быў закляты ў дрэва. Такі самы матыў прысутнічае і ў IV частцы «Дзядоў» – там пакутная душа заточана ў драўляны канторак, з якога даносіцца голас просьбы аб малітве.

Яшчэ да выхаду ў свет двухтомніка «Паэзіі» А.Міцкевіча ў 1817 г. даследчыца перажыткаў славянскай міфалогіі ў народнай культуры беларусаў М.Чарноўска заўважыла, што «імя народнай мудрасці – сіметрыя».[251] Беларусы верылі, што чалавек на працягу жыцця ў роўнай ступені мусіць паспытаць і шчасця, і няшчасця, таму рэдка скардзіліся на свой лёс: «тых, хто аддаваўся ў рукі лёсу, пасля смерці чакала ўзнагарода, а тых, хто асмеліваўся ісці яму насуперак – пакаранне».[252]

Віна і пакаранне ў драматычнай паэме А.Міцкевіча суадносяцца якраз згодна з гэтым народным прынцыпам разумення рэчаіснасці. Так, напрыклад, не могуць трапіць на неба душы дзяцей, таму што пры жыцці яны не зведалі нават мізэрнай долі няшчасця:

Кожны з нас хай памятае
Словы Божага наказу:
Хто бяды не меў ні разу,
Той і шчасця не спазнае.[253]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

---

[250] Багдановіч, А. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў. Этнаграф. нарыс: рэпрынт. выд. 1895 г. / А. Багдановіч. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 51.

[251] Цыт. па: Przybylski, R. Siowo i milczenie bohatera polakyw / R. Przybylski. – Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 1993. – S. 15.

[252] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 31.

[253] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 28.

Не можа трапіць на неба і душа Зосі, якая пагарджала зямным жыццём і каханнем, супраціўляючыся адвечнаму лёсу і прызначэнню кожнай жанчыны – выйсці замуж і нарадзіць дзіця. Народная мараль строга асуджае падобныя паводзіны, таму пасля смерці такіх жанчын чакаюць страшныя пакуты: «Гэтыя кабеты мук парадзіхі не зналі <...>, тут яны вужак кормяць, вужы іх кроў смокчуць».[254]

А.Міцкевіч, ідучы ўслед за народнай мараллю, таксама асуджае халоднасць сваёй гераіні, але не карае яе так сурова, як гэта робіцца ў народных казках. Душа Зосі, перш чым трапіць у рай, павінна два гады разам з ветрам лятаць паміж небам і зямлёй:

Мусіш ты адна над намі
Палятаць год-два з вятрамі,
І – за райскім ты парогам!
Дык ляці ж, красуня, з Богам![255]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Вобраз Зосі, як і многія іншыя вобразы і матывы драматычнай паэмы «Дзяды», А.Міцкевіч перанёс з першага тома паэзіі. За той самы грэх, адмаўленне кахання, пакутуе гераіня балады «Люблю я». Праўда, сама пакута і яе тэрмін вельмі розняцца: Марыля, у адрозненні ад Зосі, не ведае, калі скончыцца яе пакута, таму што тэрмін яе пакарання залежыў ад словаў «Я гэта люблю», якія мусілі прагучаць з вуснаў мужчыны ў адказ на «страхі і дзівы».

Па-рознаму малюе А.Міцкевіч і вонкавы партрэт сваіх гераіняў (адно іх толькі аб'ядноўвае – гэта наяўнасць белых шатаў і вянка на галаве). Вобраз Марылі з балады «Люблю я», намаляваны змрочнымі фарбамі, больш адпавядае народным уяўленням аб пакутнай душы:

Толькі я скончыў, як дзеўчына ў белым
З хваляў плыве серабрыстых,
З мёртвым абліччам яна, скамянелым,
Скроні ў праменнях агністых.[256]
*(Пераклад А.Зарыцкага)*

А вось душа Зосі, падобна як Свіцязянка з аднайменнай балады А.Міцкевіча, нагадвае хутчэй рамантычную гераіню:

---

[254] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 383.

[255] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 42.

[256] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 49.

Так, яна у белай шаце.
Твар ёй ветрык авявае.
На губах – усмешка ў Маці.
Ды ў вачах... слязу хавае.[257]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Увёўшы ў драматычную паэму вобраз злога пана, А.Міцкевіч вырашыў адразу некалькі задачаў: «у гэты спосаб народнасць «Дзядоў» не толькі інспіравалася фальклорам, не толькі зрабіла сялян героямі твора, але перш за ўсё стала ў абарону народа – людзей пакрыўджаных і прыгнечаных».[258]

Упершыню сацыяльны матыў быў уведзены паэтам у баладзе «Рыбка». За знявагу жанчыны і вераломства Бог карае пана, замяняючы яго і ягоную жонку ў камяні. У «Дзядах» гэты ж матыў набывае зусім іншы характар – тут за крыўду і здзек карае не Бог, а самі сяляне, душы якіх, увасобленыя ў начных птушках, дзяўбуць злога пана. Народ, які ў «Баладах і рамансах» яшчэ даволі пасіўны, у драматычнай паэме актывізуецца. Ён ужо не толькі адчувае, але і ўсведамляе, што праўда на ягоным баку. Гэта гаворыць пра тое, як мяняюцца погляды А.Міцкевіча, як мацнее яго грамадзянская пазіцыя.

Характар сацыяльнага матыву ў баладзе «Рыбка» і ў драматычнай паэме «Дзяды» адрозніваецца таксама сваім паходжаннем. Калі ў першым выпадку паэт бярэ матыў з фальклору, то ў «Дзядах» матыў паходзіць з рэальнага жыцця беларускіх сялян. У аснову вобраза злога пана лягла рэальная постаць уладальніка мястэчка Цырын, ваяводы Ю.Несялоўскага,[259] а таксама тыя ўяўленні пра пакуту, што павінна была напаткаць пасля смерці жорсткага прыгонніка (у ваколіцах Навагрудка хадзілі чуткі, быццам бы памерлага ваяводу даймалі духі пакрыўджаных ім людзей).

Рве, дзяўбе ўсё цела птаства.
Хто ж мне будзе абаронцам
У мучэнні тым бясконцым?[260]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

---

[257] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 38.

[258] Witkowska, A. Romantyzm / A. Witkowska, R. Przybylski. – Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 1997. – S. 253.

[259] Podhorski-Okoiyw, L. Realia Mickiewiczowskie / L. Podhorski-Okoiyw. – Warszawa: Oficyna wydawnicza RYTM, 1999. – S. 159.

[260] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 32.

Такое пытанне задае злы пан. Але ніхто не ў стане спыніць яго пакуты, таму што, як ужо было заўважана, імя народнай мудрасці – сіметрыя:

Будзе ў муках біцца век за векам –
Справядліва твая воля, Божа:
Хто не быў ніколі чалавекам,
Чалавек таму не дапаможа.[261]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

У беларускіх казках і паданнях можна знайсці не адзін прыклад, калі ў пекле злачынцы церпяць тыя ж пакуты, што яны самі прычынялі іншым пры жыцці. Возьмем для прыкладу казку «Марка Пякельны», герой якой пытаецца ў свайго хроснага бацькі, Бога: «Да слупоў людзі прывязаны, а перад імі стаяць сталы з ежай. Людзі рвуцца да яе, відаць, галодныя, ды дастаць не могуць. І жар іх пячэ, і сцюжа марозіць. Чым заслужылі яны такую пакуту?» Бог на гэта кажа: «Тыя людзі жаласці не зналі, самі салодка елі, мёдам, гарэлкай запівалі, хораша хадзілі, смачна спалі, ні холаду, ні голаду не зналі, а бедных, гаротных не прымалі, на ноч не пусклі, убогіх не дарылі, галодных не кармілі, вадой смагу прагнаць шкадавалі. Цяпер няхай паспытаюць, як лёгка галадаць, халадаць, бачыць вокам і не ўзяць рукамі».[262]

Злы пан у драматычнай паэме А.Міцкевіча таксама адбывае пакуту, прапарцыянальную сваім учынкам у часы жыцця. Ён пакараны за тое, што здзекваўся над беднымі (загадаў збіць галоднага чалавека за пару яблыкаў, выгнаў на мароз убогую жанчыну з малым дзіцём і тыя замерзлі насмерць). На тым свеце пан сам пакутуе ад голаду, сузіраючы свае ўладанні, якія болей не належаць яму, душы ж сялян, якіх ён некалі ганяў і збіваў, цяпер гоняць паўсюль яго, шарпаючы на кавалкі:

Лепш – у пекла, лепш пазнацца
З ім, пайсці яго кругамі,
Чым з нячыстымі бадзяцца
Тут бясконцымі вякамі,
Бачыць след былых уцехаў,

[261] Міцкевіч, А. Дзяды: Паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 36.

[262] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 383–384.

Чуць сваіх злачынстваў рэха,
Ад усходу да заходу,
Ад заходу і да ўсходу
Выць ад голаду й быць паствай
Для раз'юшанага птаства!..[263]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Злы пан адбывае пакуту не ў пекле, а на зямлі, якраз у тым месцы, дзе ён сваімі ўчынкамі заслужыў на пакаранне. Гэтым ён падобны на гераіню балады «Люблю я». Знешні выгляд прывіда пана, як і здань Марылі, падаецца А.Міцкевічам згодна з народнымі ўяўленнямі пра пакутныя душы, апанаваныя злымі духамі:

Валасы – тырчком. Страхоцце!
Дым, агонь-маланка ў роце!
А глядзеце, як іскрыцца
Галава яго! Як быццам
Сноп гарыць сухі цярновы
З трэскам там ці сук яловы![264]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Беларускае сялянства і шляхта любілі распавядаць і слухаць так званыя «страхі». Пад гэтай назвай у многіх месцах Беларусі бытавалі апавяданні пра сустрэчы з нячыстай сілай, духамі і мерцвякамі.[265] Агонь і дым, які шугае з вуснаў альбо з вачэй, іскры, маланкі і падобнае – абавязковыя атрыбуты нячыстай сілы ва ўсіх «страхах». Вось як малюе Страха народная фантазія: «Высунулася з-за дрэва нешта чорнае, высокае, касматае, падобнае на слуп – ні галавы, нічога не відаць, толькі відаць вочы, як два вугалькі. Гэты Страх падыйшоў да дрэва, стаў і глядзіць на чалавека. Вочы маланкай блішчаць».[266]

Падабенства Міцкевічавага персанажа з фальклорным відавочнае, таму няма сумневу, што, ствараючы вобраз злога пана, а таксама іншыя вобразы грэшнікаў, паэт карыстаўся беларускімі казкамі і паданнямі, якімі ён захапляўся з маленства.

---

[263] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 32–33.
[264] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 31.
[265] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 154.
[266] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 156–157.

З беларускай міфалогіі (міф пра Пяруна і Чарнабога) паходзяць вобразы драпежных птушак, якія ўвесь час сцігуюць прывід пана. «Духі, падуладныя Пяруну, носяцца па палях і лясах на руплівых конях з хуткасцю стралы; супраціўнікі ж іх, г.зн. цёмныя сілы Чарнабога ў вобліку драпежных птушак, утвараюць вятры і буру»,[267] – гаворыцца ў паданні.

Сляды старажытнай веры ў Пяруна, Чарнабога і духаў, што суправаджаюць гэтыя боствы, захаваліся ў беларускіх народных казках і напэўна ўжо праз іх уплывалі на творчасць А.Міцкевіча, у прыватнасці на «Дзяды». Так, напрыклад, матыў перамянення душаў у птушак сустракаецца ў беларускай чарадзейнай казцы «Сірата Іван, дзявіца-чараўніца і поп»,[268] і паэт з яе, альбо з іншай падобнай казкі, мог узяць задуму «хора начных птушак».

Хор птушак складаецца з груганоў, соваў і пугачоў. Такі выбар А.Міцкевіч зрабіў не выпадкова – з гэтымі птушкамі ў народнай свядомасці ўзнікалі найбольш змрочныя асацыяцыі, што адбілася ў прымхах і забабонах беларусаў. Напрыклад, дрэнным знакам лічыцца крык савы над хатай, калі ж крача груган, гэта – на смерць аднаго з жыльцоў дома;[269] хуткую смерць прарочыць і стогн пугача.[270] Акрамя таго гэтыя птушкі з'яўляюцца спадарожнікамі аднаго з прадстаўнікоў нячыстай сілы – лесавіка.[271]

Накрываючы памінальны стол, беларусы верылі, што душы памерлых продкаў абавязкова прыляцяць на пачастунак. Аднак ежа і пітво, якія ахвяраваліся дзядам, насілі такі ж сімвалічна-рытуальны характар, як у хрысціянстве прычасце, што складаецца з хлеба і віна. Беларусы не былі настолькі цёмнымі, як, напрыклад, неаднаразова падкрэслівае А.Багдановіч, і не спраўлялі дзяды, каб накарміць душы продкаў у прамым сэнсе гэтага слова. Перавага заўсёды аддавалася духоўнай ежы – памінальным малітвам, успамінам, размовам аб памерлых сваяках і блізкіх.

---

[267] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 267.

[268] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т. 2. – С. 46.

[269] Багдановіч, А. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў. Этнограф. нарыс: рэпрынт. выд. 1895 г. / А. Багдановіч. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 35.

[270] Federowski, M. Lud Biaioruski na Rusi Litewskiej: w 3 t. / M. Federowski. – Krakyw, 1897. – T. 1. – S. 183.

[271] Багдановіч, А. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў. Этнограф. нарыс: рэпрынт. выд. 1895 г. / А. Багдановіч. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 78.

Гэтую акалічнасць увасобіў у драматычнай паэме і А.Міцкевіч. Заўважым: Гусляр прапануе ежу і пітво ўсім душам, якія прылятаюць на дзяды, але пачастунак застаецца амаль некранутым. Душы дзяцей бяруць толькі па маленькаму зярнятку гарчыцы, злому пану не даюць падсілкавацца птушкі, а душа Зосі сама адмаўляецца ад прапанаванай ежы.

Не за пачастункам прыляцела і душа няшчаснага каханка. Прывіду юнака патрэбна толькі прысутнасць каханай, увага з яе боку. Праз гэты вобраз паэт раскрывае спрадвечную мудрасць народнага абраду, якая заключаецца ў непарушнасці духоўнай сувязі паміж светам жывых і светам мёртвых. Філасофскае асэнсаванне дзядоў дапамагае А.Міцкевічу ўвасобіць у вобразе маўклівага прывіда ідэал неўміручага кахання. Каханне прымушае вярнуцца нават з таго свету, і ніхто не ў стане заглушыць гэтае пачуццё. Менавіта таму Гусляру ні заклінаннямі, ні просьбамі, ні пагрозамі не ўдаецца пазбавіцца душы хлопца. Толькі калі пастушку вывелі з капліцы, прывід пайшоў следам:

Божа! Ледзь ступіў я з ёю,
Як за намі хвіляй тою
Здань услед пайшла, о людзі!
Што тут будзе, што тут будзе?[272]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Знакам запытання скончвае А.Міцкевіч II частку «Дзядоў». Пытальнік, пастаўлены аўтарам, тычыцца перш за ўсё асобы лірычнага героя, увасобленага на дадзеным этапе твора ў вобразе прывіда. Паэт такім чынам прадвызначае далейшы яго рух у сюжэце драматычнай паэмы, аднак ужо ў зусім іншым вобразе. Шматлікія пераўвасабленні героя, яго пераходы з аднаго стану ў другі, сталі сапраўднай знаходкай у рамантычнай літаратуры. Наватарства А.Міцкевіча ў гэтым плане адзначае С.Мусіенка: «Задоўга да нараджэння У.Фолкнера і Л.Арагона маем аднаго героя ў розных іпастасях і з рознымі імёнамі як сведчанне эвалюцыі чалавека на розных этапах яго жыцця».[273]

Адзінай адзнакай тойсамасці героя з’яўляецца яго адвечная адзінота і каханне, якое дазваляе балансаваць на мяжы розных рэ-

---

[272] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 48.

[273] Мусіенка, С. Рух героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» / С. Мусіенка // Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 59.

альнасцяў. Так каханне прымушае ўпыра пакідаць магілу, вяртацца ў чужы для яго свет – свет жывых. Праз няшчаснае каханне чужым, нават варожым становіцца свет і для Пустэльніка-Конрада. Дарэчы, цяжка здагадацца, жывы гэта чалавек, ці таксама прывід, здань. Лірычны герой А.Міцкевіча, які з'яўляецца ў вобразе прывіда напрыканцы II часткі «Дзядоў», амаль у нязменным выглядзе ўзнікае на пачатку IV часткі драматычнай паэмы:

*Ксёндз:* Ты хто?.. Чаго?.. Што тут за сілы?..
*Дзеці:* Мярцвяк! Мярцвяк! О, здань з магілы![274]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Нязменным застаецца крэда героя: «мёртвы для свету», сваім існаваннем ён па-ранейшаму аб'ядноўвае два светы – рэальны і ідэальны, з'яўляючыся ўвасабленнем рамантызму.

Упыра, Пустэльніка і Густава розніць дынаміка іхніх паводзін у адносінах да рэчаіснасці. Упыр – герой пасіўны, яго пратэст – скарга і маўчанне. Пустэльнік спрабуе супрацьстаяць рэчаіснасці. Па меры таго, як узрастае яго актыўнасць, у ім усё больш і больш праяўляюцца рысы, характэрныя самому А.Міцкевічу, лірычны герой пачынае зліваецца з аўтарскім «Я». У рэшце рэшт наступае пераломны момант – Пустэльнік становіцца Густавам, што сімвалізуе непазбежнасць прызнання рамантычнага светапогляду яго праціўнікамі.

Як і балада «Рамантычнасць», IV частка «Дзядоў» становіцца творам, у якім А.Міцкевіч выступае з крытыкай класіцызму. Толькі цяпер крытыка паэта набывае больш адмысловы характар: А.Міцкевіч не проста паказвае на адрозненні, якія існуюць у поглядах і эстэтычных прынцыпах дзвюх школ, але выкрывае недахопы сваіх апанентаў. Балада «Рамантычнасць» збольшага пабудавана па прынцыпу абароны, у той час у «Дзядах» вядзецца адкрыты наступ на пазіцыі класіцызму.

Хоць і па аб'ёму IV частка «Дзядоў» значна пераўзыходзіць «Рамантычнасць», колькасць герояў тут у два раза менш – адна антанімічная пара – Густаў і Ксёндз. Канцэпцыя героя, аднак, выходзіць на новы ўзровень: кожны герой з'яўляецца тыповым прадстаўніком сваёй школы. Вобраз Ксяндза, які прадстаўляе класіцыстычнае светасузіранне, ствараецца гэтак жа дасканала, як і вобраз Пустэльніка-Густава, які прадстаўляе светапогляд рамантыкаў. Героі драматычнай паэмы пазбаўлены іроніі з боку аўтара, – гэта яшчэ

[274] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 50.

адно разыходжанне з баладай «Рамантычнасць», у якой мудрэц (вобразнае ўвасабленне класіцызму) прадстаўлены ў крыху іранічным выглядзе.

Кожны рух кожнага героя ў сюжэце драматычнай паэмы надзелены сімвалічным значэннем. Паспрабуем дэкадзіраваць некаторыя моманты IV часткі «Дзядоў».

Пачынаецца IV частка з моманту, калі вечарам у жытло Ксяндза стукаецца Пустэльнік. Гэта азначае, што на зыходзе эпохі класіцызму з'яўляецца альтэрнатыўны напрамак у філасофіі і мастацтве.

Спачатку Пустэльнік выклікае здзіўленне з боку Ксяндза, страх і абурэнне з боку дзяцей. Нешта падобнае выклікала з'яўленне рамантызму ў пісьменнікаў-класіцыстаў, а таксама абурэнне ў некаторых апалагетаў класіцызму (у дадзеным выпадку у вобразе Пустэльніка бачыцца і сам А.Міцкевіч, паэтычныя вопыты якога былі сустрэнуты не самым лепшым чынам варшаўскімі крытыкамі). Вобраз жа дзяцей можна інтэрпрэтаваць і як вобраз «спажыўцоў» літаратурнай творчасці (чытачоў А.Міцкевіча): дзеці спачатку баяцца Пустэльніка, некаторыя з іх насміхаюцца з яго, але потым яны нават спяваюць разам з ім песню.

Сімвалічна прадстаўлена і першакрыніца рамантычнага мастацтва – народная творчасць: Пустэльнік апавядае дзецям пра самотную кабету, якая прыйшла аднекуль у падзёртай сукенцы і ў вянку з лісцяў, што выклікала смех і пагарду людзей:

О дзеткі, вы смяяцца не павінны
З мяне. Паслухайце. Я знаў калісьці
Няшчасную жанчыну. У жанчыны
Такі ж быў строй. І так, як я, у лісці,
Прыйшла ў сяло яна. Сяло, дзятва ўся
З бяды яе смяяліся. Хто бзыкаў
У твар ёй, дразнячы, хто пальцам тыкаў.
І я тады, хай раз, ды засмяяўся!
Ці ж не за гэта Бог мяне й карае?
Але тады не мог прадбачыць тое,
Што буду й я у гэтакім жа «строі».
Тады, юнак, я шчасны быў без краю![275]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

У гэтым выпадку, як і ў шэрагу іншых, вобраз Пустэльніка-Густава паэт зноў надзяляе некаторымі рысамі з уласнай біяграфіі:

[275] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 55.

А.Міцкевіч таксама на пачатку сваёй творчай дзейнасці не думаў, што стане паэтам-рамантыкам – першыя спробы пяра былі паспяхова выкананы ім у манеры класіцызму. Гэтыя радкі маюць таксама сацыяльную, нават палітычную афарбоўку – паэт становіцца ў абарону прыгнечанага, пакрыўджанага беларускага народа, яго культуры, самабытнасць якой не хацелі прызнаваць ні ў царскай Расіі, ні ў Польшчы.

Гісторыя кахання героя, якое скончылася трагічна, таму што любая дзяўчына выходзіць замуж за больш багатага, заможнага жаніха, – гэта таксама ўласная гісторыя А.Міцкевіча. Тут прысутнічае нават такая дэталь, як лісток кіпарысу, падараваны герою каханай, – такі ж лісток перад растаннем Марыля падарыла паэту. Дарэчы, гэты аўтабіяграфічны момант А.Міцкевіч выкарыстаў яшчэ ў рамансе «Дудар». У «Дзядах» жа Пустэльнік трымае яловы сук, але сцвярджае, што гэта галіна кіпарысу, якая вырасла з невялікага лістка, падараванага каханай:

*Ксёндз:* Апамятайся, брат: нашто ўзяў елку ў руку?
*Пустэльнік:* Што? Елку? Ну ж і галава ты, ксёндз вучоны!
Прыгледзься: гэта ж – кіпарыс. Ён рос зялёны.
Нібы мой лёс ён, памяць пра разлуку.[276]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Нягледзячы на тое, што дадзены фрагмент звязаны з асабістымі перажываннямі аўтара, паэт усё ж такі не ўпускае шанс падкрэсліць перавагу рамантычнага бачання свету над класіцыстычным. Толькі рамантык здольны глядзець на свет духоўнымі вачыма, што дазваляе ў звычайнай галіне елкі ўбачыць нешта большае, чым кавалак дрэва, – сімвал адвечнай самоты і сімвал вечнага аднаўлення, неўміручасці. Нездарма ёсць народная традыцыя – пасыпаць яловымі галінкамі дарожку, якой выносяць нябожчыка. Акрамя таго ялінкамі часта ўпрыгожваюць тапчан і воз, на якім вязуць труну. Гэтым самым народ выказвае глыбокі сум па памерлым і адначасова верыць, што жыццё яго працягнецца на тым свеце. Эпізод з ялінай чарговы раз нагадвае пра беларускі памінальны абрад, сімволіка якога становіцца ключом да таямніцаў самых розных чалавечых пачуццяў і ў першую чаргу – кахання.

Дарэчы, А.Міцкевіч вельмі часта параўноўвае рамантызм з каханнем. Так, напрыклад, ідэю непазбежнасці з'яўлення гэтага мастацкага кірунку паэт увасабляе ў гісторыі пра светлячка: свет-

[276] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 60.

лячок, спачуваючы Пустэльніку ў яго трагічным каханні, распавядае, як яму даводзіцца рызыкаваць уласным жыццём, каб асвятліць сабой куст. Светлячок быў бы і рады пазбавіцца свайго святла, але гэта – наканаванасць, лёс, як і каханне Пустэльніка:

І я кляну сваю аздобу штохвіліну,
Бо з-за яе і я загіну.
Хачу з сябе я змесці іскры тыя,
Ды не ў маёй уладзе гэта, знаю.
Таму, пакуль жыву – я ззяю![277]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Пра сваю размову з светлячком Пустэльнік гаворыць дзецям. Тыя вераць, што адбыўся цуд, бо святляк загаварыў на чалавечай мове (гэта азначае прызнанне рамантычнага вербальнага мастацтва сярод аматараў літаратуры). У цуд не верыць Ксёндз (як не прызнаваў ніякіх цудаў рацыяналізм класіцыстычнага светасузірання):

*Дзеці:* Ці праўда, што дзівосы ёсць такія?
Ці чуў ты, тата, аб падобным цудзе?
*Ксёндз:* Ці могуць чарвячкі малыя
Так размаўляць, як людзі?[278]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

На працягу ўсёй IV часткі «Дзядоў» гэта не адзіны выпадак супастаўлення рамантычнага і класіцыстычнага светапоглядаў. Прывядзем яшчэ некалькі прыкладаў з тэксту, якія фактычна становяцца пастулатамі рамантызму:

Не, ксёндз, табе не зразумець майго адказу:
Ты ж любых вуснаў дзіўны хмель не піў ні разу.
Хай блюзніць часам люд, кпіць моладзь, як заўсёды,
Ды сэрца ўсё ж тваё маўчыць на кліч прыроды.[279]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Гэтыя радкі нават не патрабуюць каментара. У іх адкрыта гучыць абвінавачанне ў адрас класіцыстычнай эстэтыкі, якая ніколі не была прыхільніцай прастаты і натуральнасці.

[277] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 75.
[278] Міцкевіч, А. Дзяды:  паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 75–76.
[279] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 64.

Не вітаецца паэтам халодны розум, калі ён бярэ верх над чалавечымі пачуццямі, заглушаючы іх (адно з галоўных адрозненняў героя класіцыстычнага твору ад рамантычнага):

Я пэндзлем мастака, замілавання поўны,
Быў перанёс красу каханай на карціну,
Каб паказаць сябрам яе ўвесь лік чароўны.
Ды што мяне узносіць, іх і не кранае,
Ім – забаўкай пачуцці, што для нас – патрэба.
У глыб душы ніхто з іх глянуць не жадае,
Халодным цыркулем красу яны змяраюць,
Як воўк ці астраном, яны глядзяць на неба.[280]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Заўважым, дарэчы, што адзін з радкоў прыведзенага фрагменту амаль тоесны з апошнім радком балады «Рамантычнасць»: «Май сэрца, глядзі ў сэрца!». Крытыка асветніцкага рацыяналізму, з якім змагаліся рамантыкі, прысутнічае і ў наступных радках:

Спасцігнуць хочаш ты усе праявы цуду?
Прырода ж, як і мы, свае сакрэты мае.
І іх не толькі ад вачэй цікаўных люду,
Але і ад ксяндзоў і мудрацоў хавае![281]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Класіцыстычны герой адрозніваецца ад героя рамантычнага сваім разуменнем гуманізму і патрыятызму. Калі першы разумее гуманізм даволі абстрактна – як любоў да ўсяго чалавецтва, то апошняга хвалюе і лёс чалавецтва, і лёс свайго народа, і лёс асобнага чалавека. Рамантычны герой вызначаецца таксама больш глыбокім пачуццём любові да сваёй зямлі, сваіх каранёў. Вядома, што вобраз радзімы заўсёды прысутнічаў у творчасці А.Міцкевіча, як галоўны атрыбут ягонай паэзіі, аднак у IV частцы «Дзядоў» гэтая тэма ўпершыню набывае трагічнае гучанне. А.Міцкевіч, будучы гарачым патрыётам, ніколі не мог прымірыцца з тым, што яго радзіма знаходзіцца пад уладай чужынцаў, а ідэалы, на якіх ён выхоўваўся, паступова нішчацца і адыходзяць у нябыт. Апошні падзел Рэчы Паспалітай, пасля якога землі Вялікага Княства Літоўскага адыйшлі ў склад Расійскай імперыі, адбыўся незадоўга да нараджэння бу-

[280] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 72.
[281] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 79.

дучага паэта, таму атрымоўваецца, што радзіму А.Міцкевіча не адабралі, а хутчэй скралі. Вобраз зруйнаванага бацькоўскага дома, у якім шчыруюць злодзеі, становіцца сімвалам страчанага краю:

> Гляджу – святло ў акне! Іду: што ж там такое?
> Зладзеі з ліхтаром, з сякерай у пакоях!
> Рабуюць там святой мінуўшчыны астаткі![282]
> *(Пераклад К.Цвіркі)*

Герой А.Міцкевіча, Густаў, з вуснаў якога гучаць гэтыя радкі, здаецца, губляе апошнюю надзею на тое, што ўсё страчанае можа яшчэ вярнуцца. Нават сабака Крук, які быў адзіным, хто верна пільнаваў руіны дома, і той, убачыўшы Густава, памірае на яго руках:

> «Мой Крук, мой любы!» Стаў, не верачы мо й вуху.
> І ўміг – на грудзі мне! Завыў і ўпаў без духу!..[283]
> *(Пераклад К.Цвіркі)*

Гэты момант А.Міцкевіч відавочна пазычыў са славутай паэмы Гамера: гэтаксама Адысея, які вяртаецца ў родную Ітаку, адзіны, хто пазнае і сустракае, – гэта сабака Аргус. Але і той, убачыўшы свайго гаспадара, памірае ад разрыву сэрца. Аўтар «Дзядоў» невыпадкова пераймае са старажытнагрэцкага твора на першы погляд нязначны матыў. А.Міцкевіч верыць, што Вялікае Княства Літоўскае павінна ў рэшце рэшт займець законнага князя ці караля, як вярнула свайго цара Ітака.

Сярод шматлікіх адрозненняў паміж рамантычным і класіцыстычным светапоглядамі, паказаных А.Міцкевічам у IV частцы драматычнай паэмы «Дзяды», найбольшую ўвагу паэт звяртае на разыходжанні ў плане эстэтычным. Для рамантызму «характэрны культ заступніка народа, прыхільніка прастаты і натуральнасці народных звычаяў, наіўнай красы, напрыклад, абрадаў і фальклору, як ідэальнага мастацтва».[284] Усімі гэтымі рысамі надзелены рамантычны герой А.Міцкевіча. У яго вусны паэт укладвае радкі з народных песняў і радкі стылізаваныя пад фальклор. Цікава, што ў вусны Пустэльніка А.Міцкевіч укладвае нават першы слупок свайго рамансу «Курганок Марылі», змяніўшы, праўда, трэці радок:

[282] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 82–83.
[283] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 82.
[284] Рагойша, В.П. Рамантызм / В.П. Рагойша // Энцыклапедыя Літаратуры і мастацва Беларусі: У 6 т. – Мінск, 1987. – Т.4. – С. 491.

Пустэльнік спявае: «Jaki to sterczy kurhanek?»[285] (Што тут за курганок уздымаецца?), а ў вершы: «Co to za pikkny kurhanek?»[286] (Што гэта за прыгожы курганок?).

Такі мастацкі ход можна інтэрпрэтаваць па-рознаму. Магчыма, паэт яшчэ раз хацеў падкрэсліць, што раманс «Курганок Марылі» з'яўляецца сапраўды «задумай з ліцвінскай песні», і гэтым самым ажывіць уласную літаратурную містыфікацыю.

Магчыма і іншае: калі Пустэльнік цытуе вядомых нямецкіх паэтаў – І.В.Гётэ і Ф.Шылера, чаму ж тады яму не працытаваць і А.Міцкевіча, першага польскага рамантыка?

Але хутчэй за ўсё радкамі з рамансу «Курганок Марылі» А.Міцкевіч нагадвае альбо нават папярэджвае пра частковую тоеснасць лірычнага героя з аўтарам. Напрыканцы ж IV часткі драматычнай паэмы герой наогул зліваецца з асобай паэта і ўжо вуснамі Густава, які просіць Ксяндза вярнуць народу старажытнае свята, прамаўляе сам А.Міцкевіч, а для яго дзяды – нешта значна большае, чым памінальны абрад. Дзяды для А.Міцкевіча гэта ўсталяванне гармоніі паміж усімі існуючымі антытэзамі: дабром – злом, каханнем – нянавісцю, жыццём – смерцю, родным – чужым, матэрыяльным – духоўным, і так да бясконцасці. Гэта значыць што праз асэнсаванне беларускага народнага абраду паэт спрабуе абазначыць месца і ролю чалавека ў свеце, створаным Богам. Дзяды – гэта памяць пра мінулае, без якога няма ні сучаснасці, ні будучыні. У гэтым выпадку вяртанне народнага абраду атаясамліваецца з вяртаннем радзімы – Вялікага Княства Літоўскага, дзяржавы, у якой ад веку жылі дзяды і прадзеды паэта:

І што калісьці продкі нашы вызнавалі?
Найгожае са свят – Дзяды, памінак свята,
Чаму ж ад нас вы, Бога служкі, адабралі?[287]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Беларускі памінальны абрад для А.Міцкевіча з'яўляецца ўвасабленнем справядлівасці, якая, згодна народнаму ўяўленню, ўсё ж усталёўваецца, няхай і пасля смерці. Гэта відаць з эпізода, у якім Густаў ловіць каля свечкі матылёў:

Святла ён прагне, рой крылаты гэты.
Гасілі ж пры жыцці яны прамень асветы,
За што ім Страшны суд намовіў быць у змроку.[288]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

[285] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1999. – T. III. – S. 59.
[286] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1998. – T. I. – S. 79.
[287] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 97.
[288] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 99.

Беларускі абрад для А.Міцкевіча – крыніца ідэальнага мастацтва. Наіўную красу, прастату і натуральнасць паэт-рамантык цэніць вышэй за бліскучую, але не да канца шчырую прыгажосць:

Адна сляза слугі над дамавінай пана
Больш значыць, чым разнесеныя друкам жалі,
Жалоба катафалка і картэж найманы.
Калі, шкадуючы яго ж, народ падданы
Купляе свечку на магілу, сам, аддана,
У змроку вечнасці яна больш ярка ззяе,
Чым тысячы лампад, запаленых загадам.[289]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Калі ІІ частка «Дзядоў» успрымаецца як проста рамантычны твор, то IV частка драматычнай паэмы ўяўляе сабой разгорнуты маніфест рамантызму. Як і ў баладзе «Рамантычнасць», звышнатуральны пачатак (цуды, духі і т.п.) тут нібыта адсунуты на другі план, хоць на самой справе ён сканцэнтраваны вакол галоўнага героя, таму не так заўважальны. Сярод «чарадзейных» матываў, якімі А.Міцкевіч аздабляе рамантычнага героя, найбольш яскравым прыкладам адлюстравання народнай свядомасці стала з’яўленне вобраза жывога канторка, у аснову якога пакладзена старажытнае ўяўленне беларусаў аб пакутных душах, каторыя могуць дзе заўгодна адбываць пакаранне.

З народнымі прымхамі звязаны матыў згасання адна за адной свечак. Васковую свечку, асабліва грамнічную (тую, якую запальваюць і даюць у рукі паміраючаму чалавеку), народная фантазія надзяліла вялікай сілай: «Яе страшна баяцца чараўніцы і ведзьмы, – піша А.Кіркор, – яна ратуе жывёлу ад чумы, яе запальваюць у час навальніцы, каб пярун не ўдарыў у дом. Грамнічная свечка з’яўляецца таксама прадметам самых розных гаданняў: чыя свечка першая згасне ў храме пры асвячэнні, той першы памрэ; падчас шлюбнага абрада ўвага прысутных звяртаецца на свечкі: калі гарыць ярка – добры знак, калі свечка згасне – здарыцца абавязкова бяда...».[290]

Наследуючы фальклорную традыцыю, А.Міцкевіч уводзіць у сюжэт IV часткі «Дзядоў» спеў пеўня, які час ад часу парушае ды-

[289] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 97–98.

[290] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье : репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 255–256.

ялог герояў. У народзе лічылася, што «спеву пеўня надта баіцца чорт»[291] і наогул усякая нячыстая сіла. Гэты ж матыў паэт выкарыстаў і ў баладзе «Люблю я».

Перад знікненнем Густаў спявае падобныя радкі з тымі, што ў II частцы драматычнай паэмы спяваў Гусляр, спраўляючы з грамадой сялян дзяды:

Слухайце ж усе і шчыра верце
Словам мудрым Божага наказу:
Хто на небе быў хоць раз да смерці,
Той, памёршы, трапіць не адразу.[292]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

У гэтых радках адлюстроўваецца вера беларусаў у сусветную гармонію і справядлівасць, згодна якой кожны чалавек аднолькава надзяляецца Божай ласкай. Акрамя таго, дадзеныя радкі яшчэ раз паказваюць на рух рамантычнага героя ў сюжэце драматычнай паэмы: каб чуць іх, Густаў павінны быў прысутнічаць на абрадзе, паказаным у II частцы «Дзядоў».

Само знікненне Густава, якое адбываецца апоўначы і суправаджаецца біццём гадзінніка, спевам пеўня і гаснучай лампадкай перад абразом, таксама з'яўляецца данінай паэта лепшым традыцыям вуснай народнай творчасці.

У параўнанні з II часткай IV частка драматычнай паэмы «Дзяды» не вельмі багатая на «чарадзейныя» матывы, аднак і тых, якія там прысутнічаюць, дастаткова, каб надаць твору рамантычнае гучанне, дакладна акрэсліўшы мяжу паміж светам рэальным і ідэальным.

Гаворачы пра віленска-ковенскія «Дзяды» (II і IV часткі драматычнай паэмы), нельга забываць і пра фрагменты I часткі, якая таксама ўяўляе для нас вялікую цікавасць з прычыны прысутнасці там шматлікіх элементаў беларускай культуры.

Як было ўжо адзначана, так званая I частка не была апублікавана пры жыцці аўтара. У сувязі з гэтым узнікае шэраг пытанняў аб яе месцы і ролі ў структуры ўсёй драматычнай паэмы. Што тычыцца месца, то яго вельмі цяжка вызначыць нават храналагічна, бо да нашага часу паміж даследчыкамі творчасці А.Міцкевіча вядуцца спрэчкі наконт таго, калі былі створаны «Фрагменты» – да напісання IV часткі ці пасля. Зрэшты, ці хацеў гэтае месца вызна-

[291] Federowski, M. Lud Biaioruski na Rusi Litewskiej: w 3 t. / M. Federowski. – Krakyw, 1897. – T. 1. – S. 184.

[292] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 101.

чаць і адводзіць сам творца? І што перашкодзіла паэту дапрацаваць дадзеную частку і тым самым дакладна акрэсліць усю структуру «Дзядоў»? «Праблема», відаць, была задумана аўтарам як чарговая гульня з чытачом, чарговая рамантычная містыфікацыя. Так што гэтая частка паэмы становіцца своеасаблівым «упыром», зданню, якая нібыта ёсць, і ў той жа час яе няма. Яна ў адначассі і аб'ядноўвае і раз'ядноўвае тры астатнія рэальна існуючыя (таму што скончаныя і пры жыцці аўтара надрукаваныя) часткі.

«Раз'яднаўчы» кампанент І часткі «Дзядоў» заключаецца галоўным чынам у яе фрагментарнасці, няскончанасці і неапублікаванасці. Аднак з іншага боку, фрагментарнасць і няскончанасць з'яўляюцца ці не галоўнымі атрыбутамі рамантызму, як мастацкага метаду. Калі так, то гэтую частку можна лічыць самай першай, самай важнай і галоўнай, яна нібы ключ, які адчыняе дзверы ў паэтычны свет драматычнай паэмы А.Міцкевіча.

У айчынным міцкевічазнаўстве (працы А.Лойкі, У.Мархеля і інш.) неаднаразова сцвярджалася думка пра ўзаемны ўплыў паміж творчасцю вялікага рамантыка і беларускай культурай, пра ролю А.Міцкевіча ў фарміраванні беларускай нацыянальнай літаратурнай традыцыі. Адно з найбольш трапных выказванняў на гэты конт належыць І.Багдановіч: «А.Міцкевіч вызначыў ідэйна-мастацкае бачанне айчыны ў святле гістарычных, маральных, этнічных каштоўнасцей, замацаваў у свядомасці пакаленняў літвінска-беларускую канцэпцыю айчыны».[293] Інакш кажучы, вобраз радзімы свядома будаваўся паэтам на глебе беларускай культуры, асабліва культуры народнай. Менавіта па гэтай прычыне аўтара «Балад і рамансаў», «Гражыны» і «Дзядоў» не зразумела і не прыняла варшаўская (польская) аудыторыя, але затое магутны рамантычны выбух ускалыхнуў беларуска-літоўскія землі: жыхары колішняга Вялікага Княства Літоўскага ўбачылі ў маладым творцы сапраўды свайго песняра і прарока. Аб надзвычайным поспеху А.Міцкевіча згадвае А.Кіркор, сучаснік паэта: «Масы зразумелі паэта, адчулі генія, і мы памятаем той час, калі не толькі раскупалі нарасхват новыя выданні, але перапісвалі на сотні рук, пасылалі ў лістах у самыя аддаленыя куткі, у глуш Беларусі, старыя і маладыя, арыстакраткі і шляхцянкі вывучвалі напамяць. Аб гэтым і была толькі гаворка ў гарадах, у панскіх дамах, на бедных хутарах шляхцічаў».[294]

---

[293] Багдановіч, І. Э. Авангард і трыдыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Э. Багдановіч. – Мінск: Бел. навука, 2001. – С. 31.

[294] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 125.

Папулярнасць паэзіі А.Міцкевіча тлумачыцца вельмі проста: беларускі чытач бачыў у ёй (зрэшты, і да гэтага часу бачыць у адрозненні ад чытача польскага), нібыта ў люстэрку, самога сябе, сваё мінулае і будучыню, любыя сэрцу краявіды, усё тое, што кранае і захапляе з маленства. Дарэчы і сам вобраз люстэрка неаднаразова з'яўляецца ў творах паэта. Толькі ў І частцы «Дзядоў» ён сустракаецца двойчы. Прыгадаем, што дадзеная частка распачынаецца маналогам Дзяўчыны, у пакоі якой аўтар, як дадатковую характарыстыку абставін дзеяння, змяшчае вялізнае люстэрка. Робіць гэта А.Міцкевіч не выпадкова: жадны прадмет, якім карыстаецца чалавек у сваім штодзённым жыцці, не выклікае столькі чарадзейна-містычных асацыяцый (праўда, і абрад шанавання памерлых продкаў, узяты паэтам за філасофска-эстэтычную аснову твора, з'яўляецца самым містычным і самым чарадзейным у межах беларускай народнай кульуры). У язычніцкіх уяўленнях многіх народаў свету, у тым ліку і беларусаў, люстэрка заўсёды надзялялася звышнатуральнай сілай. Лічылася, што яно можа звязваць наш свет з нейкім іншым, ірэальным светам, часам светам мёртвых. Менавіта па гэтай прычыне люстэрка фігуруе ў самых розных народных варожбах, прымхах і забабонах. Адгалоскі старажытных уяўленняў дайшлі і да нашых дзён: напрыклад, у беларускім доме, дзе памёр нехта, усе люстэркі стараюцца завесіць. Вобраз чарадзейнага люстэрка пастурова выходзіць за межы фальклора – яго пачынаюць актыўна выкарыстоўваць прафесійныя літаратары, асабліва рамантыкі (яскравым прыкладам можа паслужыць «Казка аб мёртвай царэўне і сямі волатах» А.Пушкіна). Не менш цікавую казку, дзе таксама з'яўляецца чарадзейнае люстэрка, прапануе свайму чытачу (гледачу і слухачу) А.Міцкевіч: у І частцы «Дзядоў» Старац просіць унука праспяваць песню пра зачараванага юнака. Дадзеная песня, уведзеная ў структуру драматычнай паэмы, на першы погляд выглядае даволі самастойна і незалежна на фоне ўсяго астатняга тэкста. Паводле жанру – гэта балада, самы ўлюбёны жанр А.Міцкевіча (успомнім яго знакамітыя «Балады і рамансы»). Але не толькі сваёй жанравай спецыфікай «Зачараваны юнак» прымушае нас звярнуцца да першай кнігі паэта. Балада і сваім зместам закранае «ранейшае» кола праблемаў. Зноў, напрыклад, з'яўляецца чараўнік Твардоўскі, герой балады «Пані Твардоўская». Праўда, цяпер ён вельмі сур'ёзны, не той авантурыст і гуляка, якім раней паказваў яго паэт. Гэтая змена ў характары героя якраз становіцца зразумелай у кантэксце «Дзядоў», дзе няма месца нават для намёку на правольнасць. Як бы мімаходам, гучыць у баладзе імя Марылі, адной з галоўных гераіняў «Балад і рамансаў», таксама згад-

ваецца возера Свіцязь, не аднойчы ўшанаванае ў названым цыкле вершаў, роўна як і імя Парай (упершыню яно сустракаецца ў паэме «Мешка, князь Навагрудка»):

Што ж чую? Яшчэ пару словаў
Скажы – ў час паходаў, няйначай,
Ты быў, слаўны рыцар з Твардова
Ля берагу Свіцязі нашай.

Там людзі не гаварылі
Пра ваяра Парая
І пра красуню Марылю,
Якую ён абагаўляе?
*(Пераклад А.Брусевіча)*

Пра цесную сувязь І часткі «Дзядоў» з папярэдняй (астатняй) творчасцю намякае і сам А.Міцкевіч: у аўтографе «Фрагментаў» ёсць нататка, якая сведчыць пра тоеснасць постаці Дзяўчыны і Карусі з балады «Рамантычнасць».[295] Значыцца, хор маладзёнаў звяртаецца не проста да Дзяўчыны, але менавіта да вядомай ужо Карусі (прататыпам гэтай гераіні стала, як вядома, першае юнацкае каханне паэта, калі ён не быў яшчэ знаёмы з Марыляй):

Ручак сваіх не ламай дзявочых,
Не плач, і ручак шкада, і вочак.
Другому яны, твае вочкі, бліснуць,
Другую далонь твае ручкі сціснуць.
*(Пераклад А.Брусевіча)*

Дык чаму ў І частцы «Дзядоў» А.Міцкевіч вяртаецца да сваіх ранейшых герояў і вобразаў? Адказ відавочны: драматычная паэма была задумана паэтам не як чарговы мастацкі твор, а як падвядзенне вынікаў усёй папярэдняй творчасці. Ці як сістэматызацыя раней напісанага. Задума цікавая, але разлічаная на сталага чытача. Затое цяпер кожны радок, кожнае слова ў радку магло выклікаць значна большае кола асацыяцый. Так, Зачараваны юнак згадвае пра бераг Свіцязі, і адразу ўзнікаюць вобразы, створаныя ў баладах «Свіцязянка», «Свіцязь» і «Рыбка». З імем Парай звязваецца, канешне, дзеянне паэмы «Мешка, князь Навагрудка». Не будзем забываць таксама, што Парай – назва герба Міцкевічаў, а зна-

[295] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1999. – T. III. – S. 579.

чыць баладу «Зачараваны юнак» (разам з ёй і ўсю драматычную паэму) аўтар надзяляе аўтабіяграфічнымі рысамі. Магчыма, што паэт нават атаясамлівае сябе з героем балады. Да таго ж Парай кахаў Марылю. А гэта празрысты намёк на ўласнае каханне А.Міцкевіча. Безумоўна, паэт-рамантык стараецца нібыта зблытаць карты: у баладзе «Зачараваны юнак» герой прадстаўляе іншую, старадаўнюю эпоху – часы Альгерда. Але тут А.Міцкевіч выкарыстоўвае прыём свядомага ўвядзення ў тэкст гістарычнай недакладнасці (такі ж прыём выкарыстаны ў баладзе «Свіцязь», калі паэт гаворыць пра бітву Міндоўга з рускім царом, хоць на самой справе ў XIII стагоддзі ніводны расійскі князь не меў тытул цара). Прыгадаем гэтыя радкі:

Альгерд? Прайшло ўжо нямала –
Год двесце з дня яго смерці.
Цяпер князя ўнук – Ягайла
Адважна з ворагам б’ецца.
*(Пераклад А.Брусевіча)*

Дзеянне, як бачым, адбываецца праз 200 гадоў пасля смерці Альгерда. Калі так, то гэта мусяць быць часы праўлення Стэфана Баторыя. Аднак персанаж балады, Твардоўскі, прадстаўляе Зачараванаму юнаку іншую інфармацыю: зараз правіць Ягайла, унук Альгерда. З гісторыі ж вядома, што Ягайла прыходзіўся Альгерду не ўнукам, а старэйшым сынам. Такога кшталту недакладнасць уводзіцца аўтарам каб яшчэ раз падкрэсліць ідэю надчасавасці такіх катэгорый як радзіма і народ. Гэтай ідэяй прасякнута ўся драматычная паэма і цэлая творчасць А.Міцкевіча. Відавочны тут і матыў неўміручага, вечнага, надчасавага кахання. З другога боку, паэт падае сваю баладу «Зачараваны юнак» як вядомую народную песню, а значыць гістарычная недакладнасць патрэбна для стылізацыі арыгінальнага мастацкага тэкста пад твор фальклорны (у вуснай народнай творчасці, як вядома, вельмі часта сустракаюцца гістарычныя і многія іншыя недакладнасці). Дарэчы, А.Міцкевіч не першы раз падае ўласны твор за фальклорны. Дзеля стварэння ілюзіі фальклорнага паходжання некаторых сваіх тэкстаў паэт, як мы памятаем, любіў рабіць наступныя допісы: «задума з народнай песні», «задума з ліцвінскай песні» і інш. Такія падтытулы маюць вершы «Рыбка», «Лілеі», «Дудар», «Курганок Марылі», паэма «Гражына». З беларускай фальклорнай традыцыяй звязаны і вобраз Старца, які з’яўляецца ў І частцы «Дзядоў» побач з Гусляром. Вобраз гэты, як і вобраз Гусляра, не толькі лучыць паэтычны светапогляд А.Міцкевіча з на-

роднай эстэтыкай, але знітоўвае розныя этапы творчасці паэта (Старац таксама прыйшоў з «Балад і рамансаў», з’яўляючыся героем вершаў «Лілеі», «Дудар», «Курганок Марылі»).

Фрагменты I часткі «Дзядоў» – гэта яшчэ і зварот А.Міцкевіча да агульнаеўрапейскага рамантычнага кантэксту. Так, напрыклад, вобраз Чорнага Паляўнічага (яго сустракае Густаў, герой IV і III частак драматычнай паэмы) запазычаны хутчэй за ўсё з вядомай оперы «Вольны стралок» К.М. фон Вебера, заснавальніка нямецкага музычнага рамантызму. Варта падкрэсліць, што падобныя апеляцыі А.Міцкевіч рабіў і раней (да іх можна аднесці, напрыклад, узнаўленне Шылераўскай балады «Пальчатка»), бо ўсё гэта адпавядала духу той эпохі, у якой жыў і тварыў паэт. Зварот да знакамітых постацей гарантавалі таксама перамогу ў барацьбе з эстэтыкай класіцыстаў, якія не жадалі саступаць дарогу маладым творцам, носьбітам ідэй рамантызму. Дыскусія паміж класіцыстамі і рамантыкамі, увасобленая раней ў паэтычных вобразах балады «Рамантычнасць», актуалізуецца і ў фрагментах I часткі «Дзядоў» (размова дуба з кветкамі). З’яўленне рамантызму паэт паказвае як заканамерны вынік эвалюцыі літаратурнага і культурнага працэсу:

Адныя завянуць, другія – узыйдуць,
Мо, меньшай красы, ды ці варіа вініць іх?
*(Пераклад А.Брусевіча)*

У размове са старым дубам кветкі, што растуць пад яго кронай, просяць не смуткаваць па ранейшых часах:

Вазьмі трошкі шчасця ад нас шчаслівых,
Мёртвых шукай між жывых, не ў магілах.
*(Пераклад А.Брусевіча)*

Паэт, інакш кажучы, не хоча вайны з класіцыстамі, наадварот – у дадзеных радках можна прасачыць думку пра пэўную пераемнасць паміж класіцызмам і рамантызмам (зрэшты, першыя літаратурныя вопыты А.Міцкевіча, як вядома, былі вытрыманы ў класіцыстычнай манеры). У працытаваным урыўку прасочваецца і ключавая ідэя ўсёй драматычнай паэмы «Дзяды», а таксама ідэя беларускага памінальнага абраду: паміж пакаленнямі людзей не павінна перарывацца сувязь. А гарантам непарыўнасці сакральнай сувязі паміж бясконцай чарадой пакаленняў выступае Радзіма. Толькі яна, паводле А.Міцкевіча, надае сапраўдны сэнс чалавечаму існаванню, робіць жыццё чалавека гарманічным:

Спрадвеку ў духоўнай і бачнай айчыне
Ніхто і ніщто ў адзіноце не гіне.
*(Пераклад А.Брусевіча)*

Пра пераемнасць паміж рознымі пакаленнямі А.Міцкевіч згадвае неаднаразова. Нездарма ж у І частцы «Дзядоў» на сцэне з'яўляюцца і старыя, і юнакі, і дзеці. Дарэчы, уся адказнасць за захаванне сувязі кладзецца на плечы моладзі. Гэта яна, моладзь, становіцца галоўным звяном паміж мінулым і будучыняй, гэта яна павінна паклапаціцца аб Радзіме, якой няма нідзе месца, акрамя як «пад чыстым небам»:

Хай бацькі ідуць з малымі
У касцёл з мальбой і хлебам.
Маладыя больш не з імі,
Месца іх – пад чыстым небам.
*(Пераклад А.Брусевіча)*

Падагульняючы вышэй сказанае, можна зрабіць выснову, што дадзеная частка драматычнай паэмы ўяўляе сабой квінтэсенцыю ідэй, тэм і вобразаў, якія ўвасобяцца пазней (ці ўжо былі ўвасоблены) у розных творах паэта. З апошніх працытаваных радкоў (ды і не толькі з іх) мы бачым, што ў «Фрагментах» знаходзяць увасабленне і сацыяльна-палітычныя погляды паэта, колішняга аўтара «Оды да маладосці», «Песні філарэтаў», будучага творцы славутых дрэзданскіх «Дзядоў».

Што ж да дрэзданскай ІІІ часткі «Дзядоў», то яе можна прызнаць за вянец рамантычнай паэзіі А.Міцкевіча. Магчыма таму, што пісалася яна ў пераломны момант. Пераломны і для паэта, і для яго радзімы. Калі ўзяць нават паэму «Пан Тадэвуш», якая лічыцца вяршыняй творчасці А.Міцкевіча, то там няма так яскрава выражанай ідэі, «з якой усходнеславянскі рамантызм пачынаў дыялог з усёй еўрапейскай супольнасцю»,[296] – ідэі служэння свайму краю і свайму народу. Заўважым, між тым, што патрыятызм аўтара дрэзданскіх «Дзядоў» мае іншы змест і нават іншую форму, у адрозненні ад патрыятызму А.Міцкевіча ў віленска-ковенскі перыяд яго творчасці. Калі раней Навагрудчына і Літва (Вялікае Княства Літоўскае) увасаблялі радзіму паэта, то цяпер ідэя радзімы размываецца. Страціўшы рэальнае адчуванне бацькаўшчыны, паэт шукае яе то ў бра-

[296] Багдановіч, І. Э. Авангард і трыдыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Э. Багдановіч. – Мінск: Бел. навука, 2001. – С. 19.

тах па няшчасцю, такіх самых выгнанніках як ён сам (у паэме ўзнікаюць постаці прафесара І.Лялевеля, мастака І.Аляшкевіча), то ў рэлігіі (адсюль месіянізм паэта), то ва ўласным сэрцы, смела сцвярджаючы, што Радзіма – гэта я сам:

Душою я ў айчыне ўвесь укаранёны,
А целам увабраў айчыны душу.
Я і айчына – цэлае адно.
Імя маё – Мільён, бо за мільёны
Люблю й цярпець пакуты мушу.[297]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Канешне, гэта словы Конрада, не А.Міцкевіча, але герой драматычнай паэмы «Дзяды» на працягу ўсяго твору столькі раз надзяляўся рысамі і вопытам самога аўтара, што робіцца немагчыма абазначыць дакладна тую мяжу, дзе рэальнае становіцца ўяўным, а фантазія – рэчаіснасцю. Зрэшты, на гэтым і палягае адметнасць рамантычнага светаўспрымання.

Акрамя радзімы «ідэальнай» А.Міцкевіч прадстаўляе ў ІІІ частцы «Дзядоў» і радзіму «рэальную». «Рэальнай» радзімай у паэта выступае Польшча (Polska), пад якой меліся на ўвазе землі нядаўна раздзеленай Рэчы Паспалітай. А вось землі Кароны, аднаго са складнікаў «рэальнай» радзімы, вялікі рамантык называе менавіта Польшчай (Polszcza).[298]

Калі прыгадаць гісторыю стварэння дадзенай часткі драматычнай паэмы (яна стала своеасаблівай эпітафіяй паўстанню 1830 – 1831 гг.), то становіцца зразумелым, чаму паэт стараецца прыглушыць свой «рэгіянальны», ліцвінскі патрыятызм, замяняючы яго на «рэчапаспалітаўскі». Праўда, супрацьстаянне Літвы і Кароны (Варшавы і Вільні) нязменна прысутнічае і тут. Толькі цяпер гэта выглядае іншым чынам: пераважна адмоўныя персанажы стараюцца «раздзяліць» ліцвінаў і палякаў. Вось як трактуе жыхара Літвы Камер-юнкер:

Як, пан з Літвы? Па-польску ведаюць літвіны?
Я ж думаў, у Літве жывуць адны русіны.[299]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

[297] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 146.
[298] Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1999. – T. III. – S.135.
[299] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 181.

Пазіцыя аўтара ў такім разе відавочна: Літва і Польшча – адзінае цэлае, раздзел якога прывядзе да беззваротнага знікнення як «вялікай», так і «малой» радзімы. Аднак, як бы не імкнуўся аўтар захоўваць «нейтралітэт» у дачыненні да абодвух складнікаў «вялікай» радзімы, ягоны адвечны «ліцвінізм» усёроўна дае аб сабе знаць. Так, Вільня малюецца паэтам як кузніца рэвалюцыі, дзе гартуюцца лепшыя патрыёты бацькаўшчыны, змагары супраць царскага прыгнёту. У той жа час Варшава паўстае як месца, дзе вельмі ўтульна пачуваюцца ворагі айчыны. Нездарма з вуснаў Сенатара гучаць радкі:

Il y a de quoi ашалець! Сягоння ж скончу справу
І з гэтай Вільні – зноў у любую Варшаву.[300]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Ліцвінізм (беларускасць), як адна з галоўных рысаў светаўспрымання А.Міцкевіча, праяўляецца і на іншых мастацка-эстэтычных узроўнях III часткі «Дзядоў». Па-першае, варта звярнуць увагу на яе сувязь з «Баладамі і рамансамі», бо менавіта з гэтага цыклу пачынаецца «беларуская» тэматыка ў творчасцці польскага рамантыка. Так, напрыклад, некалькі разоў у дрэзданскай частцы «Дзядоў» агучваецца ідэя хуткаплыннасці зямнога жыцця, ідэя, якая была прадстаўлена яшчэ ў «Першацвеце», філасофскім маніфесце А.Міцкевіча радкамі «*Нашы дні – век матыліны, // Зранку – жыў, а ўдзень – змярцвелы» (Пераклад М.Аўрамчыка)*[301] . Цяпер тое самае сцвярджае Конрад:

Што мне ёсць пачуццё?
Адна іскрынка!
Што мне маё жыццё?
Адна хвілінка![302]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

З «Балад і рамансаў» бярэ свае вытокі таксама матыў змагання рамантычнага светапогляду з «мёртвымі праўдамі» класіцызму. Толькі зараз ён, гэты матыў, гучыць з яшчэ большай іроніяй. А бунт рамантычнага героя (паэта) супраць варожага светаўспрымання ператвараецца ў бунт супраць цэлага свету (Конрад звяртаецца да Бога):

---

[300] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 189.
[301] Міцкевіч, А. Вершы і паэмы / А. Міцкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2000. – С. 23.
[302] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 144.

Хто кнігі грыз, хто веды здолеў
З металу, з лічбаў, з трупа браць,
Той толькі змог сабе прыдбаць
Тваёй звышмоцы долю з доляў.[303]

*(Пераклад К.Цвіркі)*

Бунт Міцкевічаўскага героя ў самы раз параўнаць з бунтам Сатаны ў паэме Д.Мільтана «Страчаны рай». Зрэшты і сам А.Міцкевіч параўноўвае Конрада (яго ўнутраную сутнасць, самасць) з дэманічнай істотай – з вампірам:

Ужо мая песня ў магіле была,
Ды кроў яе раптам пачула,
І вось, як вампір, зноў яна усплыла –
Яе да жыцця кроў вярнула.
Крыві ёй, крыві трэба многа:
На помсту – хоць з Богам, без Бога!
І песня звініць: я ўвесь край наш узрушу –
Устань жа, знябытых сям’я!
Каму запушчу я клыкі свае ў душу,
Той стане вампірам, як я.
Крыві ёй, крыві трэба многа:
На помсту – хоць з Богам, без Бога![304]

*(Пераклад К.Цвіркі)*

Заўважым, што ў дадзеным выпадку вобраз вампіра адрозніваецца ад постаці Ўпыра ў II частцы «Дзядоў», дзе ён не прагне крыві, а толькі марыць спаткацца са сваёй каханай. Затое цяпер вобраз вампіра супадае з народным уяўленнем аб гэтых крыважэрных істотах. Праўда, народ ніколі не надзяляў вампіра станоўчымі рысамі, як гэта імкнецца зрабіць Конрад (а з ім і сам аўтар), ператвараючы яго ў сімвал змагання з ворагамі бацькаўшчыны. Стаючы ў абарону радзімы, вампір (песня) выконвае святую місію, няхай нават і «бязбожным» чынам. З другога боку, паэт не адыходзіць ад традыцыйнага беларускага светасузірання, паводле якога нават зло можа стацца дабром, калі яно змагаецца з яшчэ большым злом. Існуе, напрыклад, вялікая колькасць беларускіх казак і паданняў, у якіх ліхадзеям Бог даруе грахі за пакаранне яшчэ большых грэшнікаў, асабліва крыўдзіцеляў народа. Да такіх твораў адносіцца ле-

---

[303] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 144.

[304] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 135–136.

генда «Вялікі грэшнік»,[305] занатаваная П.Шэйнам. У ёй распавядаецца пра ліхадзея, які атрымаў адпушчэнне грахоў за забойства злога война.

Акрамя вобраза вампіра, з беларускага фальклору ў III частку «Дзядоў» перавандравалі і другія вобразы, матывы, тэмы і ідэі. Ужо на самым пачатку, у першай сцэне першага акту, А.Міцкевіч стварае карціну, яўна абапіраючыся на старажытныя ўяўленні беларусаў. Поўнач, каляды...Здаецца, няма ніякай сувязі з Дзядамі – памінальным абрадам, які наш народ спраўляў пераважна вясною і восенню. Аднак, як сведчаць запісы фалькларыстаў, беларус ніколі не забываў сваіх памерлых продкаў. У кожны зручны момант ён згадваў «дзядоў», асабліва пад час вялікіх святаў. Вось што, напрыклад, адзначыў А.Кіркор, апісваючы святкаванне беларусамі Божага Нараджэння: «Старэйшы ў сям'і чытае малітву, сам накладвае куццю, віншуе ўсіх сваіх дамачадцаў са святам, успамінае памерлых сваякоў, жадае ім царства нябеснага <...> у некаторых мясцінах запрашаюць таксама дзядоў словамі «дзяды, дзяды, хадзіце куццю есці», пакідаючы ім частку куцці за акном, альбо ў сенях».[306] Нешта падобнае дзеецца і ў творы А.Міцкевіча: сябры, якія збіраюцца ў келлі Конрада ў калядную ноч, не толькі святкуюць Раство Хрыстова, але як адна сям'я ўдзельнічаюць у рытуальнай вячэры ў памяць памерлай Свабоды. Выкарыстоўваючы народную філасофію, паэт напаўняе новым сэнсам ідэю змагання з царызмам: змагацца трэба не за нейкую абстрактную мэту, а за радзіму з косці і крыві.

Невыпадкова А.Міцкевіч абірае і час спаткання братоў па няшчасцю – іхні збор пачынаецца апоўначы, найбольш страшную і небяспечную паводле народнага ўяўлення пару сутак, калі светам правяць злыя сілы. Дарэчы, з д'ябэльскім, цёмным пачаткам паэт увесь час звязвае асобу цара і яго ўладу. Нават стольны Пецярбург у паэме прадстаўлены не інакш, як промысел сатаны.

Часам сувязь нячыстай сілы з асобай цара набывае нават жартаўлівае адценне. У духу народнага гумару, напрыклад, гучыць фраза, кінутая Бэльзэбубам іншаму д'яблу: «Ты знаеш мой чын? Даў мне ўладу сам Цар!».[307]

---

[305] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П. Шейн – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1893. – Т.2. – С. 371–373.

[306] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье : репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 253–254.

[307] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 173.

Варта адзначыць, што беларускі народ заўсёды асацыіраваў сваіх ворагаў з рознымі дэманічнымі істотамі. Асабліва часта ў беларускім фальклоры назіраецца «супадзенне» вобразаў чорта і немца: «Настане божы дзень, дык пракляты немчык збыту не дае: куды ні зірні, то ён тут – пакажацца, ды скрозь зямлю пойдзе, то перабяжыць ды й шчэзне».[308] Гэты фальклорны прыём А.Міцкевіч выкарыстоўвае не першы раз. Прыгадаем хоць бы баладу «Пані Твардоўская», дзе д'ябал выглядае як «istny Niemec» (сапраўдны немец). Вера беларусаў у існаванне добрых і злых духаў, якія вядуць спрадвечную спрэчку за душу чалавека, знайшла адлюстраванне і ў дрэзданскіх «Дзядах». Прыгадаем той момант, калі духі спрачаюцца за душу Конрада:

| *Голас з левага боку* | *Голас з правага боку* |
| --- | --- |
| Я сеў на душу! | Душа – не конь! |
| Лячу! Спяшу! | Яго барані, |
| На ёй, зірні, | Крылом аслані |
| Я – як на кані. | Скронь. |
| Гані! Гані![309] | |

*(Пераклад К.Цвіркі)*

У запісах фалькларыстаў можна знайсці сляды гэтай старажытнай веры. На Навагрудчыне, напрыклад, як сведчаць запісы П.Шэйна, людзі былі ўпэўнены, што «у момант смерці чалавека <...> паміж добрым і злым духам адбываецца спрэчка».[310] Цікава і тое, што злы дух ў «Дзядах» з'яўляецца з левага боку ад Конрада, а добры – з правага, што таксама адпавядае народнаму ўяўленню, як адпавядае і час панавання нячыстай сілы: да трэціх пеўняў. З беларускіх народных казак паходзіць, відаць, і той момант, калі д'яблы на вочы Сенатару сыплюць мак, каб той моцна заснуў.

І поўнач, і саму ноч, як пару сутак, народ заўсёды напаўняў містыкай: менавіта ноччу адбываюцца розныя цуды, падаюцца страхі і т.п. Але не ўсе ночы аднолькавыя паводле свайго «чарадзейнага напаўнення». Найбольш фантастычнымі з'яўляюцца Купальская ноч, ноч на Дзяды і ноч перад Раством. З імі звязана неверагодная колькасць беларускіх народных абрадаў, прымхаў, забабонаў, казак і паданняў. У III частцы «Дзядоў» А.Міцкевіч не

---

[308] Міфы бацькаўшчыны / уклад. У.А. Васілевіч. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 87.

[309] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 145.

[310] Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края: в 3 т. / П.Шейн. – СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1887. – Т. 1. – С. 536.

закранае толькі ноч на Івана Купалу, дзве ж астатнія ночы вельмі арганічна ўбудаваны ў ідэйна-мастацкую структуру драматычнай паэмы. Што датычыць ночы перад Божым Нараджэннем, то яна ў «Дзядах» выконвае падвойную функцыю. Па-першае, сам паэт нарадзіўся ў гэтую ноч (дзякуючы гэтаму, дарэчы, узнікла некалькі сямейных паданняў пра нараджэнне А.Міцкевіча), таму, магчыма, у сцэне «нараджэння» Конрада варта бачыць ні што іншае, як зліццё асобы лірычнага героя, Густава, з асобай аўтара. Па-другое, канешне, яна сімвалізуе змаганне беларускіх і польскіх патрыётаў супраць царызму (у беларускай міфалогіі – гэта «час страшнай бітвы дабра са злом, святла з цемрай»).[311]

З беларускай міфалогіі запазычаны А.Міцкевічам і іншыя вобразы-сімвалы, якія ў паэме ўвасабляюць цёмны пачатак. Такім вобразам, напрыклад, становіцца агромністы груган, які ўзнікае ва ўяўленні Конрада:

А там што? Нейкі птах ляціць праз небасхілы
І выклік вокам грозным мне кідае!
Як хмары ў буру, чорныя прасцёр ён крылы,
Шырокія, даўгія, бы дуга ад лука, –
Паўнеба імі закрывае!
Ды гэта ж крук вялізны! Ці мо воблік крука?[312]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Адказ на пытанне дае вядомае беларускае паданне пра Пяруна і Чарнабога. У паданні злыя сілы, якія змагаюцца з Пяруном, паўстаюць у вобліку драпежных птушак.[313] Драпежныя птушкі – груганы, совы і пугачы, як мы памятаем, з’яўляюцца і ў ІІ частцы «Дзядоў». Там яны сцігуюць прывід злога пана. Старажытную веру беларусаў у Пяруна, які сваімі стрэламі паўсюль, нават у жытле чалавека, насцігае злых духаў, А.Міцкевіч выкарыстоўвае і ў VIII сцэне ІІІ часткі драматычнай паэмы. Тут маецца на ўвазе гвалтоўная смерць аднаго з адмоўных персанажаў – Доктара, якога забівае маланкай:

---

[311] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 252.

[312] Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 137.

[313] Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 267.

Забіты ўпаў. Факт гэты вывучэння варты:
Грамаадводаў дзесяць там і во – ці ж жарты! –
Забіла ў спальні. Гром там не крануў нічога,
А толькі срэбра, што ля доктара самога
Ляжала на бюро, тым громам растапіла –
Відаць, правадніком разраду паслужыла.[314]
*(Пераклад К.Цвіркі)*

Адразу зробім невялікую заўвагу, якая тычыцца перакладу дадзенага ўрыўку: у арыгінальным тэксце Доктара забівае пярун (piorun go w ostatnim pokoju wytropii[315]), а не гром, як пераклаў К.Цвірка. Тут існуе прынцыповая розніца. Справа ў тым, што «і бляск маланкі, і ўдар грому на Беларусі завуць пярунам, калі ж пачынаецца навальніца, беларусы хаваюцца ў хатах, ускрыкваючы: «ай, ай, Пярун заб'е!» Да гэтага часу чутны праклёны: «каб цябе Пярун узяў».[316] Такім чынам, Доктар памірае не проста ад выпадку, але караецца за свае грахі. Заўважым, што побач з інтэрпрэтацыяй язычніцкага міфа, А.Міцкевіч уводзіць матыў з міфалогіі хрысціянскай: срэбраныя рублі Доктара – гэта срэбра Юды, здрайцы Хрыста. Дадзены матыў набывае яшчэ большую выразнасць, калі прыгадаць V сцэну ІІІ часткі «Дзядоў», у якой айчына ўвасабляецца паэтам у вобразе Месіі, збаўцы свету. Што ж тычыцца Доктара, то з яго асобай звязана яшчэ адна народная прыкмета, вельмі дарэчы ўведзеная аўтарам: незадоўга да смерці паслугач Сенатара звяртае ўвагу на спынены ход свайго гадзінніка. Канешне, згодна з народнымі ўяўленнямі, гэта не абяцае нічога добрага. Але самае цікавае, што сутнасць народнай прыкметы, фактычна забабону, агучвае ксёндз Пётр.

Калі ўспомніць IV частку драматычнай паэмы, то там Ксёндз з'яўляецца носьбітам светапогляду цалкам супрацьлеглага народнаму светасузіранню. У ІІІ частцы паэт змяняе акцэнты: служка Хрыстовай Царквы цяпер служыць таксама і простым людзям, як гэта рабіў Гусляр. Зрэшты, такая метамарфоза чарговы раз сцвярджае Міцкевічаву ідэю «Радзімы-Хрыста», у якім (якой) лучацца ўсе вернікі (патрыёты бацькаўшчыны).

---

314 Міцкевіч, А. Дзяды : паэма / А. Міцкевіч. – Мінск: «Беллітфонд», 2001. – С. 229.

315 Mickiewicz, A. Dzieia: w XVII t. / A. Mickiewicz. – Warszawa: Czytelnik, 1999. – T. III. – S. 248.

316 Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. значении: Литов. и Белорус. Полесье: репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Минск: БелЭн, 1994. – С. 267.

Разглядаючы праблему ўплыву фактараў беларускай культуры на творчасць А.Міцкевіча, у прыватнасці на III частку драматычнай паэмы «Дзяды», нельга не звярнуць увагу на IX сцэну, якая носіць назву «Ноч Дзядоў». Важнасць яе заключаецца перш за ўсё ў тым, што яна не дае дрэзданскай частцы ператварыцца ў незалежны, самастойны мастацкі твор. «Ноч Дзядоў» аб'ядноўвае усе тры часткі паэмы, як у сваю чаргу III частка злучае віленска-ковенскі і эміграцыйны перыяды творчасці А.Міцкевіча. Дзякуючы дадзенай сцэне, чытач вяртаецца на тое самае месца, адкуль усё пачыналася: зноў мы бачым Гусляра, зноў мастацкая прастора запаўняецца неверагоднымі з'явамі, цудамі, прывідамі, духамі. Такім чынам, філасофія беларускага памінальнага абраду, якая сцвярджае непарыўную сувязь паміж светам жывых і светам мёртвых (сучаснасцю і гісторыяй), увасабляецца ў «Дзядах» А.Міцкевіча не толькі на ўзроўні ідэі, але і ў структурна-кампазіцыйнай будове твору.

Прааналізаваўшы ўсе часткі драматычнай паэмы, можна сцвярджаць, што беларускі памінальны абрад, яго творчае і філасофскае асэнсаванне паэтам, адыгралі галоўную ролю ў фарміраванні ўсіх мастацкіх узроўняў твору. Узяўшы пад увагу гэтую акалічнасць, можна зрабіць наступныя высновы:

– беларускі памінальны абрад не толькі аб'яднаў драматычную паэму А.Міцкевіча, але і злучыў у адно розныя перыяды творчасці паэта;

– беларускія Дзяды абумовілі ўвядзенне ў сюжэт драматычнай паэмы шэраг другіх фальклорных вобразаў і матываў, тым самым падкрэсліўшы цэласнасць і ўзаемаабумоўленасць беларускай народнай культуры;

– творчае выкарыстанне беларускага народнага абраду дапамагло А.Міцкевічу выявіць, акрэсліць і ўвасобіць у мастацкім творы галоўныя эстэтычныя прынцыпы рамантызму;

– філасофскае асэнсаванне беларускага абраду Дзядоў дазволіла А.Міцкевічу выявіць ролю творчай асобы ў адносінах да свайго народа і радзімы;

– дзякуючы беларускаму абраду, які складае аснову ідэйнай сутнасці драматычнай паэмы «Дзяды», творчасць А.Міцкевіча выходзіць на якасна новы ўзровень, а сам твор становіцца лепшым узорам еўрапейскага рамантызму.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Праведзены аналіз мастацкіх тэкстаў Адама Міцкевіча у святле ўплыву на паэта фактараў беларускай культуры, а таксама вызначэнне месца і ролі пісьменніка ў кантэксце беларуска-польскіх гісторыка-літаратурных і этнакультурных сувязей, дазваляюць зрабіць наступныя высновы:

1. Фарміраванне творчай свядомасці А.Міцкевіча адбывалася пад выразным уздзеяннем сукупнасці фактараў беларускай культуры. Фальклор, мова, побыт і звычаі беларускага народа, сярод якога паэт нарадзіўся і правёў значную частку свайго жыцця, яго гісторыя, міфалогія, а таксама старабеларуская літаратура сталі для паэта невычэрпнай крыніцай шматлікіх вобразаў, сюжэтаў, тэм і ідэй. Самабытная культура і традыцыі беларусаў прадвызначылі творчую індывідуальнасць А.Міцкевіча, будучы своеасаблівым стымулам і каталізатарам яго асабістых мастацкіх пошукаў.

2. Любоў А.Міцкевіча да малой радзімы, Навагрудчыны, а таксама маральны прынцып, змест якога – адданасць усяму, што звязана з суверэнітэтам, незалежнасцю і самастойнасцю Вялікага Княства Літоўскага, вера ў яго адраджэнне, надзея на вяртанне страчаных ідэалаў, на якіх выхоўваўся паэт, заклалі падмурак яго рамантычнага светапогляду. Патрыятызм А.Міцкевіча, які з'яўляецца заканамернай прычынай яго рамантызму, праявіўся спачатку толькі ў адносінах да Вялікага Княства Літоўскага, аб чым сведчыць шэраг твораў паэта, напісаных у віленска-ковенскі перыяд. Аўтар балады «Свіцязь», паэм «Мешка, князь Навагрудка» і «Гражына» Рэч Паспалітую ўспрымаў даволі абстрактна і толькі з напісаннем балады «Тры Будрысы» (1827 г.) можна гаварыць аб пераходзе А.Міцкевіча ад «вузкага», «ліцвінскага» ўспрыняцця і мастацка-эстэтычнага асэнсавання радзімы да больш «шырокага», «рэчапаспалітаўскага», з якога традыцыйна бярэ свой пачатак рамантычная традыцыя ў польскай літаратуры.

3. Творчая індывідуальнасць А.Міцкевіча як паэта-рамантыка, якая выявілася ў першым яго зборніку, у прыватнасці ў «Баладах і рамансах», заснавана на найлепшых традыцыях вуснай народнай творчасці беларусаў, асабліва фальклоры Навагрудчыны, які пісьменнік ведаў з дзяцінства, любіў і шанаваў. Мясцовы фальклор паэт творча апрацоўваў, спалучаючы народныя матывы, вобразы і сюжэты з уласнымі мастацкімі знаходкамі. Пры стварэнні непаўторнага рамантычнага свету «Балад і рамансаў», крыніцай натхнення для А.Міцкевіча паслужылі акрамя беларускага фальклору, яшчэ народныя абрады і звычаі беларусаў. Гэта сведчыць пра

ўзаемаабумоўленасць розных фактараў беларускай культуры, якія ўвесь час уплывалі на творчую і эстэтычную свядомасць паэта.

4. У гісторыка-літаратурным плане значэнне А.Міцкевіча акрэсліваецца перш за ўсё тым, што на творчай і інтэлектуальнай прасторы колішняй Рэчы Паспалітай ён стаў першым, хто прыняў бок рамантызму, даўшы пачатак польскай і беларускай рамантычнай літаратурнай традыцыі. Калі ў «Баладах і рамансах» А.Міцкевіч заявіў пра сябе як паэт-рамантык, то ў драматычнай паэме «Дзяды» ён выявіў сябе яшчэ і як тэарэтык рамантызму, акрэсліўшы і ўвасобіўшы ў гэтым творы, дзякуючы філасофскаму асэнсаванню беларускага памінальнага абраду, галоўныя эстэтычныя прынцыпы рамантычнага светапогляду.

5. «Беларускасць» А.Міцкевіча, якая выявілася на тэматычным, вобразным, стылёвым і іншых мастацкіх узроўнях яго твораў, дазваляе сцвярджаць аб унікальнай ролі беларускай культуры ў гісторыка-літаратурным працэсе Польшчы XIX стагоддзя. Спадчына паэта побач са спадчынай іншых польскамоўных пісьменнікаў – ураджэнцаў Беларусі, арганічна ўваходзіць у нацыянальны кантэкст дзвюх культур, гэта значыць у аднолькава суразмерных адносінах належыць як польскаму, так і беларускаму народам.

## ПЫТАННІ ДА ПРАКТЫЧНЫХ ЗАНЯТКАЎ

1. Роля А.Міцкевіча ў развіцці польскай і беларускай рамантычнай літаратуры ў аспекце іх узаемных уплываў.

2. А.Міцкевіч у ацэнках беларускага і замежнага літаратуразнаўства.

3. Перыядызацыя творчасці А.Міцкевіча (паводле А.Лойкі, С.Мусіенкі).

4. Дзіцячыя і юнацкія гады паэта.

5. «Віленска-ковенскі» альбо «трансфарматыўна-творчы» перыяд у творчасці А.Міцкевіча.

6. Стымулы паэтычнай творчасці А. Міцкевіча. Знаёмства паэта з Марыляй Верашчак. Вучоба А.Міцкевіча ў Віленскім універсітэце.

7. Вытокі рамантызму ў творчасці А.Міцкевіча.

8. Аналіз сувязей А.Міцкевіча з Беларуссю, якія прадвызначылі развіццё творчасці паэта ў рэчышчы рамантычнага мастацтва.

9. «Ліцвінскасць» А.Міцкевіча, як фармант рамантычнага светапогляду. Супрацьпастаўленне «ліцвінскасці» і «польскасці» паэта.

10. Праца над першай кнігай «Паэзіі». Беларускі субстрат у творчасці А.Міцкевіча. «Балады і рамансы» у святле беларускага фальклору.

11. Праца над другой кнігай «Паэзіі». Гісторыя і сучаснасць у творчасці А.Міцкевіча. Уплыў старабеларускай літаратуры.

12. Беларуская міфалогія, фальклор, народныя абрады ў творчасці А.Міцкевіча, іх уплыў на эстэтычную свядомасць паэта.

13. «Балады і рамансы» і «Дзяды»: эвалюцыя рамантычнага героя А.Міцкевіча.

14. Высылка А.Міцкевіча. «Настальгічны» перыяд ў творчасці паэта. Жыццё і творчасць А.Міцкевіча у Расіі. Эміграцыя А.Міцкевіча ў Еўропу. Праца над «дрэзданскай», 3-яй часткай «Дзядоў».

15. Праблема гістарычнага мінулага Беларусі ў паэме А.Міцкевіча «Мешка, князь Навагрудка».

16. Беларускія рэаліі ў ліра-эпічнай паэме А.Міцкевіча «Гражына». Ідэйна-эстэтычныя асаблівасці гэтага твору.

17. Беларускі фальклор у «Баладах і рамансах» А.Міцкевіча. Балада А.Міцкевіча «Свіцязь» як прыклад «ліцвінскасці» польскага рамантыка.

18. Беларускі народны абрад у драматычнай паэме А.Міцкевіча «Дзяды».

19. Творчае і філасофскае асэнсаванне паэтам старажытнага памінальнага абраду.

20. Фальклорныя вобразы і матывы ў 2-ой і 4-ай частках «Дзядоў».

21. Вобраз Гусляра як увасабленне народнага светасузірання.

22. Беларускія гістарычныя матывы ў паэме А.Міцкевіча «Конрад Валенрод».

23. Настальгічныя матывы ў «Крымскіх санетах» А.Міцкевіча.

24. Дрэзданскія «Дзяды» на фоне віленска-ковенскіх «Дзядоў» А.Міцкевіча.

25. «Пан Тадэвуш» А.Міцкевіча як энцыклапедыя польскага і беларускага жыцця канца XVIII – пачатку XIX стагоддзя.

## СПІС РЭКАМЕНДАВАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

1. Баргановіч, І. Э. Авангард і трыдыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Э. Багдановіч. – Мінск: Бел. навука, 2001. – 387 с.

2. Брусевіч, А. Падтытулы ў «Баладах і рамансах» Адама Міцкевіча. Іх роля і функцыя ў святле беларускага фальклора / А. Брусевіч // Весн. Гродзен. дзярж. ун–та імя Янкі Купалы. Сер. 1, Гуманітар. Навукі. – 2003. – № 2. – С. 136–139.

3. Брусевіч, А. Беларускія вытокі рамантызму Адама Міцкевіча / А. Брусевіч // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та імя Янкі Купалы. Сер. 1. Гуманітар. навукі. – 2003. – № 4. – С.198–206.

4. Брусевіч, А. Беларускія матывы ў «Літоўскай аповесці» Адама Міцкевіча / А. Брусевіч // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та імя Янкі Купалы. Сер. 1. Гуманітар. навукі. – 2004. – № 1. – С. 119–124.

5. Брусевіч, А. Беларускія гістарычныя матывы ў творчасці Адама Міцкевіча віленска-ковенскага перыяду / А. Брусевіч // Весн. Мазыр. дзярж. пед. ун–та. – 2004. – № 1. – С. 48–51.

6. Брусевіч, А. Вобраз Гусляра ў «Дзядах» Адама Міцкевіча / А. Брусевіч // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та імя Янкі Купалы. Сер. 1, Гуманітар. навукі. – 2005. – № 4. – С. 151–155.

7. Брусевіч, А. «Беларуская тэма» у міцкевічазнаўстве / А. Брусевіч // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та імя Янкі Купалы. Сер. 3, Філалогія, педагогіка. – 2006. – № 4. – С. 6 – 11.

8. Дрозд, С. Адам Міцкевіч і Янка Купала: духоўнае пабрацімства (беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі XIX – пачатку XX стагоддзяў) / С. Дрозд. – Гродна: Фірма «АВС», 1998. – 142 с.

9. Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура / А. Лойка. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1959. – 135 с.
10. Мархель, У. І. «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. – Мінск: Бел. навука, 1998. – 125 с.
11. Мусиенко, С. Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича / С. Мусиенко // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – С. 199–216.
12. Мусіенка, С. Рух героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» / С. Мусіенка // Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: матэрыялы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 54–62.
13. Мусіенка, С. Беларускія абрады і фальклор у творчасці Адама Міцкевіча / С. Мусіенка // Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: мат-лы IX міжнар. навук. канф. «Шлях да ўзаемнасці», Беласток, 20–22 ліп. 2001 г. / пад рэд. М. Кандрацюка. – Беласток: Wydawnictwo Uniwersytetu w Biaiymstoku, 2002. – С. 141–157.
14. Мусіенка, С.П. Беларускі фальклор і праблема рамантычнага героя (русалкі) у творчасці А.Міцкевіча, А. Пушкіна, Т. Шаўчэнкі / С.П. Мусіенка // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка: мат-лы XIII міжнар. з’езду славістаў, Любляна, 2003 г.: дакл. бел. дэлегацыі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – С. 337–353.
15. Адам Міцкевіч і Беларусь / уклад. В. Грышкевіч; навук. рэд. А. Мальдзіс, Т. Нягодзіш. – Мінск.: ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. – 320 с.
16. Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: мат-лы міжнар. навук. канф., Мінск, 7-11 верас. 1998 г. / пад рэд. Н. Давыдзенка, А. Мальдзіс (гал. рэд.). – Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. – 448 с.
17. Адам Міцкевіч і сусветная культура: матэрыялы міжнар. навук. канф., Гродна – Навагрудак, 12 – 17 мая 1997 г.: у 5 кн. / Мін-ва адук. Рэсп. Беларусь, Гродзен. дзярж. ун-т імя Я. Купалы, Варшаўскі ун-т, Гданьскі ун-т, Седлецкая вышэйш. пед. школа. – Варшава – Гданьск – Седльце – Гродна, 1998 – 2000. – Кн. 1 – 5.
18. Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: мат-лы «круглага стала» і міжнар. навук. канф., Гродна, 15-18 верас. 1999 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 1999. – 293 с.
19. «З краю Навагрудскага» (малая айчына ў жыцці і творчасці Адама Міцкевіча: зб. навук. прац / пад рэд. праф. С.П. Мусіенкі. – Гродна: ГрДУ, 2006. – 402 с.
20. История польской литературы: в 2 т. – М.: Наука, 1968. – Т. 1. – 616 с.

# ТЭКСТЫ ДЛЯ АБАВЯЗКОВАГА ПРАЧЫТАННЯ

Адам Міцкевіч:

1. «Мешка, князь Навагрудка».
2. «Балады і рамансы».
3. «Гражына».
4. «Дзяды».
5. «Конрад Валенрод».
6. «Крымскія санеты».
7. «Пан Тадэвуш».

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# Змест

Вучэбнаае выданне

**Брусевіч** Анатоль Аляксандравіч

ФАКТАРЫ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ
Ў ТВОРЧАСЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Дапаможнік

Рэдактар *І.А. Ушакова*
Камп’ютарная вёрстка: *Р.М. Баранчык*
Дызайн вокладкі: *В.В. Канчуга*

Здадзена ў набор 25.06.2007. Падпісана да друку 10.12.2007.
Фармат 60x84/16. Папера афсетная.
Друк RISO. Гарнітура Таймс.
Ум.-друк. арк. 7,9. Ул.-выд. арк. 8,6. Тыраж 70 экз. Заказ

Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
універсітэт імя Янкі Купалы»
ЛВ № 02330/0133257 ад 30.04.2004. Завулак Тэлеграфны, 15 а, 230023, Гродна.

Надрукавана на тэхніцы выдавецкага цэнтра
Установы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
універсітэт імя Янкі Купалы»
ЛП № 02330/0056882 ад 30.04.2004. Завулак. Тэлеграфны, 15 а, 230023, Гродна.